# ПЕРШЫЯ Ў РЭСПУБЛІЦЫ

ФОТАРЭПАРТАЖ З КУПІСКА

тэкст гл. на стар. 20.







Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск.

Год выдання IV.

№ 7(40).

Ліпень.

1956 г.

У Мінску ў парку імя Горкага адбыўся мітынг камсамольцаў, якія ад'язджаюць у Сібір і на Далёкі Усход. На здымку: агульны выгляд мітынгу.

Фото А. Дзітлава.






Правады першай партыі камсамольцаў Сталінскага раёна гор. Мінска, якія едуць на работу на Далёкі Усход.
Фото С. Чырэшкіна і М. Мінковіча.

# ІХ КЛІЧУЦЬ НОВЫЯ ДАРОГІ

Днём і ноччу імчаць на Усход пасажырскія цягнікі. І заўсёды, калі спыняецца на станцыі састаў, на пероне пануе ажыўленне. Адны сустракаюць гасцей, другія праводзяць сяброў, родных. Але ніколі не бывала так людна на перонах станцый, як у чэрвеньскія дні гэтага года. На новыя землі, у далёкую, апавітую легендамі і казкамі, поўную рамантыкі Сібір адпраўляліся беларускія хлопцы і дзяўчаты. Не ў госці, а на сталае гаспадаранне едзе туды моладзь.

Тысячагоддзі ляжала някранутай тайга, хаваючы ў сваіх нетрах незлічоныя багацці. Не раз дапытлівыя людзі ў адзіночку, невялікімі групамі хадзілі туды ў разведку. За апошнія дзвесце год іх нястомнай энергіяй, нязломнай воляй было зроблена мноства гістарычных адкрыццяў. Імёны гэтых піянераў наступу на Сібір засталіся на картах свету.

Толькі што маглі зрабіць адзінкі? Першую сапраўдную сцежку прасекла на ўсход моладзь першага пакалення савецкай улады. Яе імя ёсць таксама на карце свету — гэта горад Комсамольск.

Цяпер зноў у далёкую Сібір, на Усход едуць маладыя людзі. Захапляючыя справы чакаюць іх там.

Ім не трэба будзе хадзіць на мядзведзя з рагацінай, каб здабыць на зіму мяса і цёплую шкуру, ім не прыйдзецца з сякерай наступаць на непраходныя лясы. Навасёлаў чакаюць шматлікія агні новабудоўляў, вежавыя краны, кабіны бульдозераў, камбайны і трактары.

Не курныя хаты, а заводы, электрастанцыі, пасёлкі, клубы і тэатры едуць яны будаваць у Сібір.

Першымі ў нашай рэспубліцы адкрылі шлях на Усход комсамольцы Сталінскага раёна Мінска. Праводзіць пасланцоў Беларусі прыйшлі не толькі родныя і таварышы, але юнакі і дзяўчаты з многіх фабрык і заводаў сталіцы.

Сярод ад'язджаючых многа знаёмых, тых, хто першымі прынёс свае заявы з просьбай паслаць іх на далёкі, але такі родны ўсім нам усход. Тут і токар аўтамабільнага завода Уладзімір Камароў, і рабочы райпромкамбіната Віктар Шкурын, і работніца велазавода Ніна Марціновіч, і яшчэ дзесяткі другіх патрыётаў.

Услед за імі адправіліся на Усход добраахвотнікі Віцебска, Гомеля, Брэста і Гродна. У Сапоцкінскім раёне, напрыклад, заявы з просьбай паслаць у Сібір падавалі цэлыя комсамольскія арганізацыі.

Цяпер, калі ты, дарагі чытач, праглядаеш вось гэтыя радкі, першыя добраахвотнікі ўжо прыехалі на месца, у Хабараўскі край, асталяваліся там на сталае жыццё. Як там у іх ідуць справы, ці лёгка ім знаходзіць дарогу ў сапраўднае жыццё? Можа, цяжка прыходзіцца ў гэтыя першыя дні навасепля? Гэтае пытанне хвалюе не толькі родных, але ўсіх комсамольцаў рэспублікі.

Мы ведаем адно: нашы таварышы не зганьбяць свайго пачэснага звання. Некалькі год назад мы вось так праводзілі добраахвотнікаў у казахстанскія стэпы і з нецярплівасцю чакалі весткі ад іх. Першую вестку прынёс тады тэлеграф: ён паведамляў, што беларускія комсамольцы з гонарам трымаюць экзамен. І новыя пасланцы комсамола Беларусі будуць у першых шэрагах будаўнікоў новай Сібіры.

Шчаслівага шляху, сябры! Няхай бязвоблачным будзе для вас сібірскае неба, няхай усюды спадарожнічае вам поспех!

## Бернард Шоу

Імя Бернарда Шоу стаіць побач з імёнамі Свіфта і Фільдзінга, Дзікенса і Тэкерэя, як імя таленавітага сатырыка англійскай літаратуры.

Па закліку Сусветнага Савета Міру стагоддзе з дня нараджэння Б. Шоу адзначаецца ва ўсіх краінах свету.

Імя вялікага англійскага пісьменніка карыстаецца прызнаннем у савецкіх чытачоў і гледачоў. Б. Шоу разам з іншымі нашымі сябрамі за мяжой выступаў з лозунгам: «Рукі прэч ад Расіі!», быў шчырым сябрам народа, які будуе сацыялізм, і заявіў: «Калі Расія знішчыць Гітлера, яна стане духоўным цэнтрам свету».

Погляды Б. Шоу былі надзвычай супярэчлівымі, і яшчэ Ф. Энгельс адзначыў яго як «парадаксальнага белетрыста».

Аднак пад велізарным уражаннем ад знаёмства з «Капіталам» К. Маркса пісьменнік паставіў у цэнтры сваёй творчасці сацыяльныя інтарэсы і падышоў да пераканання, што будучыня належыць пралетарыям. Б. Шоу няпрыязна ставіўся да пошукаў дэкадэнтаў, натуралістаў і эстэтаў. Зоркамі першай велічыні ў сучаснай яму драме ён лічыў Ібсэна і Талстога, Чэхава і Горкага.

Свой творчы шлях Б. Шоу пачаў з раманаў зараз менш вядомых, чым яго славутая драматургія. У раманах «Неразумны шлюб» (1880), «Каханне артыстаў» (1881), «Сацыяліст-адзіночка» (1883) аўтар набліжаецца да ўзняцця значных сацыяльных пытанняў; так званай «залатой моладзі», якая марнатравіць жыццё, пісьменнік супрацьпастаўляе працоўнага чалавека. «Трушчобы», «Рамяство пані Уорэн», якія сам пісьменнік назваў «непрыемнымі п'есамі», здзівілі публіку дзёрзкасцю сюжэтаў і смеласцю выкрывання. Яны выклікалі бурны пратэст з боку буржуазнай крытыкі. Аўтар быў адлучаны ад тэатра толькі за тое, што меў нармальны погляд на рэчы. Драматычныя памфлеты Б. Шоу і зараз карыстаюцца ўвагай нашых гледачоў.

Але і ў так званых «прыемных п'есах» хавалася вастрыё сатыры, выкрывалася ілжывая гераіка войн. Меладрама «Вучань д'ябла», знаёмая многім гледачам Беларусі, паказвае, што прыгнечаны хадавой мараллю буржуазнага грамадства чалавек робіцца дзейсным прыхільнікам гуманізма. Тут-жа Б. Шоу паказаў народ, які вырастае ў барацьбе за свабоду айчыны.

Б. Шоу з'явіўся смелым наватарам у галіне тэатра. Яго п'есы былі праблемнымі і востра канфліктнымі. Парадоксы не толькі панавалі ў рэпліках герояў Шоу, але і ў іх адносінах да ўстойлівых агульнапрынятых норм буржуазнай рэчаіснасці і маралі. Той, хто здаецца ў яго п'есе спачатку неразумным, аказваецца і найбольш чалавечным і найбольш разумным, а зганьбаванымі выступаюць прадстаўнікі буржуазіі.

Узрушаны падзеямі 1914—1918 гг., Шоу ў памфлеце «Правільны сэнс аб вайне» пісаў: «Адзіным лякарствам для ўсіх армій было-б перастраляць афіцэраў, вярнуцца дадому і зрабіць рэвалюцыю». Амаль чатыры гады пісаў Б. Шоу п'есу «Дом, дзе разбіваюцца сэрцы», названую ім «фантазіяй у рускай манеры на англійскую тэму». Тут дом капітана Штавера, таленавітага вынаходцы, якому аплачваюць толькі ўдасканальванне смерці, становіцца арэнай сутычкі «практычных дзелавых людзей» і надломленых інтэлігентаў. У гневе і адчаі гэтыя інтэлігенты дэмаскіруюць свой дом у час паветранага налёту, каб хоць такім чынам «пазбавіцца ад зладзеяў-джэнтльменаў, для якіх сусвет — нешта накшталт кармушкі, куды яны лезуць сваім шчаціністым лычам, каб набіць сабе бруха».

Пісьменнік адмаўляў і ваенныя падрыхтаванні і «недасведчаную пачварную бяссэнсіцу, называемую праграмай вайны супраць камунізма». І калі Б. Шоу, як смеламу выкрывальніку імперыялізма і барацьбіту за мір, выказаў пачуццё сваёй павагі яшчэ М. Горкі, дык зараз усё перадавое прагрэсіўнае чалавецтва ўшаноўвае выдатнага англійскага пісьменніка, для якога ўсе спосабы жартаваць заключаліся ў тым, каб казаць праўду.

Д. ФАКТАРОВІЧ,
кандыдат філалагічных навук.

## Вялікі жывапісец

15 ліпеня ўсё прагрэсіўнае чалавецтва адзначае 350-годдзе з дня нараджэння вялікага галандскага мастака Рэмбрандта Харменса ван Рэйна. Сын заможнага млынара, ён вучыўся ва ўніверсітэце, але кінуў яго і стаў вучнем аднаго з выдатных мастакоў таго часу Пэтэра Ластмана. Уся яго наступная дзейнасць — барацьба за рэалістычнае дэмакратычнае мастацтва.

Рэмбрандт, якога рускі крытык В. Стасаў называў «вялікім з вялікіх», дасягнуў адной з вяршынь у перадачы сродкамі жывапісу, рысунка і гравюры перажыванняў і пачуццяў чалавека.

Тэмамі яго карцін часта служаць біблейскія і міфалагічныя сюжэты (такая была тады традыцыя эпохі), але, як адзначае Карл Маркс, які высока цаніў творчасць Рэмбрандта, мастак «пісаў Мадонну ў выглядзе нідэрландскай сялянкі». Традыцыйныя і часта вымушаныя тэмы былі для мастака толькі формай адлюстравання сучаснай яму рэчаіснасці. Аднак Рэмбрандт часта адыходзіць ад умоўных сюжэтаў. Да нас дайшлі цудоўнейшыя па псіхалагічнай характарыстыцы і майстэрству партрэты яго сучаснікаў, нярэдка простых людзей, малюнкі блізкага яму жыцця («Начны дазор», «Урок анатоміі» і інш.).

Жыццё Рэмбрандта было поўным гора і нястач. Ён рана страчвае першую жонку — Саскію. У 1656 годзе мастак судом прызнаецца неплацежаздольным даўжніком, яго дом і калекцыі прадаюцца з аукцыёна. Але нішто не змагло зламаць Рэмбрандта. Надзвычай багатыя па сіле яго творы прыпадаюць якраз на гады старасці. Апошнія гады жыцця Рэмбрандта таксама поўныя цяжкіх страт: у 1664 годзе памірае яго другая жонка і верны сябра Хендрык'е, у 1668 годзе — любімы сын Тытус. 4 кастрычніка 1669 года памірае сам Рэмбрандт.

Доўгі час карціны мастака прадаваліся за бесцань, а многія з іх загінулі. Толькі ў сярэдзіне XVIII стагоддзя ўзрастае цікавасць да яго творчасці. Высока цанілі майстэрства Рэмбрандта рускія мастакі і крытыкі XIX стагоддзя, такія, як І. Рэпін, В. Сероў, І. Крамской, В. Стасаў і іншыя.

Рэмбрандт выступіў у сусветным мастацтве як сапраўдны наватар. Ён не толькі вырашыў бліскуча шэраг тэхнічных праблем жывапісу, у прыватнасці праблему святаценяў, але перш за ўсё ён у сваіх творах здолеў адлюстраваць жыццёвую праўду, паказваў, паводле слоў В. Стасава, «чалавека з яго знешнім і ўнутраным абліччам, з яго характарам, настроем, разуменнем».

Народы Савецкай краіны любяць і высока цэняць творчасць вялікага галандскага жывапісца. Адным з буйнейшых у свеце збораў яго карцін, рысункаў і гравюр з'яўляецца калекцыя Дзяржаўнага Эрмітажа ў Ленінградзе. Тут ёсць такія шэдэўры, як «Ахвярапрынашэнне Аўраама», «Даная», «Зняцце з крыжа», «Вяртанне блуднага сына», шэраг выдатных партрэтаў, і іншыя. Вялікім зборам карцін Рэмбрандта валодае і Музей выяўленчага мастацтва імя А. С. Пушкіна ў Маскве.

М. БАРЫСАЎ.

## Да знаходжання ў СССР Прэзідэнта Федэратыўнай Народнай Рэспублікі Югаславіі таварыша Іосіпа Броз Ціто

У Савецкім Саюзе гасціў Прэзідэнт Федэратыўнай Рэспублікі Югаславіі таварыш Іосіп Броз Ціто. Ён наведаў многія гарады, прадпрыемствы і калгасы.

Кіраўнікі КПСС і Савецкага ўрада, таварыш Ціто з жонкай і суправаджаючымі Прэзідэнта асобамі наведалі таксама Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку і Усесаюзную прамысловую выстаўку.

На здымку: 1. У аўтамабілі на тэрыторыі выстаўкі. Злева направа — Н. С. Хрушчоў, К. Е. Варашылаў, І. Броз Ціто і яго жонка.

2. Ля Галоўнага павільёна Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі.

3. Ля павільёна «Атамная энергія».

Фота В. Савасцянава.
(Фотахроніка ТАСС.)







Алесь ЗВОНАК

# Далёкі бераг

## Дзе пройдзе маладосць

Далёкі бераг пеністага мора,
З шырынь поўночных сцюжныя вятры.
Кладзе вялікай ночы шэры морак
Сваю далонь на белыя шатры.

А там, дзе даль паземкаю дыміцца,
Губляючы уласныя сляды,
Блукае маладая аляніца,
Адбіўшыся ад роднай чарады.

Пільнуе курапатку зыркі собаль,
І песняй цішыні звіняць снягі,
На след заечы важнаю асобай
Ідзе пясец, звужаючы кругі.

Успалыхне залётная камета,
На міг праклаўшы ў небе срэбны шрам,
І ловіць зрок, як добрую прыкмету,
Яе ў дарозе к новым берагам.

Дарма вятроў раптоўныя набегі
На нас склікалі ліха і бяду,
Спынялі сон кароткага начлега,
Ды не спынілі мужнасці хаду.

Як старадаўніх дзён землепраходцы,
Мы пракладалі ў новых землях шлях,
Бо там, дзе пройдуць ногі маладосці,
Жыццём дыхне і мёртвая зямля!

## Вясна ідзе...

Як першы крок вясны прыветнай,
Устала сонца над гарой,
І лёд, бы камень самацветны,
Блішчыць праменнаю ігрой.

І вось з усмешкаю дзявочай
Вясна кідаецца ўпярод,
У светлы пробліск белай ночы,
У сініх дзён кругазварот.

Рвучы скалы крутыя сцены,
Спаўзаюць з гор ледавікі,

Кладуцца донныя марэны
Пачаткам будучай ракі.

І гулкі пошчак б'ецца ў кручы
Стыхій, раз'юшаных гульнёй,
І абнімаецца пявучы
Вятрыска з юнаю сасной.

Вясна ідзе да нас на Поўнач
Пад грукат рэк, птушыны крык,
Бы напаіў вадой чароўнай
Яе раптоўна чараўнік.

У тры паясы ўстаюць вясёлкі,
Грымяць грамы над галавой.
Агні далёкага пасёлка
Прынаднай вабяць цеплынёй.

Я палюбіў той край шахцёраў,
Суровай дружбы пачуццё,
Геолагаў вясёлы нораў
І іх вандроўнае жыццё,

Шуканняў доўгіх асалоду,
Гул руднікоў, шырокіх лаў,
Людзей нязломнае пароды,
Адвагі з працай стойкі сплаў.

## Слаўлю жыццё

Мы з табою справілі заручыны
На зары далёкае пары.
Паварот дарогі пальцам скурчаным
Пнецца ў грудзі цёмнае гары.

Там мігценне захадаў аранжавых.
Смелы росчырк падаючых зор,
Там у небе над вяршыняй кражавай
Велічны арлан нясе дазор.

Там ізюбр, увесну панты скінуўшы,
Водзіць самку ў дзікім гушчары,
Ноч ідзе на досвітку да фініша,
Дзень страчаюць спевам снегіры.

Прыпадзі, душа мая, к падножжам тым,
Дзе крыніцы пачынаюць шлях,

Прыкладзіся вухам насцярожаным, —
Чуеш? Вольна дыхае зямля!

Гэта ёй ты ўся навек аддадзена
Чыстатою дум і пачуцця,
Гэта з ёй даўно умова складзена:
Жыць і славіць кожны дзень жыцця!

## Геолаг

Тады я быў намнога маладзей,
Цвярдзей была рука мая і воля.
Прайшоў я шмат па сушы і вадзе —
Дапытлівы шукальнік і геолаг.

Сталёвым адмысловым малатком
Я адбіваў кавалкі той пароды,
Дзе тонкі прожылак, дзе ракавісты злом
Мне адчыняў эпох мінулых воддаль.

Залог удач знаходзіў я ў рудзе,
Дзе ўкрапаны бліскучыя крышталі.

Я быў тады намнога маладзей,
І я шукаў паклад такіх металаў,

З якіх нязломнай волі інжынер
Здабудзе сплаў несакрушальнай сілы.
Ён быў, як я, зусім не малавер
І летуценным быў, як я, акрылен.

Уначы, як месяц закідаў вясло
У мёртвы зыб азёрнай срэбнай хвалі,

Кідаў я груды тугаплаўкіх слоў,
Распаленых да белага напала.

На, маё сонца, клікаў я, знайдзі,
Каторы камень найярчэйшы граню,
У якім адбітак непаўторных дзіў
Гарыць іскрой імкненняў палымяных!

Вазьмі яго з маіх нястомных рук,
Зірні на свет і ў ясным праламленні
Убачыш ты, майго юнацтва друг,
На кожнай грані радасць і здзіўленне!

## Успамін

Зубчастых гор зігзаг няроўны
Асветлен бляскам масянжовым.
У гушчары драмалі жоўны,
Крычалі ў зарасніку совы.

Бяздонны свет абліты срэбрам,
А цішыня, як груз свінцовы,
Лягла на сланцавыя рэбры,
На трыснягі і на ядловец.

Рачулка бегла без аглядкі,
Пятляла па шырокім логу,

Дзе нашы белыя палаткі
Стаялі ў рад каля дарогі.

Дымок круціўся колцам едкім,
Трашчалі смольныя карчагі...
Тут пачыналі мы разведку,
Тут першыя стаўлялі штагі.

Тут па адхонах скалаў голых
Шукалі кварцавыя жылы,
Тут мы — тапограф і геолаг —
Калісьці моцна падружылі.

Як зараз, бачу стан дзяўчынін
Каля трыногі нівеліра:
Нібы ўвесь свет вачам адчынен
І ў іх — здзіўлення погляд шчыры.

У парфірыт, у даламіты —
Гор непадатлівыя целы —
Мы білі штольні дынамітам,
Мы тою працаю гарэлі.

Мы дамагаліся, каб сэрцы
На карце краю таямніцы,
А таямніцам нашых сэрцаў
Не стала часу, каб раскрыцца.

## Бурхала

Па-якуцку Бурхала — шпаркая рака.
Мітусіцца паміж гор срэбраны рукаў.

А над ёй вясна ідзе подыхам вятроў,
А за ёй тайга гарыць полымем кастроў.

Над далінай па начах — камарыны звон,
А за ёй гара Марджот, дальні Оймякон.

Па-над прыіскам плыве дымчатая ноч,
Заглядаўся часта я ў залатое дно.

Думаў, шчасце я сваё на тым дне знайду,
Смагай змораны, я піў той ракі ваду.

У грудзі сланцавых парод прасякаў забой,
Клаў у скважын жарало агнявы набой,

У правалы, пад зямлю, у глыбокі карст
Апускаўся, каб знайсці багацейшы скарб.

Ды знайшоў яго не там, дзе даўно шукаў:
Каля рэчкі Бурхалы я цябе спаткаў.

Кроў у жылах — не вада, сэрца — не скала,
Да яго патайны ход ты сама знайшла.

З той пары згубіў спакой ды зазнаў бяды
Каля вышак буравых майстра малады.

Паміж скал крутых блішчыць срэбраны рукаў, —
Па каменьчыках звініць Бурхала-рака...

# Фестываль у Слоніме

І вось грымнуў духавы аркестр. Закружыліся ў вальсе пары.

**А. ДЗІТЛАЎ і І. НАУМЕНКА**

Нядзеля. З раніцы грукаюць па бруку ў напрамку да кірмашнай плошчы бясконцыя фурманкі, гудуць аўтамашыны. Калгасная вёска вязе ў горад агуркі, курэй, пшанічную муку і іншы прыпас. Людна ў магазінах і ларках, нават да раённай фатаграфіі ў гэты дзень не прабіцца.

Але і новы чалавек, які раней ніколі не быў у Слоніме, мог лёгка заўважыць, што незвычайнае ажыўленне ў гарадку тлумачыцца не адным толькі кірмашным днём. Вось у людскім патоку мільгнула постаць хлапца ў яркачырвонай сарочцы, падпяразанай шырокім слуцкім поясам. То там, то сям, нібы кветкі рамонак сярод зялёнага поля, пакажацца ў натоўпе чародка дзяўчат у беласнежных вышытых сукенках. Паглядзіце на сцены дамоў, на парканы, і вы адразу разгадаеце прычыну незвычайных убораў моладзі. Па ўсяму гарадку вывешаны аб'явы: «Сёння фестываль моладзі. Усе на фестываль!»

І вось сам фестываль... Трэба сказаць наперад, што ў гэтую нядзелю быў яшчэ не агульны раённы фестываль, а толькі так званы «Малы фестываль». Ён задуманы дзеля таго, каб праверыць, як рыхтуецца моладзь да вялікага фестывалю, да рэспубліканскай і ўсесаюзнай спартакіяды.

Сонца ў гэты дзень, нібы наўмысля, не пашкадавала ні цяпла, ні святла. Гарадок выглядаў па-святочнаму. Свята моладзі пачалося адразу ў двух месцах — у самім Слоніме і ў Жыровічах. Заглянем спачатку ў Жыровічы.

Сцены Жыровіцкага сельскага клуба не маглі ўмясціць усіх жадаючых, таму каля самага клуба зроблена імправізаваная сцэна. Каля яе сотня лавак. Але толькі нямногім пашанцавала сесці. Не ўсім нават удалося размясціцца на даволі шырокім двары клуба. Многія стаялі за агарожай, а найбольш прыткія і смелыя пазалазілі на дах двухпавярховага будынка тэхнікума механізацыі сельскай гаспадаркі, што размешчан якраз насупраць.

А на сцэне хор змяняецца дэкламацыяй, дэкламацыя сольнымі нумарамі, а далей — урыўкі з п'ес, акрабатычныя нумары, імклівая беларуская кадрыль і малдаўская полька.

На сцэне спаборнічаюць мастацкія калектывы сельскага клуба і сельскагаспадарчага тэхнікума. Перавага, здаецца, на баку студэнтаў. А ўвогуле і тыя і другія выступаюць цікава. Калектывы гэтыя маюць свае агітбрыгады, якія ледзь не штомесячна наведваюць навакольныя калгасы, наладжваюць свае канцэрты проста на полі.

А цяпер вернемся ў Слонім, дзе, вядома, сабралася больш мастацкіх сіл. Тут паказваюць свае поспехі мастацкія калектывы фабрыкі «Альберцін», 2-й і 5-й сярэдніх школ, прамысловай арцелі імя Жданава, раённага дома культуры і іншыя. Добрае, цёплае ўражанне выклікала выступленне аркестра народных інструментаў фабрыкі «Альберцін». Ёсць у гэтым вялікая заслуга мастацкага кіраўніка аркестра Канстанціна Міхайлавіча Шпакоўскага, старога аматара музыкі. Выдатна выступілі калектывы двух сярэдніх школ. Многа было ў гэты дзень масавых гульняў, музыкі, песень, танцаў.

Варта сказаць некалькі добрых слоў пра мастацкі калектыў раённага дома культуры. Гэта вельмі моцны калектыў. Даволі напомніць, што сваімі сіламі драмгуртон тут ставіць «У добры час» В. Розава, «Любоў Яравую» К. Трэнёва, «Жаніцьбу Бялугіна» А. Астроўскага і В. Салаўёва. Не без гонару ўспамінаюць драмгуртkоўцы, што ў іх асяроддзі выраслі сённяшнія артысты рускага тэатра імя Горкага А. Бялоў і артыстка тэатра лялек Л. Краснарадцава.

Раённы дом культуры аб'ядноўвае вакол сябе многіх здольных спевакоў, танцораў, імправізатараў. Убачылі мы ў Слоніме і яшчэ адну цікавую рысу. Сакратар райкома камсамола Кудашова Галіна Дзмітрыеўна — сама актыўны ўдзельнік мастацкай самадзейнасці. Яна выконвае некалькі роляў у п'есах, яна нязменны завадатар масавых гульняў, песень.

Гэты дзень быў гарачым і для спартсменаў. Ішлі спаборніцтвы па футболу і баскетболу. У Слонім прыехалі баскетбалісты з Дзятлава, футбалісты з Міра і Карэліч.

Першы агляд мастацкіх сіл, першае масавае свята моладзі прайшло з поспехам.

Многа цікавых гульняў было праведзена ў час фестывалю. А колькі ахвотнікаў удзельнічала ў іх!





Передавыя свінаркі калгаса імя Фрунзе Шклоўскага раёна, Магілёўскай вобласці, комсамолкі Паша Брыкіна, Марыя Радзькова, Тацяна Тарасава і Ліда Мулёва разглядаюць вынікі соцыялістычнага спаборніцтва жывёлаводаў вобласці.

Фото С. Чырэшкіна.

# МЫ З ТАБОЙ ЖЫВЁЛАВОДЫ

Валя ГРАМАКОЎСКАЯ,
даярка калгаса імя Фрунзе Шклоўскага раёна

Было-б, канешне, няправільна, няшчыра, калі-б я сказала, што не хацела шукаць, як той казаў, «лёгкага хлеба». Чамусьці ў нашай моладзі была ўсталявалася такая думка, што як толькі пераступіў школьны парог, дык шукай сабе недзе смачнейшы пірог. І я таксама падалася шукаць гэтага смачнейшага пірага. Як толькі ў леташнім годзе адгучала мелодыя школьнага вальса на выпускным вечары нашай Забродскай школы, я прыйшла дадому радасная і ўсхваляваная, што вось ужо пяройдзен той рубеж юнацтва, за якім пачынаецца сапраўдная чалавечая сталасць. Але спакою сабе не знайшла. Нават спаць не магла, усё думала, як далей жыць, як быць... Амаль усе мае сяброўкі пападавалі заявы — хто ў інстытут, хто ў тэхнікум. Маці гэта заўважыла і пытае ў мяне:

— Чаго гэта ты, Валя, месца сабе не знаходзіш? Хіба свая хата табе цеснай стала? Хіба свой калгасны хлеб табе агорк?

— Дык навошта-ж я вучылася, мама, каб сядзець пры вашым баку, пад вашым крылом?..

— А ты не сядзі. Хіба табе тут работы мала? Вунь які наш калгас — за дзень яго ўсяго не абыйдзеш, а работы ўсяе і за век не пераробіш.

Я разумела, што маці гэта гаварыла ад шчырага сэрца — ёй не хацелася са мной расставацца. Кожнай-ж маці балюча адпусціць ад сябе сваё дзіця. А мне ўсё-такі рупіла куды-небудзь падацца. Неяк сорамна нават было адставаць ад сваіх аднакласнікаў, і я надумала падаць заяву ў Магілёўскае радыёвучылішча. Нельга сказаць, каб я вельмі любіла радыёсправу. Я ніколі ёй не цікавілася. Падала заяву так сабе, каб куды-небудзь прыткнуцца. Але адтуль дакументы мае вярнуліся назад. У мяне было ў атэстаце некальکі троек. Зноў слёзы — зноў маці мяне суцяшае:

— Галава твая неразумная, — кажа яна. — Хіба ўжо свет клінам сышоўся? Ты-ж вунь паглядзі, як жыве Кацярына Лоўчая. Яна-ж ні прафесар, ні інжынер, а ў хаце ў яе дастатку больш, як у другога вучонага. Рукам тваім не прывыкаць да працы, дык бярыся ды рабі ў калгасе, і табе лепш будзе і майму, матчынаму, сэрцу спакайней.

І я ўзялася рабіць: зімою вазіла на поле торф, гной, хадзіла на іншыя работы, а вясною неяк да нас зайшоў наш старшыня Піліп Міхайлавіч Сяркоў і кажа мне:

— Вось што, Валя, табе, як той казаў, і бог вялеў ісці ў даяркі. Дзяўчына ты адукаваная, а ў нас такія фермы, што трэба чалавеку быць адукаванаму, каб па-сапраўднаму дабівацца самых высокіх надояў...

Старшыня расказаў мне пра вялікія планы на будучае; ён казаў, што ў сёлетнім годзе калгас павінен падвоіць надоі малака, дабіцца таго, каб жывёлагадоўля дала больш за мільён рублёў прыбытку.

— Ты-ж комсамолка, — дадаў старшыня, — дык табе і месца на ферме.

На комсамольскім сходзе мы таксама гаварылі пра тое, каб комсамольцы ішлі ў жывёлагадоўлю. На свінагадоўчай ферме была створана комсамольская група. Свінаркі-комсамолкі Лізунова Ліда, Брыкіна Паша, Мулёва Ліда, Тарасава Тацяна, Сяркова Каця дабіліся сваёй працай таго, што наша свінаферма стала лепшай у раёне. Кожны дзень іх працы даваў такія вынікі, што радасна станавілася на душы. Ды і малочна-таварная ферма заняла ў раёне трэцяе месца: у нас на кожныя сто гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў было атрымана на 1 красавіка 40 цэнтнераў малака. Адным словам, калгасная жывёлагадоўля ўвачавідкі ішла ўгару. І я цвёрда вырашыла пайсці працаваць на ферму...

Вядома, не ўсё адразу даецца лёгка. Да таго-ж мне далі кароў-перадоек. Ды я і не думала, што адразу ў мяне пойдзе гэтак-жа, як у Кацярыны Лоўчай ці ў Дар'і Гурынавай. Яны ўжо вунь колькі год працуюць на ферме! І рукі ўжо налаўчылі, і нораў кожнай каровы ведаюць. Падышла я першы раз даіць, аднымі пальцамі толькі бралася. Кацярына Лоўчая паглядзела на маю работу і кажа:

— Гэтак, дзяўчо, палавіну малака не будзеш выдойваць.

Яна сама села пад маю карову і паказала, як даіць усёй рукой.

— Трэба от гэтак, усёй рукой, дык малако будзе ўсё ў дайніцы.

Я паспрабавала даіць гэтак-жа, як і Кацярына. Спачатку не атрымлівалася, але з кожным днём я набывала спрыт, і ўжо к канцу першага тыдня справа ў мяне пайшла як мае быць.

Некаторыя думаюць, што даярцы не патрэбна адукацыя. Гэта няправільна — адукацыя ў наш час усюды трэба. Вось, напрыклад, я ўзяла брашуру знатнай даяркі Сакун, вывучыла яе вопыт раздою кароў, і мне ўсё стала зразумелым. А зоатэхнічныя веды — прачытаю кніжку і знаёма з імі. А каб да гэтага даходзіць сваім одумам, дык колькі-б гэта часу спатрэбілася!

Зноў-жа такі праз якога поўгода ў нас будзе ўсё электрыфікавана на фермах, дык тады вунь як спатрэбяцца мае веды!

На ферме я працую два з лішнім месяцы, а ўжо Кацярына Лоўчая, гледзячы на маю працу, гаворыць:

— Мы ўжо з табою, Валя, сапраўдныя жывёлаводы. Хутка і тваё імя будзе запісана ў раённым бюлетэні соцыялістычнага спаборніцтва.

І мне радасна робіцца ад гэтага, бо я знайшла сваю дарогу, простую і ясную. Нядаўна адбылася радасная падзея ў маёй працы — ацялілася карова «Чайка». Як я яе даглядала, дык аж самой нават не верыцца, што ў мяне можа быць столькі стараннасці. Ды гэтая стараннасць відаць і ў маёй працоўнай кніжцы — за апошні месяц у ёй запісана 60 працадзён. Гэта першыя мае шэсцьдзесят вялікіх працадзён. І гэта нямала. Калі падлічыць, што я на іх атрымаю: грошай каля поўтысячы, ды хлеба, ды бульбы, ды малака, ды яшчэ сяго-таго.

Хочацца мне яшчэ сказаць да гэткіх-жа маладых дзяўчат, як я, што скончылі ці канчаюць школы:

— Не бойцеся працоўнага мазаля, не бойцеся працы. Вашы гарачыя сэрцы, ваш дапытлівы розум, ваша адукацыя вунь як сёння патрэбны ў родных калгасах. Не паскупіцеся, аддавайце ўсё тое, што набылі ў школе, роднай зямлі, і вы заваюеце павагу, працоўную славу, вышэй за якую няма нічога на свеце.

Валя Грамакоўская.





# Сапраўдны сябар

Валянцін ЗУБ

Камедыя ў адной дзеі

Мал. А. Кашкурэвіча.

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

**Сяргей Яворка** — архітэктар.
**Віктар** — яго сябар.
**Таня.**
**Клава.**

Прасторны і светлы пакой, аднак вельмі запушчаны. На стале параскіданы кавалкі засохлага хлеба, тут-жа — перакуленая шклянка, запылены чайнік. На падлозе акуркі.

Калі падымаецца заслона, на сцэне нікога няма, потым скрыгочуць нямазаныя дзверы, і ў пакой з чамаданамі ў руках уваходзіць малады, статны хлопец.

Сяргей (паставіў чамаданы, радасна аглядае пакой). Мой родны кут, як ты мне мілы... (Распранаецца.) Праўду кажуць, у гасцях добра, а дома лепш. Толькі мой кут трохі таго... засмеціўся. (Бярэ венік, пачынае падмятаць падлогу.) Я так спяшаўся з ад'ездам, што не паспеў нават прыбраць. (Канчае падмятаць, ставіць венік у кут.) А што ў маёй паштовай скрынцы? Трэба глянуць. (Выходзіць і вяртаецца з вязкай пісем і газет, разрывае адзін пакет, чытае ўголас.) «Паважаны т. Яворка! Вам прысуджана другая прэмія — 10.000 рублёў за прадстаўлены Вамі на конкурс тыпавы праект калгаснага клуба». (Сяргей з радасці высока падскоквае.) Ура! Ай да я, ай да Серж! (Патрасае пісьмом.) Гэта будзе лепшы падарунак маёй Танюшы, але я пакуль што гэта буду трымаць у сакрэце. (Хавае пісьмо, распячатвае другое.) «Мілы Сяргейка! Тваё пісьмо я атрымала і два разы прыходзіла да цябе, але абодва разы, чамусьці, на дзвярах вісеў замок. Прыйду да цябе ў нядзелю 21-га, будзь, калі ласка, дома.

Клава».

(Спалохана.) Прыйдзе 21-га, у нядзелю. А сёння што? (Падыходзіць да календара, глядзіць.) 21-га! Нядзеля! (Заікаючыся.) І-і-і я-яна можа ў л-любую хвіліну прыйсці. Што-ж мне рабіць? (Налівае шклянку вады, прагна п'е, потым падбягае да сцяны, стукае кулакамі.) В-віктар! Віктар! Хутчэй да мяне! (Прыкладвае вуха, слухае.) Што здарылася? Прыйдзеш, даведаешся.

Усхвалявана ходзіць па пакоі, потым выглядвае ў акно.

Віктар (уваходзіць). Прывітанне! (Паціскаюць адзін аднаму рукі.) Ты даўно прыехаў?

Сяргей. Толькі што.

Віктар. І ўжо на непрыемнасць трапіў?

Сяргей. Ды яшчэ на якую, не ведаю, як і выкруціцца.

Віктар. Ну, расказвай, будзем думаць разам.

Сяргей. Ты ведаеш, як моцна я кахаю Таню?

Віктар. Ведаю.

Сяргей. І ведаеш, што мы і гадзіны не можам пабыць разам, каб не пасварыцца?

Віктар. Ну, ведаю. Ці мала я табе люміналу пацягаў, каб ты мог пасля сваркі заснуць.

Сяргей. Ну дык вось, нарэшце ўсё скончылася.

Віктар. Што? Ты з ёй развітаўся назаўсёды?

Сяргей. Не, скончыліся нашы сваркі. Мы цэлы месяц былі разам і не пасварыліся.

Віктар. Ого, гэта сапраўды дасягненне, нават не верыцца. (Трасе руку Сяргею.) Віншую, віншую. Хоць я тваю Таню ніколі не бачыў, але па тваіх расказах — гэта цудоўная дзяўчына.

Сяргей (упэўнена). Адна на ўвесь свет.

Віктар (радасна). Дык перада мною — самы шчаслівы чалавек?

Сяргей (трагічным голасам). Перад табою самы няшчасны чалавек.

Віктар. Не разумею, чаму?

Сяргей падае яму пісьмо.

Віктар (прачытаў). Звычайнае пісьмо. Ну, прыйдзе да цябе знаёмая, ну дык і што? Чаго ты панікуеш?

Сяргей. Ты гаворыш так, бо не ведаеш маёй Танюшы. Калі яна прыйдзе і ўбачыць у мяне дзяўчыну... быць бядзе. Мы аднойчы ішлі з ёй, і я паздароўкаўся з адной дзяўчынай, ну, і міла ўсміхнуўся, дык яна адразу надзьмулася.

Віктар. Ну, дык навошта ты ганяешся за двума зайцамі? Калі ў цябе ўсё наладзілася з Таняй, навошта ты яшчэ адной дзяўчыне галаву круціш?

Сяргей. І зусім я не кручу, проста разы два сустрэліся.

Віктар. Як-жа не круціш, калі ты ёй сам паслаў запрашэнне (паказвае пісьмо) прыйсці да цябе.

Сяргей. Паслаў. Але ты не ведаеш, у якім я быў стане, калі пасылаў гэтае пісьмо. У роспачы, у страшэнным адчаі.

Віктар. А што здарылася?

Сяргей. Я вельмі моцна пасварыўся з Таняй.

Віктар. З-за чаго?

Сяргей. Я тады якраз працаваў над праектам. Ён быў амаль ужо скончаны, а яна прыйшла, глянула і ў пух-прах разнесла мой праект.

Віктар. Што-ж яна табе сказала?

Сяргей. Ды разумееш, у маім праекце былі калоны, порцікі і рознае іншае ўбранства, вось гэта ёй і не спадабалася. Кажа, ты-ж праектуеш калгасны клуб, а не каралеўскі палац, дык навошта ўсе гэтыя цацкі? Колькі будзе такі клуб каштаваць? Тысяч чатырыста, адказваю. «Дык лепей за гэтыя грошы пабудаваць два клубы!»

Віктар. Яна так сказала?

Сяргей. Ага.

Віктар. Разумніца дзяўчына.

Сяргей. Цяпер і я гэта разумею.

Віктар. А тады што ты ёй сказаў? Падзякаваў за заўвагі?

Сяргей (змрочна). Падзякаваў, яшчэ і як. Сказаў, што яна любіць сунуць нос нават у такія справы, у якіх ні кропелькі не разумее.

Віктар. Ну, і хто з вас аказаўся правы?

Сяргей. Яна, вядома. Неўзабаве выйшла пастанова партыі і ўрада аб празмернасцях у архітэктуры.

Віктар. Тады ты паверыў дзяўчыне?

Сяргей. Не толькі паверыў, але сеў і перарабіў па яе заўвагах увесь праект і, як бачыш, вельмі ўдала, нават прэмію атрымаў.

Віктар. Ты павінен быць вельмі ўдзячны гэтай дзяўчыне.

Сяргей. Цяпер я сапраўды ўдзячны, а тады я ёй яшчэ такое сказаў...

Віктар. Што ты сказаў?

Сяргей. Я сказаў, што хто з ёю ажэніцца, увесь свой век будзе праклінаць.

Віктар. А яна што?

Сяргей. Сказала, што я дарэмна хвалююся, каму-каму, толькі не мне давядзецца праклінаць свой век.

Віктар. А ты што?

Сяргей. Адказаў словамі Лермантава: «Была без радости любовь, разлука будет без печали».

Віктар. А яна што?

Сяргей. Бразнула дзвярыма і пайшла.

Віктар. А ты што?

Сяргей. Вырашыў яшчэ больш насаліць ёй — усюды хадзіць з Клавай, каб яна не вельмі задавалася. Вось тады пад гарачую руку я і паслаў гэтае пісьмо Клаве і папрасіў яе прыйсці да мяне. А гэта яе адказ.

Віктар. А хто такая гэтая Клава?

Сяргей. Вельмі прыгожая дзяўчына. Я з ёй нядаўна пазнаёміўся.

Віктар. Дзе?

Сяргей. На танцах у Доме культуры.

Віктар. І паспеў ужо закахацца?

Сяргей. Не, але...

Віктар (грозна). Што але?

Сяргей. Яна вельмі прыгожая.

Віктар. Мала што прыгожая, а можа ў яе характар такі, што ты потым усё жыццё праклінаць будзеш.

Сяргей. Дык я-ж кажу табе, што я зусім не закахаўся ў яе.

Віктар. Калі закахаешся, тады ўжо будзе позна лячыць цябе.



Табе будуць гаварыць пра чорнае, а ты будзеш сцвярджаць — белае.

Сяргей. Дык што-ж мне рабіць, што рабіць?

Віктар. Вось, хлопча, мая табе парада. Пакуль што ты ні з той, ні з другой не то што жаніцца, а нават сустракацца не будзеш. Калі ты ўжо так заблытаўся ў сваіх сардэчных справах, што не хочаш сам зразумець, хто з іх больш шчыры, справядлівы, хто можа быць сапраўдным сябрам жыцця, то...

Сяргей. Я разумею, разумею. Таня, Таня, Таня...



Віктар. А гэта мы яшчэ паглядзім.

Сяргей. Ды што глядзець, калі і так усё ясна. Ты-ж не даслухаў мяне.

Віктар. Ну, дык расказвай.

Сяргей. Пасля таго, як я адаслаў свой праект на конкурс, я паехаў адпачываць да сваёй цёткі. Гляджу і вачам сваім не веру: па вуліцы каля вокнаў нашай хаты ідзе Таня. Яна прыехала на практыку, у школу.

Віктар. Цікава, а як-жа вы сустрэліся пасля такой сваркі?

Сяргей. Мы сустрэліся так радасна, быццам паміж намі нічога і не было. А пад канец дамовіліся: прыедзем у горад—будзем хадзіць у тэатры, у кіно, у паркі і ніколі не будзем больш сварыцца.

Віктар. Ну, дык і хадзіце сабе на здароўечка.

Сяргей. Добра табе гаварыць — хадзіце. А як-жа быць з Клавай? Яна-ж зараз прыйдзе. Сёння-ж нядзеля.

Віктар. А ты ўцячы з хаты.

Сяргей. Не магу.

Віктар. Чаму?

Сяргей. І Таня-ж сёння павінна прыйсці, а калі яна прыйдзе і не застане мяне, пішы прапала. Падумае — збег і пакрыўдзіцца на ўсё жыццё. Ого, яна з гонарам!

Віктар. І правільна зробіць. Трэба быць гаспадаром свайго слова.

Сяргей (у роспачы). Прапала маё жыццё, усё прапала.

Віктар (сярдзіта). Ціха ты, не панікуй, дай падумаць... (Ходзіць па пакоі, напружана думае, раптам спыніўся радасны.) Гэта будзе самая лепшая праверка, бо сапраўдны сябар толькі ў бядзе і пазнаецца. У цябе ёсць бінт?

Сяргей. Які бінт?

Віктар. Звычайны, што раны перавязваюць.

Сяргей. Ёсць. Але я не разумею, навошта ён?

Віктар. Не твая справа. Нясі бінт.

Сяргей выходзіць у суседні пакой і прыносіць скрутак бінту.

Віктар (бярэ бінт). А зараз распранайся.

Сяргей. Навошта гэта?

Віктар (грозна). Зараз-жа распранайся.

Сяргей выходзіць у суседні пакой, вяртаецца да палавіны распрануты.

Віктар. Ну вось, цяпер добра. (Падыходзіць да Віктара, пачынае абмотваць яго бінтам.)

Сяргей (глядзіць у люстэрка). Што ты з мяне зрабіў? Егіпецкую мумію?

Віктар. А цяпер кладзіся на канапу і стагні. Ды хутчэй, ужо нехта ідзе.

Сяргей кладзецца на канапу. Віктар накрывае яго коўдрай. Стук у дзверы.

Віктар. Уваходзьце!

Клава (уваходзіць прыгожая, з капрызным выразам твару, дзяўчына). Добры дзень.

Віктар (буркнуў). Добры дзень.

Клава. Прабачце, тут жыве Сяргей Яворка?

Віктар. Тут.

Клава. Я магу яго бачыць?

Віктар (падыходзіць да Сяргея, зрывае коўдру). Глядзіце.

Клава (жахнулася). Што з ім?

Віктар (накрывае Сяргея). Ды вось у аварыю трапіў, з такога чалавека шафёры праклятыя інваліда зрабілі. Галаву разбілі, паламалі рэбры, ногі...

Клава. Які жах, які жах!.. (Пасля паўзы.) А ён папраўіцца?

Віктар. Калі і папраўіцца, то ўсё роўна інвалідам застанецца.

Клава. А працаваць ён зможа?

Віктар. Чаму-ж не, будзе кошыкі плесці ці галошы заліваць.

Клава. А па спецыяльнасці, архітэктарам, ён ужо не зможа працаваць?

Віктар. Наўрад ці зможа, у яго-ж галава пашкоджана.

Клава. Ай-яй, як шкада, як шкада, такі здольны архітэктар быў...

Віктар. Цяпер усе аб гэтым гавораць.

Клава. Ён-жа на конкурсе другую прэмію атрымаў.

Віктар. Вам гэта вядома?

Клава. А як-жа. Я вельмі ўважліва сачыла за яго творчымі поспехамі. А зараз усё прапала. Усё! (Выцірае хусцінкай вочы.)

Віктар. Вы плачаце? Вам так шкада яго?

Клава. Вядома шкада, а яшчэ больш сябе.

Віктар. Сябе? А чаго-ж вам сябе шкадаваць, вы-ж пад машыну не трапілі: жывая, здаровая і... прыгожая.

Клава (нечакана да Віктара). Скажыце, а вы жанаты?

Віктар (разгублена). Не-е, а што?

Клава. А чаму вы не жэніцеся? (Дастае люстэрка, прыхарошваецца.)

Віктар. Няма часу.

**Марское мадэліраванне! Які гэта захапляючы занятак! У Мінскім Палацы піянераў каля ста вучняў займаюцца мадэліраваннем.**

На здымку: **У лабараторыі марскога мадэліравання Палаца піянераў.**

Фото І. Брэйво і Л. Пякарскага.

Клава (какетліва). Чым-жа вы так заняты, калі не сакрэт, або кім?

Віктар. Я вучуся.

Клава. Дзе?

Віктар. У аспірантуры.

Клава. У аспірантуры? О, дык вам абавязкова трэба жаніцца. Хто вас будзе падтрымліваць, калі вам будзе цяжка? Хто вас суцешыць? Гэта могуць зрабіць толькі ласкавыя жаночыя рукі.

Сяргей (стогне). О-о-ох!

Віктар. Прабачце, але мне трэба зрабіць перавязку хвораму.

Клава (хуценька). Давайце пойдзем сёння ў кіно.

Віктар (падумаў). Ну што-ж, можна...

Клава А дзе мы сустрэнемся?

Віктар. Дзе хочаце...

Сяргей. О-о-ох...

Клава (заспяшалася). Вы прыходзьце да нас!.. (Дастае алоўак, паперку, піша.) Вось мой адрас...

Віктар (прымае паперку). Добра, прыйду.

Клава (накіроўваецца да выхаду). Толькі абавязкова. Я вас буду чакаць. (Ля дзвярэй спыняецца.) А Сяргею, калі папраўіцца, перадайце мае віншаванні з атрыманнем прэміі. Бывайце.

Віктар. Бывайце! (Уздыхае з палёгкай.) Ну, вось і расправіліся.

Сяргей (смяецца). Але, здаецца, ты мяне выручыў, а сам уліп.

Віктар. Я не ведаў, як яе хутчэй выправадзіць, дык гатовы быў пайсці на ўсё.

Сяргей (падыходзіць да Віктара). А цяпер вызваляй мяне ад гэтых бінтоў.

Віктар. Не, братачка, пачакай яшчэ.

Сяргей. Чаго чакаць?

Віктар. Будзем правяраць усіх тваіх нявест.

Сяргей. Ты з глузду з'ехаў... Правяраць Таню?

Віктар. А як ты думаў? Заканаму ўсё ў ружовым святле ўяўляецца.

Лёгкі стук у дзверы. Сяргей бяжыць, кладзецца на канапу.

Віктар. Уваходзьце!

Уваходзіць статная чарнявая дзяўчына з строгім тварам.

Таня. Добры дзень.

Віктар. Дзень добры.

Таня. Я-б хацела пабачыць Сяргея Яворку.

Віктар. Можаце пабачыць, але задавальнення вялікага не атрымаеце.

Таня (насцярожана). Чаму?

Віктар. Ён трапіў пад аўтамашыну, яму разбіла галаву, паламала рэбры... Адным словам з чалавека інваліда зрабілі.

Таня (жахнулася). Што вы кажаце?

Віктар. Можаце самі глянуць... (Паказвае.)

Сяргей (стогне). О-о-ох...

Таня. А чаму, чаму ён дома, чаму не ў бальніцы?

Віктар. Ды гэта толькі што здарылася!

Таня. Дык чаму-ж вы дома яго трымаеце? Можа, яго ў бальніцу трэба адправіць. Я зараз доктара паклічу... (Хоча бегчы.)

Віктар (спалохана). Я паклікаў, паклікаў ужо, зараз прыедзе.

Таня. Тады я збегаю да аднаго майго знаёмага хірурга, няхай ён яго пагледзіць.

Віктар (засланяе сабой дзверы). Хірург яго ўжо глядзеў, глядзеў і ўсё зрабіў, што трэба...

Таня. А вы яму піць давалі? У параненых людзей вялікая смага. (Налівае вады, падносіць Сяргею.) Сяргейка, мілы, што з табой?

Сяргей (падхопліваецца). Танюша, ты не хвалюйся, са мной нічога...

Таня (суха). А гэта што за маскарад?

Сяргей (разгублена). Гэта?.. (Глядзіць на Віктара.)

Віктар (таксама не ведае, што сказаць). Гэта?..

Таня. Ага, я разумею... (Крута паварочваецца, выбягае з пакоя.)

Віктар (з захапленнем). Вось гэта дык дзяўчына. Сапраўдны сябар. Чалавек з вялікай літары!

Сяргей. Дык гэта-ж Таня, мая Таня...

Віктар. Дык чаго ты стаіш? Бяжы за ёй, затрымай, растлумач, хіба-ж можна ўпусціць такую дзяўчыну?

Сяргей хуценька апранаецца, выбягае.

Віктар (падыходзіць да акна, глядзіць). Дагнаў, дагнаў, нешта ёй горача гаворыць, клянецца... б'е сябе ў грудзі... Вось ідуць назад!

Сяргей і Таня ўваходзяць у пакой.

Сяргей (Тані). Будзь знаёма, гэта Віктар. Ратавальнік нашага кахання...

Віктар. Віншую вас, дарагія сябры, віншую! Жадаю вам доўгага, сапраўднага шчасця! (Паціскае рукі Тані і Сяргею.)

Заслона.







**Даярка калгаса імя Леніна Шклоўскага раёна комсамолка Зіна Путраменка вось ужо колькі год забяспечвае высокія надоі малака. У леташнім годзе яна надаіла па 2.500 літраў малака на карову, а сёлета абавязалася надаіць тры тысячы літраў.**

На здымку — **Зіна Путраменка з лабаранткай маслазавода Марыяй Паўловіч правяраюць якасць малака.**

Фото С. Чырэшкіна.



# У КРУШНІКАХ

**Аляксей КУЛАКОЎСКІ**

Мал. І. Давідовіча.

**Урывак з аповесці «Нявестка»**

**Аповесць прысвечана выхаванню калгаснай моладзі. Малады брыгадзір Віктар Бірук і сакратар комсамольскай арганізацыі брыгады Ларыса Крыніцкая шчыра пакахалі адно аднаго. З'яўляецца шчаслівая сям'я, аднак шчасце гэтае неўзабаве пачынае змрачнець па віне брыгадзіра. Выхаваны ў пяшчотах і звыклы да лёгкага хлеба, Віктар занадта лёгка паддаецца ўплыву некаторых адсталых людзей брыгады і пачынае зазнавацца, п'янстваваць, даходзіць нават да злачынства.**

**Ларыса і яе сяброўкі змагаюцца з гэтым. Поўнасцю аповесць друкуецца ў газеце «Чырвоная змена».**

Даніла нахіліўся над трухлявым падаконнікам і праз адталы ражок шыбы ўбачыў Ларысу. Ішла яна па вуліцы ў белым кароткім кажушку—аўчынкі мясцовага, крушнікоўскага, вырабу. Невялічкі каўнерык і манжэты — шэрыя. У вузкім ражку шыбы яна, здавалася, толькі мільгнула, а потым зноў вока ўпала на тое, што можна было ўбачыць адсюль кожны божы дзень: нізкі, пакрыўлены ад вуліцы агародчык, ледзь не да самай верхняй жэрдкі занесены снегам, каструбаватую рабіну пад левым вуглом хаты, калі глядзець на вуліцу.

Стары з натугай разагнуў паясніцу і падышоў да печы. Лезці на чарэн не хацелася, бо і ён сёння халодны. Прысеў на чачоткавую калодку, здзёўбаную з усіх бакоў сякерай.

У хаце была яшчэ шырокая лава, бог ведае з якога дзерава. Для таго каб гэта вызначыць, трэба было-б дзён два скрабці яе. Стаяла яна на сваіх нагах толькі таму, што рубам прыхінулася да сцяны. Быў яшчэ стол і невялікі ўслончык, а ложка ў Данілы не было. Ужо некалькі год ложкам для Данілы служыць печ. Начуе ён тут і зімой і ўлетку, і не трэба яму там амаль што ніякага ні засцілання, ні падсцілання. Таму ў мінулую зіму, калі ўзырыў холад, а дроў зусім не было, Даніла пасек ложак і можа з тыдзень прапальваў ім у печы.

Холадна і ў гэтую зіму. Дроў таксама няма, і ўжо секчы каля дому няма чаго. Хіба ўзяць ды ссекчы вось гэтую рабіну пад акном?

Даніла падумаў так, і яму стала яшчэ горш сумна. Пасадзіў ён гэтую рабіну, калі быў яшчэ маладым, у той год толькі ажаніўся. Састарэлі яны цяпер: і ён, і рабіна. Дык як-жа рука паднімецца? Возьмеш для гэтага сякеру, дык усё роўна, што на душу самому сабе наступіш. Лепш ужо ўзяць заўтра саначкі ды з'ездзіць саматугам у лес. Або там застанешся, або ўсё-ж такі прывязеш што-небудзь.

Нібы ў пошуках чаго на падпалку, Даніла абвёў позіркам хату. Нідзе нічога не было. Пад лавай ляжала крыху рыжага пасконня — гэта Даніла прынёс пад крысом з калгаснай адрыны, дзе ён учора спускаў вяроўкі. Каля мыцельніка валялася некалькі маткоў сухой лазы, бо ўлетку Даніла, калі трохі здаравілася, плёў кашы. На прыпечку — сямейная міска з абабітымі берагамі і толькі адна лыжка. Смецце на глінянай падлозе, ужо колькі год не мазанай.

Старому ўспомнілася, што ён толькі што бачыў Ларысу. Прыйшла ўжо, мабыць, дзяўчына дадому, там у яе ў хаце цёпленька, утульна і, напэўна, смачнай стравай пахне. Бацькі яе малодшыя, яшчэ самі ходзяць на калгасную работу, але-ж каб і не хадзілі, то гэтая дзяўчына ўтрымала-б гаспадарку. Дае бог людзям шчасце!

Некалі яны разам бегалі ў школу: Ларыса, яе брат Павел і Віцька, данілаў сын. Дзяўчынка была кволенькая, і гаварылі тады, што вучылася тугавата. Са школы яна бегла заўсёды першай і ледзь не кожны дзень забягала ў данілаў двор, скардзілася на Віцьку. То ён, гэты кепскі хлапчук, калючага дзядоўніку назапускаў дзяўчынцы ў валасы, то шыпшынавых зярнятак насыпаў за шыю, то намаляваў што-небудзь непатрэбнае ў яе сшытку. Даніла кожны раз абяцаў, што накруціць за гэта Віцьку вушы, падчас адчуваў, што і сапраўды трэба было-б так зрабіць, але калі ружовашчокі свавольнік прыбягаў дадому, у бацькі знікала ўсялякая злосць. Бацьку

хацелася толькі аднаго: хутчэй-бы даць папалуднаваць сыну.

Цяпер і Віктар і Павел служаць у арміі на звыштэрміновай службе. Крыніцкія, бацькі Ларысы, ад гэтага вельмі не гаруюць, бо Ларыса іх дагледзіць. Яны нават ганарацца, што іхні сын застаўся яшчэ служыць. Ганарыцца, вядома, сваім сынам і Даніла, але-ж яму цяжка жыць аднаму, ды вось ужо колькі год. Да службы Віця таксама мала быў дома.

Ноч Даніла пракаратаў, нацягнуўшы на сябе ўсё, што было ў хаце з вопраткі і рознага рыззя. На досвецці ссунуўся з печы, пачаў хадзіць з кута ў кут па хаце, прамінаць ногі. Захацелася глытнуць крыху вады. Узяў цяжкі кубак, зроблены з гарматнай гільзы, апусціў у вядро, а ён стукнуўся там звонка, як аб тонкае шкло. Вада ў вядры замерзла. Даніла сумна паківаў галавой і пачаў тужэй падпяразвацца, папраўляць на нагах валёнкі з жоўтымі бахіламі. Трэба было ўсё-такі ехаць у лес, шукаць сякога-такога ламачча.

Снегу за ноч намяло многа, Даніла пракладаў па крушнікоўскай вуліцы першы след. Ішоў стары сагнуўшыся, цяжка сапучы, хоць санкі паўзлі за ім лёгка. На двары яшчэ толькі ледзь світала, але пад нагамі ўжо відно было, куды ступаць. На момант спыніўшыся, Даніла пачуў, што перад ім таксама нехта сабе і нават зрэдку нібы стогне, нібы мармыча. Прыглядзеўся на снег, — няма, не відаць ніякіх слядоў. Значыць, насустрач чалавек ідзе. Праз некалькі крокаў убачыў Даніла, што сустрэчны не ідзе, а ляжыць у снезе. «Што-ж гэта такое? — затрывожыўся стары.— Можа, чалавек вязе што на сабе ды знясілеў, паваліўся, а можа, няшчасце якое здарылася?

Але вось гэты чалавек заварушыўся, злосна крактануўшы, узняў спачатку зад, а потым і ўвесь выпрастаўся. Закрочыў укосікі, ледзь выцягваючы са снегу ногі і трымаючы рукі так, каб зберагчы нос пры чарговым акунанні ў снег. Неўзабаве заўважыў Данілу.

— Хто тут такі? — спытаў гучна і ўладарна. — Каго чорт носіць?

Голас хрыплы, як з разбітай шклянкі, аднак Даніла здагадаўся, што гэта брыгадзір крушнікоўскай брыгады Шандыбовіч.

— Што, не пазнаеш? — адазваўся стары.

— Куды едзеш сярод ночы? Красці штонебудзь?

— Дурань ты барадаты! — не сцярпеў Даніла. — Сам ты піў усю ноч, глядзі што, за крадзенае, а на людзей брэшаш. У лес еду, бо траха не адубеў сёння праз тваю ласку.

— А-а, у лес? — Шандыбовіч растапырыў ногі і падняў на Данілу выкачаную ў снезе бараду.— Гэта ты, Бірук? Ну, едзь, едзь! Газуй!

Данілу яшчэ горш стала цяжка ісці, зашчымела ў грудзях. Мала таго, што дома гэтак пакутна жывецца, дык яшчэ-ж і ў брыгадзе, страшна падумаць, які непарадак.

Пакуль дабраўся да лесу, дык ужо добра развіднела. Сеў на пні, адпачыў, — зацішней у лесе, здалося, што і мароз паменшаў. Стаў потым прыкідваць з месца, што тут можна ўзяць на скорую руку, каб доўга не затрымлівацца. І з трывогай убачыў, што хоць і сапраўдны тут лес, але дроў спадручных няма. Калі што і было сухое на зямлі, дык пакрылася цяпер снегам, а сякі-такі сухастой даўно людзі выбралі. Давядзецца ездзіць з санкамі па лесе і збіваць з дрэў суччо.

Пад паўдня Даніла адчуў, што калі яшчэ трохі пахадзіць, дык ногі не захочуць слухацца. Усё часцей і часцей ён пачаў садзіцца на пні, сядзеў даўжэй, як раней, але сілы амаль не ўзнаўляліся. Калі выехаў нарэшце ў поле і ўзяў напрамак на Крушнікі, ісці стала быццам-бы лягчэй, вецер падганяў у спіну. Але старэчая лёгкасць ненадзейная. Праз якія гоны ці двое ў Даніла пачала з'яўляцца недачэпная думка, што да Крушнікоў яму не дацягнуць. Намагаўся адганяць ён гэтую думку, клікаў на дапамогу сына, свайго Віцю, які ўсё-ж такі павінен прыехаць дадому, павінен уступіць няспынным бацькоўскім просьбам. І як ні змагаўся з сабою, жудасная думка не знікала, а што далей, то ўсё глыбей і глыбей забіралася ў душу, выклікала нязведаны дагэтуль страх.

Бірук спыніўся, працёр вочы, нібы не верачы, што ўсё гэта не сон, і, ступіўшы крок назад, сеў на санкі. Яшчэ была вера, што, крыху адпачыўшы, можна будзе ўстаць, прайсці некалькі гонаў, а там павінна быць дарога, нейкі след, і ісці будзе лягчэй. Вецер падняўся большы, зашумеў лес, і Данілу быццам-бы шкада стала, што ён выехаў з гэтага лесу. Зацішней там было, цяплей і не так самотна паміж дрэвамі. Гукні — рэха далёка пойдзе. А тут — гало, ні сцежкі, ні следу, вецер гуляе і пачынае круціцца з усіх бакоў. Будзеш зваць, не дай божа, на дапамогу, дык і голасу твайго ніхто не пачуе.

«Нічога, Даніле, нічога... Адпачнем і паедзем... Яшчэ так паедзем, што аж палазы будуць шумець. А дома напалім печ, наварым бульбы... От яшчэ трошкі пасядзім... Каб толькі калені не памерзлі»...

Прайшла хвіліна, другая. Даніла разумеў, што пара-б ужо і ўставаць, але не хацелася ні кратацца, ні нават паварушыць нагой ці рукой. Яшчэ хоць хвіліначку... У калені ўжо не вельмі холадна і ў вушы толькі крышачку падувае... Вецярок зусім не марозны... Задрамаць-бы трошачкі, звесці-б вочы.

Укалола пад сэрцам гэтая думка. То-ж бяда, калі забірае дрымота! Але адразу-ж і супакаенне: якая-ж тут бяда? Цэлую ноч не спаў, паехаў не снедаўшы... Стамілася цела і—уся ў гэтым прычына.

... Прачнуўся Даніла толькі тады, калі адчуў, што нехта моцна ўзяў яго за плечы і скалануў. Спужаўся ад гэтага, ледзь не крыкнуў, а вочы расплюшчыць не мог.

— Што, стары, адпачываем? — нібы здалёк данёсся да яго голас.

Нешта цвёрдае і не надта гладкае пачало жвава хадзіць па яго вушах, па носе, па ўцісутаму ў каўнер старога кажуха падбародку, потым учапілася ў сасулькі на вусах, брывах, на вейках. Тады стары адчуў, што гэта нечыя рукі, і нават без рукавіц. З болем у надброўі паварушыў павекамі, і вочы збольшага расплюшчыліся. Перад Данілам стаяў высокі, немалады чалавек у бурцы з капюшонам, у новых белых валёнках.

— Так можна і заначаваць тут, — з папрокам, а больш з трывогай загаварыў ён. — Што, устаць можаце? Не? Ногі не адмерзлі? Давайце, бярыцеся за мае плечы!

Чалавек давёў старога да свайго вазка, пасадзіў там, ухутаў ногі сенам, тады вярнуўся і прывёз санкі з дровамі.

— Наце, хутчэй глынiце! — загадаў ён і паднёс да губ Данілы адвінчанае рыльца салдацкай пляшкі.

Бірука вельмі мучыла смага, і ён выпіў-бы чаго-б там ні трапілася, аднак металічная пляшка на момант насцярожыла яго.

— Хутчэй, хутчэй! — падганяў чалавек.

Даніла спавольна падняў руку да таго добразычлівага рукава, адкуль тырчала пляшка, злёгку штурхнуў яго і глынуў на поўны рот. Адчуў, што добра запякло ў сярэдзіне, а ў нос аддало хмелем.

— Бярыце яшчэ, бярыце!

Даніла пацягнуў і яшчэ разы два.

— Ну, як сябе адчуваеце? — пачаў распытваць чалавек, калі яны выехалі на дарогу. — Дзе-небудзь баліць, шчыміць? Дайце, я вам яшчэ патру шчокі.

— Нідзе так асабліва і не баліць, — удзячна адказаў Даніла, — калені толькі нібы мурашкі пакусваюць, але дарма, адыйдуць, калі я вось іх яшчэ патру сваімі рукамі.

— Добра, што ў пару мы з вамі сустрэліся, — сцебануўшы лейцамі каня, сказаў чалавек,— а то такі мароз і вецер на дварэ... Адкуль вы самі?

— З Крушнікоў, — адказаў Даніла.

— А, дык мы з вамі амаль што суседзі. Я з Паддубаўскай МТС, інструктар па зоне. Які-ж гэта ў вас там калгас, дайце ўспомніць?

— «Свабода», — нагадаў Даніла.

— Ага! «Свабода»! Хачу раблю, хачу не! Вядомы калгас, вядомы! Толькі не дабром, нажаль. Ну, што-ж зробіш! Усё ў свой час. Дык як-жа вы гэта? Саматугам па дровы? Ды ў такі мароз?

— Мароз і выгнаў з хаты, — сказаў Бірук.

Першачок на пусты жывот прыдаў старому цеплыні, расшавяліў думкі ў галаве і пачаў нават хіліць на якую-небудзь жартаўлівую гаворку, чаго ўжо даўно з Данілам не здаралася.

— Ці дровы мае хоць едуць за намі? — спытаў ён.

— Едуць, — аглянуўшыся, сказаў інструктар. — Аж падскокваюць.

— Цяпер некалькі дзён буду жыць, як пан, — сказаў Даніла і засмяяўся.

— А потым зноў у лес?

— А потым зноў паеду. Можа, зноў які-небудзь начальнік падбярэ на дарозе і дасць першаку на абагрэў.

— Не, вы ўжо не рызыкуйце гэтак, — параіў інструктар. — Папрасіце брыгадзіра, няхай дасць каня, вазьміце яшчэ каго-небудзь на дапамогу і навязеце дроў на ўсю зіму.

— Дапросішся ў нашага брыгадзіра. Чорта з два! Цяпер хоць санкі, а летам я на сабе насіў дровы. Ды колькі на спіне наносіш?

— Са старшынёй пагаварыце, — не адступаў інструктар.

— Са старшынёй? — Даніла наўкос глянуў на інструктара і расшырыў ва ўсмешцы белыя ад намаразі вусы. — А я ўжо, мабыць, з год не бачыў нашых старшыняў. Ні старых, ні новых. Кажуць, што цяпер там яшчэ нейкага прывезлі. Без нас становяць, без нас здымаюць. Мы далёка ад праўлення, за поўсотню кіламетраў, калі па летняй дарозе ехаць. Камчаткай нас завуць.



— Так, так, — сумна паківаў інструктар галавою.— Тут, здаецца, сенажаць калгаса «Свабода»?

— Ды якая там сенажаць? — не згадзіўся Даніла. — Балота дзесятак гектараў. Яго калгас і не касіў з таго часу, як узбуйніліся.

— Шкада, што вы не ў нашай зоне, — заўважыў, уздыхнуўшы, інструктар, — а то трэба было-б пацікавіцца, што там у вас за парадкі. Ну, нічога, я ў раёне пагавару. Хто ў вас яшчэ ў сям'і? — дадаў ён праз некаторы час.

— Сын яшчэ ў мяне, — з гонарам сказаў Даніла.

— Дык чаму-ж ён?... Няхай-бы сын ехаў у лес.

— Ён у мяне ў арміі, камандзірам!

— Ага. І старой няма?

— Няма і старой. — Даніла журботна апусціў галаву.

Калі да Крушнікоў засталося не больш якога паўкілометра, Даніла падзякаваў інструктару, злез з вазка і адчапіў свае санкі.

— Я заеду як-небудзь да вас, — паабяцаў інструктар. — Не прагоніце?

— Рады вам будзем, — гасцінна адказаў Даніла.

Дома ён заехаў з санкамі проста ў хату, пасек там ламачча на сваёй калодцы і распаліў у печы. Потым праламаў лёд у вядры і ў той вадзе намыў бульбы. Вячэра выйшла смачная, такой даўно не было. Спаў Даніла ў гэтую ноч таксама добра і сасніў сваю жонку Ульяну, маладую, белатварую, з шэрымі ласкавымі вачамі. Калі прачнуўся, дык нават шкада было, што так хутка мінуўся сон. Не хацелася злазіць з печы.

Пад вясну Даніла атрымаў пісьмо, што Віктар хутка дэмабілізуецца і прыедзе дадому. Старога апанавала такая радасць, што ў гэты дзень ён не мог уседзець у сваёй хаце. Паклаўшы пісьмо за пазуху, ён накіраваўся ў адрыну да свайго «вераўчанага камбайна», як тут жартавалі, хоць гэты «камбайн» быў яму сёння непатрэбны, бо не было пянькі. Даніле проста хацелася прайсціся па вуліцы, каб хоць каго-небудзь сустрэць ды падзяліцца з ім сваёй радасцю. Сустрэўся конюх Міфодзей, глуханямы чалавек. Даніла спыніў яго за рукаў, паказаў знакамі, што яго сын — во, во, значок на шапцы і з пагонамі — прыязджае адтуль,— паказаў рукою на поўнач,— дадому. Зусім прыязджае,— і выняў з-за пазухі сіні канверт са штэмпелямі.

Міфодзей з поўным разуменнем справы радасна выціснуў той адзіны гук, які быў у яго на ўсе выпадкі жыцця, паківаў старому галавой і пайшоў далей.

Дома Бірук аж да болю ў спіне гнуўся, усё прыбіраў, падхарошваў у хаце. Павыносіў некуды ў клець гэтае рыжае пасконне, што валялася пад лаваю, сухую лазу і ўсялякую іншую непатрэбіцу. Дні два мазоліў далоні рыдлёўкай, раўняў гліняны дол.

Непакоіла толькі тое, што зноў у хаце не было дроў. Гэта цяжэй за ўсё. На санках не паедзеш, дарога ўжо несамавітая. Ды кольк і прывязеш на санках! Падысці да брыгадзіра? Дык як да яго падыдзеш? Прагоніць, барадаты гаварыцца не дасць.

І надумаўся Даніла тут пайсці на хітрасць, хоць, можа, потым і вомегам вылезе гэтая хітрасць. Аднак-жа — сын прыедзе, не страшна!

Усім было вядома, што Шандыбовічыха, жонка брыгадзіра, больш за ўсіх у Крушніках гоніць самагонку. І гандлюе яна самагонкай. Але за што-ж купіш? Паспрабаваць, хіба, угаварыць, каб уступіла пляшку на павер? Паабяцаць ёй хоць усю сваю маёмасць рухомую і нерухомую?

Доўга Бірук улучаў такую гадзіну, каб брыгадзіріха была адна дома. Нарэшце, дачакаўся, што брыгадзіра паклікалі некуды на вячэру. Лепшага выпадку і не прыдумаеш. Падышоў да шандыбовічавай хаты, ціхенька пастукаў у акно (ён чуў, што калі ідуць людзі сюды па самагонку, то гэтак вось стукаюць).

Гаспадыня без марудпасці адчыніла дзверы і развяла рукі ў здзіўленні.

— Што гэта?.. Няйначай воўк недзе здох, дый годзе! Ніколі-ж вы да нас не заходзілі! Праходзьце ў хату, садзіцеся. Калі вы да майго старога, то няма, ведаеце, яго дома. Я перадам, калі што трэба.

— Не, я да вас, — спыніўшыся ля парога, сказаў Даніла. — Сын мой дадому прыязджае, дык, самі разумееце... Трэба было-б сустрэць па-людску, ды няма, як той казаў... — Стары правёў вачамі па шарэнзе пустых бутэлек, што стаялі на паліцы.

— Прыязджае Віктар? — здзіўлена перапытала гаспадыня. — Вось гэта навіна! Чуеш там? Віктар Бірукоў прыязджае.

— У мяне нават пісьмо за пазухай, — дадаў стары.

— Няхай сабе прыязджае, — данёсся абыякавы голас з бакоўкі, якая служыла брыгадзіру і канторай.

Даніла ведаў, што гэта, канешне, Вольга сказала, брыгадзірава дачка. Яна-ж і табельшчыца ці рахункавод у брыгадзе, — ніхто гэтага не мог разабраць.

— Не вельмі, сказаць, і ёсць у нас тое, што вы просіце, — мякка загаварыла гаспадыня,— але-ж для такой радасці, то трэба падзяліцца.

— Дзякуй вам, дзякуй! — пачаў паўтараць раз-па-разу Даніла і ледзь не кланяцца гаспадыні.— Мы заплоцім, як прыедзе сын, а то я адраблю вам, кашоў напляту ці што іншае...

— Ды ўжо-ж неяк памірымся, — добразычліва сказала гаспадыня.

Здабыўшы пляшку ў брыгадзірыхі, Даніла стаў цяпер падпільноўваць на вуліцы самога брыгадзіра. Падпільнаваць яго наогул было не цяжка, ён часта праходжваў сюды-туды па вуліцы, але злавіць начальства цвярозым, — гэта было амаль што немагчыма. Гаварыцьма з Шандыбовічам п'яным — марная справа, нарвешся на лаянку, і толькі.

Усё-ж Даніле пашанцавала і на гэты раз. Вышаў ён назаўтра ледзь золак на вуліцу, бачыць — Шандыбовіч ідзе з нейкай папкай у руках. Галоўнае-ж — ідзе роўна і крок цвёрды, значыць, яшчэ не паспеў нідзе клюнуць. Даніла яму напярэсткі.

— Памажы, Адам, старому, дай каня ў лес з'ездзіць. У хаце ні трэскі няма.

— Нікому не даю цяпер коней! — пачаў адмахвацца брыгадзір. — Паставіў на адпачынак перад пасяўной!

— Сын у мяне прыязджае, Адам!

— Прыедзе, то і сходзіце ўдвух, прынясеце ламачча.

— Ды я-ж не так сабе... Слухай! — Даніла выняў з-за пазухі пляшку.

Шандыбовіч спыніўся, хоць зрабіў выгляд, што на пляшку не звяртае ніякай увагі.

— Дык, кажаш, сын прыязджае? Тэ-эк. Ладна! Знай маю дабрату! — Ён трапным рухам згроб пляшку і паклаў сабе ў кішэню. — Ідзі скажы конюху!

— Як-жа яму скажаш?

— Пакажы на бараду, ён і зразумее. Здаецца, тут я адзін барадаты, ты-ж сваю выскубваеш.

— Якая ў мяне цяпер барада,— засмяяўся стары, — тры валасінкі. Слухай, Адам! А можа, запіску якую напішаш?

— Не трэба ніякай запіскі! — раздражнёна махнуў рукою брыгадзір.— Міфодзей усё роўна чытаць не ўмее. Скубанеш рэшткі свайго шчаціння два разы. Вось так. — Шандыбовіч пацягнуў сябе за раскладзістую рыжую бараду, спачатку за адну палавіну, потым за другую. — Вось тады ён табе ўжо не адкажа.

Калі ехаў стары ў лес, дык заўважыў, што з хаты Крыніцкіх выбегла Ларыса з пэндзлем у руках, а хвартух яе быў густа закроплены пабелкай.

«Беліць хату, — падумаў Бірук. — А перад чым-жа гэта? Каляды даўно мінуліся, вялікдзень і Першы май далёка. Значыцца, Павел прыязджае».

І неяк непрыемна стала Даніле ад гэтай думкі. Крыніцкія заўсёды лепш жылі, чым ён, ім шанцавала ў сям'і, у гаспадарцы. Таму Бірук у душы ледзь не ўсё жыццё зайздросціў ім. Цяпер уяўлялася, што калі Павел і Віктар прыйдуць дадому адначасова, то радасці для Данілы будзе менш. Павел, напэўна, будзе і лепш адзеты, і, можа, камандзір ён большы і падарункаў бацькам больш навязе. Побач з ім Віктар будзе выглядаць горш. А ці-ж горшы даніла ў Віця за каго-б там сабе ні было?

І вось хлопцы прыехалі. Адзін трошкі раней, другі трошкі пазней, але вышла так, што на вуліцу вышлі разам. На радасць Данілу, усе ўбачылі, што Віктар выглядаў лепш і стройней за Паўла. У Віктара боты былі хромавыя і блішчалі так, што хоць ты глядзіся ў іх. У Паўла-ж былі боты звычайныя, шчыгрынавыя, і хоць таксама блішчалі, але ўжо зусім іншым бляскам. У Віці шынель быў новенькі, з падагнанай спінкай, у Паўла-ж, наадварот, шынель быў не новы, з двума складкамі на плячах і са старанна падчышчанымі, але ўсё-ж прыкметнымі плямамі на рукавах. Што-ж датычыць воінскіх званняў, то абодва яны былі старшымі сержантамі, толькі ў Паўла пагоны — танкісцкія, а ў Віктара — агульнавайсковыя з белымі лычкамі. Праўда, у гэтым мала хто ў Крушніках разбіраўся, а сам Даніла дык і зусім нічога не разумеў.

Калі-ж у брыгадзе даведаліся яшчэ і аб тым, што Віктар прывёз бацьку новыя кірзавыя боты і ватоўку, дык некаторыя гатовы былі-б аж на руках насіць такога хлопца.

На другі дзень Павел зняў пагоны і пайшоў у суседнюю МТС наймацца на работу, а Віктар яшчэ доўга хадзіў у пагонах. Здаралася, што ён заклапочана рахаваўся з бацькам, як жыць, заставацца дома ці паспрабаваць пашукаць якой-небудзь работы ў раённым цэнтры або ў Мінску. У бацькі слёзы свяціліся на вачах, калі ён уяўляў, што зноў застанецца адзін, але, каб угадзіць сыну, каб не замі-



наць яго шчасцю, згаджаўся на ўсё. Жыць засталося нямнога, пражыве як-небудзь. А сыну добра было-б мець чыстую службу. Усё-ж такі ён сямігодку скончыў ды ў арміі, мабыць, вучыўся.

І Віктар хадзіў пакуль што па вуліцы вольным казакам. Форма на ім заўсёды была чысценькая, боты бліскалі. Па вечарах у клубе дзяўчаты заглядваліся на яго. Мабыць, прыглянуўся хлапец і Вольцы Шандыбовічавай, бо ў адзін з вечароў брыгадзір запрасіў яго да сябе пасядзець, пагаманіць.

На стале, вядома, з'явілася пляшка найлепшых кропелек, закуска не абы якая, ну і за сталом не было асабліва бедна. Сядзела гаспадыня, яшчэ ружовая ад завіхання каля чалешнікаў і надзвычай ахвочая да гаворкі, дачка Волька, трошкі рыжаваценькая, з дробным тварам, але нельга сказаць, што не прыгожая. У яе жывых іскрыстых вачах, у хітраватай, але прыемнай усмешцы было нешта нават прывабнае, сімпатычнае.

Гаспадыня падсоўвала і падстаўляла Віктару па чарзе ўсё, што было на стале. І кожны раз прыгаворвала так,што хлапец не ведаў, як прымаць яе словы.

— Паспрабуйце, — прасіла яна, паказваючы на свежае колца смажанай кілбасы,— вы-ж яшчэ, мабыць, не калолі? Вазьміце больш, — падсоўвала яна скавараду з яечняй,—у вас-жа яшчэ куры не нясуцца?

Віктар разумеў, што ўсё гэта не ад душы гаварылася, але вырашыў не звяртаць увагі. Ведае Шандыбовічыха, што ў яго бацькі няма ні свіней, ні курэй, — толькі і клопату, няхай сабе ведае.

Пакуль выпівалі і закусвалі, ішла звычайная дробная размова аб розных хатніх справах, а калі пляшка стала пустой і гаспадар, адваліўшыся спіною да падаконніка, пачаў выкалупваць з зубоў, гаспадыня адразу-ж успомніла, што ў яе ёсць вельмі неадкладная справа. Услед за ёю вышла з-за стала і Волька. Паміж мужчынамі пачалася гаворка ўжо не на хатнія тэмы, хоць Віктар не надта чакаў гэтага.

— Дык як яно, таварыш старшы сержант?— пачаў брыгадзір, трымаючы ў зубах зломаны запалак. — Пара, мабыць, ужо здымаць пагоны?

Пры гэтых словах Шандыбовіч спачатку неяк прыціснуў да зубоў свае прамоклыя ў тлустасці вусны, а потым усміхнуўся і пагладзіў бараду. Ён не быў цяпер п'яным, магчыма, таму, што збіраўся сур'ёзна пагаварыць з чалавекам. Некаторыя-ж гаварылі, што дома Шандыбовіч наогул не напіваўся.

— Хто яго ведае, — нерашуча адказаў Віктар.— Можа, і яшчэ з які год ці больш давядзецца панасіць форму.

— Чаму-ж гэта?

— Пайду ў часць у якую-небудзь недалёкую адсюль, папрашуся, каб узялі.

— А тут не знойдзецца работы?

— Ды вось, не бачу пакуль што. Самі спраўляецеся.

Брыгадзір выняў з рота запалку, падціснуў зубамі ніжнюю губу. Барада яго пры гэтым шавяльнулася і стала ледзь не тырчком.

— Ну, спраўляемся мы ці не спраўляемся,— заўважыў ён, крыху памаўчаўшы, — пра гэта начальства скажа. А я толькі кажу тое, што і ў нас для цябе работа знойдзецца. Кім ты ў арміі быў? Кладаўшчыком? Ну, і ў нас склад ёсць. Праўда, там пакуль што сядзіць адзін чалавек, але-ж для дэмабілізаванага гэта можна паправіць.

— Я загадчыкам склада быў, — апусціўшы галаву, сказаў Віктар.

— Ну, і ў нас будзеш загадчыкам. Гэта ўсё роўна.

Шандыбовіч падсунуўся бліжэй да госця і прыцішыў голас.

— Я гэта з павагі да цябе. Быў я тут старшынёй, ты-ж ведаеш, да ўзбуйнення, бацьку твайго падтрымліваў. То да капцоў яго, бывала, прыстаўлю вартаваць, то да малатарні...

— А цяпер мой бацька на сабе дровы возіць, — уставіў Віктар, і яго ніжняя губа непрыемна здрыганулася.

— Ну, цяпер што-ж ты раўняеш? — брыгадзір скрывіў губы, а яго барада ад гэтага паехала ўбок. — Хіба можна раўняць, што цяпер і што было раней? Усё лепшае пайшло ад нас у адсталыя брыгады. Падстрыглі, падраўнялі ўсіх. Але-ж і стары твой цаца добрая. Што, цяжка было прыйсці сказаць. Папрасіў нядаўна, і я без слова дазволіў.

Віктар ціха ўсміхнуўся.

— Прымеш склад, — працягваў брыгадзір,— і лепшага месца табе не трэба. Калі да чаго там не дойдзеш сам у першыя дні, дык вось, — ён паказаў вачамі на бакоўку, — Вольга дапаможа. Яна, брат, у нас усё ўмее.

— Калі трэба, то і заменіць іншы раз, — уставіла з падпрыпечка гаспадыня.

Брыгадзір сурова глянуў на яе, і жанчына змоўкла, пачала старанна перабіраць дровы. Шандыбовіч не любіў, калі жанкі ўмешваліся ў мужчынскую размову.

— Я толькі з павагі, — зноў паўтарыў ён Віктару. — Мы маглі-б жыць па-суседску, як і жылі з тваім бацькам. А там... — гаспадар хітра зморшчыўся, і дзве палавіны яго барады нібы адвярнуліся адна ад другой. — А там хто ведае... Калі бог дасць усё добра, то, можа, і сваякамі станем.



Віктар ніякавата маргнуў і без патрэбы паправіў рукою сваю кароткую светлую прычоску.

— Можа, яшчэ пакрысе возьмем?— спытаў брыгадзір і ўжо ласкавей глянуў на гаспадыню.

Віктар пакруціў галавой.

— Дык ты, маці, ідзі, ідзі!— загадаў Шандыбовіч, і вочы яго адразу змяніліся, у іх блiснула нервовая суровасць. — Заўтра прыязджае да нас высокі госць, — перайшоў брыгадзір на другую гаворку, — дык трэба падрыхтавацца, курчо якое звесці са свету ды парасё.

— А што за госць? — пацікавіўся Віктар.

— Старшыня калгаса нашага.

Віктар так гучна зарагатаў, што брыгадзір аж адхіснуўся ад яго.

— Вось знайшлі госця! Ён павінен кожны дзень бываць у брыгадзе. Гэта яго абавязак.

— Ну, не вельмі скочыш кожны дзень за пяцьдзесят кіламетраў, — стрымана заўважыў брыгадзір. — Легкавой машыны ў яго яшчэ няма, а на грузавой бакі растрасеш па карчах ды па каўдобінах. Павінен табе сказаць, сусед, што не надта шанцуе нам гэтыя гады на старшынь. Мяняюцца, як карты. Не паспееш прывыкнуць да чалавека, разгледзець яго добра, а прысылаюць паперку, што ўжо знялі. Пасля пленума пхнулі на ферму нашага даўняга старшыню, прыслалі з раёна загадчыка чайной, жанчыну. Ну, чайная, дык чайная. Нам што? Асабліва тут, у Крушніках. Дапамогі вялікай мы не чакалі і не чакаем. Нам важна, каб не вельмі перашкаджаў чалавек. Ну, гэтая чайная толькі адзін раз і пабыла тут. Выспалася, схадзіла ў ягады, і пасля гэтага мы яе ўжо больш не бачылі. Кажуць, паслалі кабету на нейкі маслазавод.

Прывезлі новага старшыню ўжо з вобласці. Стары чалавек, год пад шэсцьдзесят. Быў начальнікам турмы ў абласным горадзе, ну, ды, мабыць, па старасці звольніўся. Гэты прыязджаў да нас часта. І от скажы ты! Начальнік турмы, а чалавек быў добры, ціхі. Бывала, паснедаем з ім разам, тады я запрагаю жарабка і вязу старшыню на рэчку. Высаджваю яго там на беразе, стаўлю побач бутэль першаку, кладу кусок сала, поўбуханкі хлеба і еду па сваіх справах. А ён цэлы дзень сядзіць на беразе з вудай. Увечары прывожу яго дадому. Па тыдню, а то і больш ён так у нас жыў.

Перавялі некуды і гэтага чалавека, кажуць, што быццам-бы дырэктарам дзіцячага дома паставілі. І вось цяпер, месяцы два таму назад, прыехаў гэты самы высокі госць, як я сказаў, а ты засмяяўся. — Брыгадзір горка скрывіўся і махнуў рукой. — Чорт яго ведае, што гэта за чалавек! Быў нядаўна я там, у яго. На дзвярах бакоўкі шыльдачка вісіць: «Без спраў не заходзіць! Прыём ад такіх-та гадзін да такіх». Папрасіў я бухгалтара, каб далажыў пра мяне. Той схадзіў у бакоўку і вярнуўся, нешта закапыліўшы нос. «Пазней, кажа, зайдзі, старшыня заняты».

Заходжу праз поўгадзіны. Сядзіць за вялізным сталом мужчына так, прыкладна, майго ўзросту, толькі без барады, вядома. Чысты, гладкі; міністэрскі касцюм на ім. Побач, за меншым сталом, сядзіць дзяўчына і піша пад яго дыктоўку. Пакуль не скончыў дыктаваць, не загаварыў са мною. А што, ты думаеш, дыктаваў? Нарад на заўтрашні дзень, звычайны нарад. Я такія нарады па памяці раздаю.

Распытваў я потым у сваіх людзей, што гэта за птушка. Кажуць, што сапраўды не з простых гатункаў. Быў ён у Мінску такім начальнікам, у якіх, звычайна, ёсць і прыёмныя, і сакратаршы, і персанальныя машыны, адна для сябе, другая для жонкі. Потым пайшлі нелады ў яго ўстанове: быццам-бы сакратаршы на яго скаргу напісалі, быццам яшчэ там нешта... Адным словам, начальнік прыйшлося крута, маглі шыю намыліць і сапсаваць асабістыя дакументы. Тады ён — бах заяву, што хоча добраахвотна ехаць у калгас. Усё адразу ўціхла, усе скаргі на яго паклалі пад сукно, а яго асабістую заяву апублікавалі ва ўсіх газетах.

Убачыўшы такі паварот справы, начальнік рызыкнуў зрабіць так, каб і козы былі сытымі, і сена цэлым: ён выпараў у сябе нейкую старую, даўно залечаную хваробу, падгадзіў дактароў і лёг у бальніцу. Праляжаў там з месяц, думаў ужо ўсё ператраслося, перацёрлася за гэты час. Аднак калі вышаў, яго ўсё-ж такі паслалі. Вось заўтра прыедзе сюды, паглядзіш, што за ён. Адчуваю, што голас будзе падаваць, дык мы ўжо, Віця, давай будзем разам рэагаваць на крытыку. Добра?

Назаўтра ледзь не з самага ранку брыгадзір шлындаўся ў канцы вуліцы, усё паглядваў на дарогу. Калі з-за горкі паказалася грузавая машына, ён пабег насустрач, замахаў рукамі. Старшыня не спыніўся на дарозе, а паехаў у вуліцу. Тут дачакаўся брыгадзіра, які бег да яго так шпарка, што аж барада

падгіналася да кадыка. Ніякіх прывітальных слоў, ні намяканняў на адпачынак пасля дарогі не захацеў і слухаць, а адразу-ж засыпаў брыгадзіра пытаннямі. Адказу патрабаваў з лічбамі на руках, таму Шандыбовічу прыйшлося паклікаць і дачку. Пра што ўдалося добра адказаць, тым ужо больш старшыня і не цікавіўся, а дзе брыгадзір мармытаў замест адказу і не прыводзіў лічбаў, тое старшыня браў пад асабістую праверку.

Увечары быў сход. Новы старшыня сказаў вельмі доўгую прамову, але ўсе праслухалі яе ўважліва, бо, як прызналі потым крушнікоўцы, ніхто дагэтуль так гладка не гаварыў і ніхто так прывабна не размахваў рукамі. Калі прыйшла чарга выступаць з месцаў, усе маўчалі, а потым з куткоў пачало выплываць звычайнае і да гаркаты шаблоннае: «Усё ясна!»

Шандыбовіч пачынаў ужо ў думках іграць марш усяму гэтаму сходу, з асалодай уяўляў, як ён зараз вып'е з новым старшынёй і закусіць смачнай парасяцінай з брыгаднага пагалоўя. Ды нечакана для яго, а магчыма, і для ўсіх, у поўзмрочнай зале былога калгаснага, а цяпер брыгаднага клуба паднялася рука ў манжэце з бліскучымі вайсковымі гузікамі.

— Калі ласка! — бадзёра, нібы нават узрадавана сказаў старшыня. — Як ваша прозвішча, таварыш?

— Бірук, — ціха сказаў Віктар і стаў прабірацца да стала.

Пачаў хлапец гаварыць, і амаль ва ўсіх твары пасвятлелі, толькі шандыбовічава барада пусцілася ў нейкія шалёныя скокі. Людзям было прыемна, што і Віктар умее гаварыць гладка і нават рукамі махае, глядзі што, не горш за старшыню. А галоўнае — праўду хлопец гаворыць пра брыгадзіра і пра ўсе тутэйшыя парадкі.

Ідучы са сходу, Віктар нагнаў дзяўчат, бо яны ішлі чамусьці вельмі-ж памаленьку. Ледзь не шаргануўшыся аб рукаў віктаравага шыняля, прайшоў са старшынёй Шандыбовіч. Глядзець не трэба: вядома, што завернуць у брыгадзіраў двор.

Дзяўчаты маўчалі, таму што сярод іх была Волька. Нікому не хацелася крыўдзіць сяброўку, успамінаючы пра такі няўдалы для вольчынага бацькі сход. Дзяўчына зразумела гэта і шчыра ці не шчыра, але пачала гаварыць сама.

— Ты правільна выступіў, Віця, — сказала яна быццам-бы зусім спакойным голасам. — У нас тут вельмі мала крытыкі і самакрытыкі. Праўда, Ларыса?

Ларыса не запярэчыла, аднак услых не сказала нічога. Толькі калі яны з Віктарам засталіся ўдваіх, лёгенька кранула хлапца за локаць:

— Я проста зайздросціла табе сёння, — з прыхаванай радасцю загаварыла яна. — Устаеш сабе спакойна, упэўнена, нібы ў сваёй хаце, і пачынаеш гаварыць. Кожнае слова на месцы, і жэст, і ўсё... А вось я не магу выступіць на сходзе. І ведаю, аб чым трэба сказаць, словы на памяць набягаюць, хвалююся, бурліць усё ўнутры, а як падумаю, што трэба падняцца ды стаць перад людзьмі, жахчэе ў вачах і выскаквае ўсё з галавы. У нас і Павел такі.

— Ну, табе дык нават па штату паложана выступаць, — заўважыў Віктар. — Ты-ж у нас, здаецца, сакратар камсамольскай арганізацыі.

— Ой, нядаўна выбралі, — нібы апраўдваючыся, сказала Ларыса. — Я і адмаўлялася, ды не паслухалі мяне.

Вечар быў не халодны, хоць і вясны яшчэ сапраўднай не было. На вуліцы падшэрхла нанач, і калі хто ішоў, то боты месцамі грукалі па голай зямлі, а месцамі скрыгацелі на рэдкім прымарожаным снезе. На палях яшчэ ва ўсіх нізінах ляжаў снег, і дарога яшчэ трымалася зімняя.

Віктар і Ларыса стаялі ў той вечар каля двара Крыніцкіх аж да таго часу, пакуль ногі ў іх не памерзлі, а на досвітку хлапец пайшоў з вёскі, нічога не сказаўшы пра гэта ні Ларысе, ні бацьку.

Даніла прачнуўся толькі тады, калі Віктар з прыціскам зачыніў сенечныя дзверы. Стары злез са свайго чарана, абуўся і пачаў распальваць у печы. Зварыўшы бульбу і падсмажыўшы трохі нейкай шкуркі, прынесенай аднекуль сынам, ён засланіў печ і стаў чакаць хлапца на снеданне. Аднак прайшла гадзіна і ўжо ледзь не другая, а Віктара ўсё не было. Даніла вырашыў прайсціся па вуліцы, пацікавацца, можа, зайшоў сын куды, можа, яго якая справа затрымала? Прыцішыў крок насупраць хаты Шандыбовіча. Стары не быў учора на сходзе і не ведаў, што Віктар цяпер ужо, мабыць, доўга не пойдзе да Шандыбовічаў. Прайшоўся да брыгаднага двара, завітаў на свінаферму, нідзе сына не было. Ідучы назад, сустрэў Ларысу. Дзяўчына вельмі ласкава і весела прывіталася з ім. Стары азірнуўся і з хвіліну глядзеў ёй услед, мяркуючы, што, можа, тут хаваецца якая здагадка наконт яго сына. Аднак гукнуць Ларысу і спытаць не адважыўся.

Дома стары еў у адзіноце адубелую бульбу і ўсё думаў, куды-ж мог так раптоўна знікнуць яго сын. Хаця-б слова сказаў! Хіба-ж так можна?

Віктар не прыйшоў увесь той дзень, не было яго назаўтра і на паслязаўтра. Ужо ўсе Крушнікі ведалі, што данілаў сын цішком пайшоў некуды з дому. Ларыса часта прабягала паўз данілаў двор, бледная, устрывожаная і ўсё паглядвала на вокны хаты. Нібы неўпрыкметку прайшлася разы два каля агародчыка і Вольга. Мабыць, і ў яе не зусім было спакойна на сэрцы.

А да Данілы зноў вярнуліся сумотныя думы, ды яшчэ цяжэйшыя, як раней. Здавалася, што ён яшчэ ніколі так не пераўжываў. Не было да гэтага сына дома, — што-ж ты зробіш? Прывыклася неяк і жылося. Ведаў чалавек, што хоць праз некалькі год, але-ж вернецца хлопец дадому, калі жыў будзе.

А тут зусім нічога невядома. Можа, кінуў сын бацьку назаўсёды... Кінуў і пайшоў, не сказаў ні слова. І за што? У чым бацька вінаваты?

Даніла намагаўся ўспомніць усе дні, пражытыя цяпер з сынам, усю гаворку ледзь не да кожнага слова. І не мог уразумець, чым ён пакрыўдзіў Віктара. Ужо нязімнія, з вясновым подыхам вечары здаваліся даўжэйшымі, як у Піліпаўку, ноччу не браў сон. І што толькі не прыходзіла ў галаву ў гэтыя ночы. Трывожныя і крыўдлівыя думкі пра сына змяняліся далёкімі, зацяжнымі ўспамінамі. Бацька глядзеў з печы на шырокую старую лаву і яму здавалася, што ў негустым змроку ён бачыць сваю нябожчыку жонку, сваю Ульяну. Сядзіць яна на лаве з малым Віцем на руках і прыгожа і трошкі сумна ўсміхаецца...

Як-бы ні жыў Даніла, які-б ні быў у яго боль на душы, яму заўсёды было радасна ўспомніць пра сваю жонку. Нават калі і цяжкімі былі гэтыя ўспаміны.

Ажаніўся Даніла позна, тады было яму ўжо больш за трыццаць год. Ульяна была дзяўчына маладая, па прыгажосці мала каторай тут, у Крушніках, уступала і кахала Данілу шчыра, самааддана. Першыя гады сямейнага жыцця прайшлі ў Данілы так светла, нібы ў тыя часы сонца над Крушнікамі не заходзіла ні на адну хвіліну. Кожны дзень прыносіў радасць, прыемнай здавалася самая цяжкая работа, не наганялі суму і змроку ні беднасць, ні нястача. Уперадзе чакала яшчэ большае шчасце — дзеці.

І вось праходзілі гады, а дзяцей у Данілы не было. Старэў пакрысе Даніла, узаходзіла ў жаночую сталасць, хоць і не траціла ад гэтага ў выглядзе, Ульяна. Сніліся ім дзеці, а шчасце паступова пакідала хату. Цэлымі гадзінамі, здаралася, хадзіў у задуменні Даніла, патухалі ад незвычайнай загадкі карыя вочы Ульяны. У душы яна праклінала сябе за тое, што зрабіла няшчасным Данілу, хоць зусім не ведала за сабою ніякай віны. Даніла-ж лічыў, што бог пакараў толькі яго, а праз гэтае пакутуе і жонка. Хаваючыся адно ад другога, яны ўсё больш заглядваліся на чужых дзяцей, калі трапляўся выпадак, песцілі іх і плакалі ад нязведанай радасці і ад свайго гора. У Данілы з'явілася неадольнае жаданне насіць у кішэнях што-небудзь цікавае або смачнае для дзяцей. Суседская дзетвара яго любіла і часта сустракала больш весела і шчыра, як сваіх бацькоў.

Так была пражыта лепшая пара чалавечай сталасці і толькі праз добры дзесятак год пасля жаніцьбы ў Данілы нарадзіўся сын. Прыйшло такое шчасце ў хату, што Даніла аж баяўся за яго, бо за мінулыя гады страціў веру ў свой добры лёс. Не было той ночы, каб ён некалькі разоў не падышоў да калыскі, не паслухаў, як маленькі спіць, ці роўненька дыхае. А выпраўляўся ўдзень на работу, дык не ведаў, як развітацца з сынам. Жонку не пускаў нікуды, сам цягнуў за дваіх. І хоць прыбавілася ў хаце клопату і гады ішлі сваім парадкам, маладзеў Даніла проста на людскіх вачах, у рабоце не адчуваў стомленасці, пры хадзе ног пад сабою не чуў. Мала хто мог зраўняцца ў Крушніках і з Ульянай. Стала яна такой весялухай і глядзела людзям у вочы так шчыра і светла, што, здавалася, яна ўвесь час цешыцца, любуецца жыццём і налюбавацца ім не можа.

Віцю было ўжо больш двух год, калі Даніла, аднаго разу носячы яго па хаце, заўважыў у дзіцячай усмешцы быццам-бы не зусім знаёмую рыску. Закалола ў бацькі пад сэрцам, некалькі начэй ён не спаў, але ўсё-ж прыдушыў у сабе змрочную думку, не даў ёй волі. Доўга не браў сына на рукі, баяўся грэшных думак пра жонку. А цягнула к малому страшэнна, часамі месца сабе не знаходзіў. І шкада было дзіцяці, так шкада, што аж слёзы іншы раз цяжка было стрымаць. У чым яно віназата, беднае? Бяжыць насустрач, працягвае ручкі і не ведае, што бацька можа падумаць пра яго гэтак крыўдна і няхораша.

Час — вялікі лекар, як усім вядома. Прайшоў месяц, другі, і Даніла пачынаў ужо зусім вылечвацца ад сваёй незвычайнай хваробы. Ульяна не магла нарадавацца, што муж зноў спыняў на ёй вясёлы, закаханы погляд, хоць зусім не ведала, чаму Даніла так доўга быў хмуры і задумлівы. Але вось аднойчы стары Шандыбовіч, — калом яму зямля, — бацька цяперашняга брыгадзіра (Даніла ўсё жыццё праклінае яго) сказаў сп'яна на вуліцы, што, па яго меркаваннях, у яго ёсць ужо ўнук, хоць і не ў сваёй хаце.

Даніла дачуўся пра гэта і ў цяжкім замарачэнні не стрымаў сябе, упікнуў Ульяну. Тая плакала некалькі начэй узапар, потым стала чарнець, сохнуць і праз некаторы час памерла.

І больш ужо ніколі не з'яўлялася для Данілы незнаёмая рыска на светлым і бясконца дарагім тварыку сына. Нібы ў пошуках нейкага спакою для свайго сумлення, нібы замольваючы віну перад нябожчыцай Ульянай, нібы ад такога бацькоўскага пачуцця, якога яшчэ свет не ведаў, Даніла стаў жыць толькі для сына, іншай мэты для яго не існавала. На Шандыбовіча-малодшага не сердаваў, бо не мог абражаць гэтым нябожчыцу. Толькі зрэдку ўскіпала на яго міжвольная, але лютая злосць і то, мабыць, усё-такі з-за яго бацькі, за тое, што пусціў той па свеце такую жудасную, пагібельную плётку...



## Роберт Шуман

«Хто з тых, што любяць і цэняць музыку, не ведае Р. Шумана і не схіляецца перад ім? Хто не захапляецца яго натхнёнымі творамі, поўнымі думак, глыбокіх, моцных, чулых, вясёлых, гуллівых, капрызных, заўсёды выказаных у бездакорных формах, заўсёды індывідуальных, задушэўных, шчырых?»

Удумваючыся ў гэтыя непасрэдныя, поўныя захаплення словы выдатнага рускага музычнага дзеяча Кюі і ўспамінаючы дзіўную музыку Шумана — ці то фартэпіянныя п'есы, вакальныя цыклы або сімфоніі, ці што іншае, што ім напісана, — нельга не прыйсці да вываду аб выключным значэнні творчасці вялікага нямецкага кампазітара ў развіцці музычнай культуры. Зусім зразумела, чаму такі прынцыповы ў пытаннях мастацтва чалавек, як геніяльны П. І. Чайкоўскі, мог пісаць пра Шумана: «Можна з упэўненасцю сказаць, што музыка другой паловы бягучага стагоддзя складзе ў будучай гісторыі мастацтва перыяд, які будучыя пакаленні назавуць шуманаўскім... Неабвержна тое, што гэты кампазітар ёсць найбольш яркі прадстаўнік сучаснага нам музычнага мастацтва».

За сваё кароткае (усяго толькі 46-гадовае), у многім трагічнае жыццё, на працягу якога яму прыйшлося весці барацьбу за права займацца музыкай, за права быць разам з каханай жанчынай, змагацца супраць душэўнай хваробы, якая няўмольна набліжалася, Шуман стварыў велізарную колькасць твораў ва ўсіх музычных жанрах. У гэтых творах ён «адкрывае нам цэлы свет новых музычных форм, закранае струны, якіх яшчэ не дакрануліся яго вялікія папярэднікі» (П. І. Чайкоўскі). Гэтыя новыя формы, новыя гучанні мы чуем у «Карнавале», «Навелетах», у музыцы «Манфрэда» і «Фауста», у цыклах «Каханне паэта» і «Каханне і жыццё жанчыны». І ў кожным творы мы знаходзім адлюстраванне кавалачка жыцця кампазітара, яго вялікую любоў да людзей і ўпартую барацьбу супраць мяшчанства.

Адзначаючы 29 ліпеня г. г. 100-годдзе з дня смерці Роберта Шумана, мы ўспамінаем яго не толькі як вялікага кампазітара, аўтара выключных музычных твораў.

Шуман быў у першых шарэнгах барацьбітоў за прагрэсіўныя мастацкія ідэалы, за праўдзівасць і народнасць мастацтва. Ён прынцыпова і ўпарта змагаўся за новую музыку, супраць рамесніцтва, схаластыкі і фармалізма, супраць скораспелых геніяў. У гэтай барацьбе зброяй Шумана была не толькі натхнёная кампазітарская творчасць. Вялікі мастак гукаў, ён свой вялікі талент і майстэрства аддаваў музычна-крытычнай публіцыстычнай дзейнасці. Шуман быў заснавальнікам і рэдактарам «Новай музычнай газеты», мэтай якой было «падбадзёрыць маладыя таленты, якія прагнуць стаць на сапраўдны шлях служэння сваёй справе», прысвяціць сябе «юнацтву і руху», імкнуцца «насустрач будучыні». Іменна Шуман адкрыў свету геніяльны талент нікому тады яшчэ невядомага польскага юнака Фрэдэрыка Шапэна. Пазней ён таксама празорліва адкрывае маладога нямецкага музыканта Іагана Брамса, ён адкрывае і шэраг незаслужана адмаўляемых афіцыйнай «грамадскасцю» твораў многіх і сучасных яму кампазітараў, прымушае ўспомніць забытае і згубленае.

Творчасць Шумана заўсёды знаходзіла гарачы водгук у перадавых колах музычнай Расіі. Музыка Шумана — гэта адна з тых скарбніц чалавечай думкі, якая заўсёды блізкая, зразумелая і дарагая савецкай аўдыторыі, лепшай, найбольш удзячнай музычнай аўдыторыі свету.

**І. НІСНЕВІЧ.**

## Выдатны дзеяч мастацтва

У чэрвені гэтага года споўнілася 60 год аднаму з выдатных дзеячоў беларускага тэатральнага мастацтва Канстанціну Мікалаевічу Саннікаву. Амаль увесь творчы шлях К. М. Саннікава звязаны з тэатрам імя Янкі Купалы. Тут ён выступае як артыст і як таленавіты рэжысёр. Ім пастаўлены дзесяткі спектакляў, многія з іх ідуць і па сённяшні дзень на сцэне. К. М. Саннікаў удзяляе шмат увагі выхаванню маладога папаўнення тэатраў.

На здымку: К. Саннікаў сярод студэнтаў Тэатральнага інстытута.

Фота А. Дзітлава.



## МАСТАК-АМАТАР

**Леаніду Дубоўскаму 20 год. Ён працуе грузчыкам у Пухавічах. З дзяцінства Леанід захапляецца маляваннем. Вось некалькі накідаў алоўкам, якія Л. Дубоўскі даслаў у рэдакцыю.**



# У ПАВЕТРЫ—ШАР-ПІЛОТ

У празрыстым блакітным небе з'явілася воблачка, за ім другое, трэцяе. Гаснуць сонечныя прамені. Паветраную прастору аж да самага гарызонту ахутвае ледзь не суцэльная белая заслона. Толькі невялікія пяшчотна-блакітныя астраўкі напамінаюць аб тым, што зусім нядаўна неба было абсалютна чыстым. Усё ніжэй і ніжэй апускаюцца воблакі. Насустрач ім, у вышыню ляціць паветраны шар. Ён у некалькі разоў больш за тыя рознакаляровыя шары, якімі любяць забаўляцца дзеці. Сінечорны, напоўнены вадародам, шар-пілот выразна бачны нават на вялікай вышыні.

Уважліва сочаць з зямлі за імклівым рухам шара-пілота. У руцэ метэаролага Галіны Ніканораўны Патапавай — секундамер. Яна запусціла яго ў той момант, калі шар аказаўся на волі. Варта было яму толькі дакрануцца да краю срабрыстых воблакаў, і стрэлка замёрла. Ведаючы пад'ёмную сілу шара, час палёту, не цяжка дакладна вызначыць ніжнія граніцы воблачнасці. Праходзіць яшчэ нямнога часу, і тэлеграф перадае свежыя даныя ў рэспубліканскае ўпраўленне гідраметэаслужбы.

Гэта будні Ваўкавыскай метэастанцыі. Невялікі калектыў удзень і ўночы нясе вахту — сочыць за атмасфернымі з'явамі, фіксіруючы любую нязначную змену надвор'я. Паслугамі станцыі карыстаюцца прадпрыемствы, калгасы, соўгасы раёна, грамадзянская авіяцыя і г. д. У любую пару года неабходны дакладны прагноз. Дэкадныя даныя аб тэмпературы глебы, наступленні пераломy атрымліваюць сельскія саветы, Шчучынскі і Ваўкавыскі сортаўчасткі.

...Да сіноптыкаў звяртаюцца розныя ўстановы — дзяржстрах для ўдакладнення часу і месцаў стыхійных бедстваў, інкубатарная станцыя, чые племянныя кураняты ў першыя дні жыцця асабліва хварравіта рэагуюць на кожную змену тэмпературнага рэжыму. У асенні час да начальніка Віктара Аляксеевіча Сосніна часта званілі з «Загатзбожжа». У спякотныя вераснёўскія дні няма нічога лепшага, чым паветраная сушка збожжа. Але перад тым, як пакінуць на ноч тоны збожжа на цэментаванай пляцоўцы, варта звярнуцца да метэаролагаў.

— Якое надвор'е на заўтра? — пыталіся ахоўнікі дзяржаўнага багацця.

І калі ў трубцы чулася: «Добрае, сонечнае», дык яны без усякай рызыкі трымалі збожжа на свежым паветры.

Неацанімую дапамогу аказваюць сельскай гаспадарцы гідролагі ў садружастве з метэаролагамі. Для іх ёсць работа ў любую пару года. Спецыяльным бурам яны перыядычна вызначаюць запас прадуктыўнай вільгаці ў глебе, беручы пробы нават з метровай глыбіні. Зімою станцыя вядзе назіранні за станам збожжавых культур, траў.

У вялікія маразы на рэках сустрэнеш гідролагаў. Іх цікавіць таўшчыня лёду, жыццё, якое ідзе пад тоўстым лёдавым покрывам, хуткасць плыні і ўзровень вады. Вясною яны таксама тут. Гэта самы цікавы і небяспечны перыяд. Узровень вады ў час ледаходу высокі, а замеры яго неабходныя. І вось з рызыкай для жыцця, узброеныя выратавальным поясам, людзі спакойна выконваюць свой абавязак, бо ведаюць, што з Мінска, Масквы заўсёды могуць запатрабаваць такія даныя.

Асноўныя назіранні станцыя вядзе на месцы. Яна аснашчана ўсімі неабходнымі прыборамі. На метэаралагічнай пляцоўцы, або «кухні надвор'я», у спецыяльных будках змешчаны самапішучыя тэрмаграф і гігрограф, ёсць ападкамер, тры надглебавыя тэрмометры. Для папулярызацыі службы сюды наладжваюцца экскурсіі вучняў. Не раз бывалі тут дзеці другой і трэцяй школ Ваўкавыска. У падарунак школам перададзены флюгеры, дажджамеры, камплекты прыбораў для метэаралагічных будак.

...У крыштальна чыстае паднябессе, затуманенае шызаватай дымкаю, урываюцца воблакі, якія нагадваюць камячкі белай ваты. З кожнай хвілінай іх становіцца больш. Метэаролагі гатовы да замеру вышыні: шар-пілот у паветры.

**З. БРУК.**

# ЧОРНАВОЧКА



Вучні Аршанскай сярэдняй школы Леанід Бяляўскі і Леанід Баранаў з галубамі, якіх яны гадуюць для фестывалю.

Фото С. Чырэшкіна.

На пахілай страсе хлеўчука стаіць хлопчык. Адна калашына яго штаноў закасалася, і на голай назе відаць сіняк. У руках хлопчык трымае доўгі кій з навязаным на канцы касніком і, махаючы ім над галавой, прарэзліва свішча.

— Досыць табе ўжо, — незадаволена кажа таварыш, які стаіць поплеч з ім. — Бачыш, і так добра ідуць.

Лёня Баранаў так захоплены сваім заняткам, што нават не чуе, што там кажа цёзка. А неба над хлапчукамі чыстае, празрыстае, ні аблачынкі на ім. І галубы, за палётам якіх уважліва сочаць сябры, быццам купаюцца ў блакітнай вышыні.

Уперадзе за ўсіх і крышку вышэй ляціць белая галубка Чорнавочка. Яе пер'е ў промнях сонца іскрыцца і пераліваецца. Нават балюча глядзець. На вачах у хлопчыкаў слёзы.

— Ух ты, — не вытрымлівае першым Лёня Баранаў і кідае на зямлю кій. — Добра было-б прыдумаць якую-небудзь падзорную трубу з задымленымі шкельцамі для таго, каб назіраць за галубамі. Лёня Бяляўскі згаджаецца з ім моўчкі, кіўком галавы, усё яшчэ сочачы за палётам галубкі.

— Мне-б такіх завесці, як Чорнавочка, — нечакана выказвае ён уголас сваю думку.

— Як мая Чорнавочка? — насцярожваецца Лёня Баранаў. — Жартуеш! Такой ні ў кога не павінна быць. Дык ты не намякай.

— А я і не намякаю, — з крыўдай вымаўляе цёзка. — У нас таксама сёе-тое знойдзецца...

Ён хацеў яшчэ сказаць «лепшага за вашага», але раптам заўважыў, што над дахамі нізка ляцеў коршак. Хлопчык адразу адгадаў намер драпежніка. Ён скаціўся са страхі, схапіў кій і, крычучы, кінуўся на вуліцу.

Тое, што здарылася, для Лёнькі Баранава, гаспадара галубоў, было такім нечаканым, што ён нават скрануцца з месца не паспеў. Затое цёзка аказаўся ўвішным. Вось калі спатрэбілася яму ўмельства свістаць. Кій і свіст зрабілі сваё: коршак спалохаўся, але ён усё-такі паспеў дзюбнуць Чорнавочку, і галубка, губляючы на ляту пер'і, стрымгалоў паляцела ўніз.

Імгненна Лёня Баранаў як-бы ўбачыў прамяністыя, заўсёды ласкавыя вочы старшай піянерважатай, і перад ім выразна ў думках замільгалі карціны.

...Вось сямікласнікі іх атрада сабраліся ў піянерскім пакоі, каб абмеркаваць адно пытанне: падрыхтоўку да VI Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў. Старшая піянерважатая Лідзія Паўловіч гаворыць:

«У сталіцу нашай Радзімы Маскву праз Оршу будуць ехаць дэлегацыі шмат якіх зарубежных краін. Давайце-ж падумаем, сябры, якімі падарункамі сустрэнем мы ўдзельнікаў фестывалю?»

Лідзія Паўловіч падрабязна расказала, якія падарункі прапанавалі зрабіць піонеры іншых атрадаў. Гэта — вырасціць новыя гатункі кветак і як мага больш шматгадовых: гладыёлусаў, нарцысаў, цюльпанаў. Завязаць перапіску з юннатамі іншых школ, з Беларускай сельскагаспадарчай акадэміяй, каб абменьвацца насеннем, вопытам. Абвясціць у дружыне конкурс на лепшую мадэль вазачкі і кошыка для кветак і садавіны.

Вучні сёмага класа «А», выслухаўшы піонерважатую, пачалі ўносіць свае прапановы. Гаварылі бойка, часам перабіваючы адзін другога: і юннаты, і юныя тэхнікі, і фізкультурнікі, і ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці. Маўчаў адзін Лёня. Ён быў абыякавы да ўсяго, што адбывалася ў класе. Так прынамсі думала старшыня савета атрада Нэля Ермакова. Ёй вельмі не падабалася лёнева маўчанне. Толькі на гэты раз дзяўчынка памылілася.

Справа ў тым, што і Лёня Баранаў хацеў унесці сваю прапанову па падрыхтоўцы да фестывалю. Яна была звязана з галубамі, якіх ён вельмі любіў і за якіх калісьці ўляцела яму ад таварышаў. Гэта калі ён, захапіўшыся галубамі, пачаў адставаць у вучобе. «Але-ж гэта было даўно, — разважаў хлопчык. — Цяпер у мяне няма двоек. А што калі я скажу?» — і ён узняў руку. Старшая піонерважатая дала Лёню слова.

— А што калі мы, — пачаў няўпэўнена ён, — вырасцім галубоў! І падорым іх замежным гасцям? Беласнежных! Прыгожых! — Лёня перавёў дых і дадаў ужо смела і гучна: — Няхай будзе гэты наш падарунак сімвалам міру і дружбы.

Прапанову Баранава прынялі аднагалосна.

— Малайчына, Лёня, — хваліў таварыша Саша Ліхадзіеўскі, калі яны ішлі дахаты, таксама аматар галубоў. — Цяпер нас не будуць зваць галубятнікамі. Мы, — сказаў ён, — з сённяшняга дня — галубаводы! Як і кветкаводы, садаводы, жывёлаводы, праўда?

— Вось табе і галубаводы, — з горыччу думаў Лёня цяпер, усё яшчэ седзячы на страсе. Ён убачыў, як Чорнавочка, не даляцеўшы да зямлі, раптам з цяжкасцю пачала выроўніваць палёт. Хлопаючы крыллем, галубка даляцела да страхі і, разявіўшы дзюбу, пабегла да будкі.

— Не сумуй, — даляцелі знізу словы цёзкі. — Ачуняе.

Лёня Бяляўскі, выціраючы рукавом спацелы лоб, пераступаў з нагі на нагу. Потым ён з жалем кінуў:

— Эх, каб стрэльба была пад рукою. Я ўмомант коршака-б на прыцэл. І ўсё добра-б скончылася. Ну, я пайшоў.

Ён папраўіў шапку на галаве і засігаў да школы. І толькі цяпер Лёня Баранаў успомніў, што нават не падзякаваў таварышу. Зрабілася шкада яго: дарма пакрыўдзіў цёзку.

Зноў яны сустрэліся на адным з вечароў мастацкай самадзейнасці ў Доме піонераў. Хлопчыкі разгаварыліся. Аказалася, што і ў шостай школе, дзе вучыцца Лёня Бяляўскі, вучні рыхтуюцца да сустрэчы фестывалю: азеляняюць школу, садзяць кветкі, робяць макеты рачных параходаў і малюнкі Дняпра.

— У нядзелю, — пахваліўся Бяляўскі, — наладзім экскурсію да рачнікоў. Пабудзем на прыстані. Наш атрад рыхтуецца да збору «Хачу ўсё ведаць». Хочаш, пойдзем з намі на экскурсію.

— Згодзен! — узрадаваўся Лёня Баранаў і ў сваю чаргу прапанаваў: — А ты да нас прыходзь на вечар фокусаў і загадак.

Ён чакаў, што цёзка спытае ў яго пра Чорнавочку, але той чамусьці маўчаў. Тады Лёня сказаў:

— Нядаўна мы атрымалі ліст ад эстонскіх піонераў. Памятаеш, я табе расказваў, што наша школа выклікала іх на спаборніцтва за лепшую падрыхтоўку да фестывалю.

— Што яны пішуць?

— Прынялі нашу прапанову.

— Яны таксама будуць галубоў гадаваць?

— Не толькі галубоў, — адказаў Лёня Баранаў, адчуваючы маўклівы дакор таварыша. Цяпер ён асабліва выразна ўсвядоміў, што ён глыбока памыляўся, калі сказаў яму: «Не намякай». І адкуль ён узяў, што Лёня Бяляўскі іменна на яго Чорнавочку разлічваў? Ён-жа толькі ўсклікнуў: «Мне-б такіх завесці!» А хіба ў другіх хлопцаў галубы горшыя? Вунь-жа і ў Сашы Ліхадзіеўскага прыгожыя турманы, і ў Віктара Тарасава, і ў Валодзі Бабарыкі. Праўда, усе яны захапляліся яго Чорнавочкай. Іменна таму і вырашыў ён вырасціць ад яе пакаленне галубоў для падарунку замежным гасцям.

«А што калі», — падумаў хлопчык і раптам засароміўся, не адважыўшыся выказаць сваю думку ўголас. І ён пачаў гаварыць зусім аб іншым. Толькі думка, якая нарадзілася неспадзявана, ужо неадступна завалодала ім. Няўважліва слухаў ён Лёню Бяляўскага. А той расказваў пра тое, што робяць піонеры атрада.

Пасля канцэрта ў Доме піонераў сябры вярталіся дадому разам. На тратуары ляжалі ўжо першыя вячэрнія змрокі. З Дняпра патыхала свежасцю. Светларужовы закат абяцаў заўтра добрае надвор'е.

— Ведаеш што? — раптам сказаў Лёня Баранаў і дакрануўся да пляча таварыша. — Учора Чорнавочка знесла першае яйка. Я ведаю, да фестывалю яна выведзе некалькі пакаленняў беласнежных галубоў. Аднаго з іх я вырашыў падарыць табе, — і, нахіліўшыся да сябра, горача зашаптаў: — Ты прымеш мой падарунак? Так? І таксама здолееш да фестывалю выгадаваць такіх галубоў, як Чорнавочка? Праўда?

У адказ Лёня Бяляўскі моцна пацiснуў цёзкаву руку.

**Г. ШЫЛОВІЧ.**

# Што вы параіце?

«Я помню чудное мгновенье:
Передо мной явилась ты,
Как мимолетное виденье,
Как гений чистой красоты.
В томленьях грусти безнадежной,
В тревогах шумной суеты
Звучал мне долго голос нежный
И снились милые черты».

**Ці можна лепш сказаць пра каханне? Ці можна больш высакародна і чыста акрэсліць гэтае пачуццё? Здаецца, не. Ва ўсякім разе словамі — вельмі цяжка.**

**Радкамі гэтага цудоўнага прысвячэння А. С. Пушкіна і хочацца пачаць гутарку — на гэты раз заключную — аб пісьме Мікалая Валошкі «Што вы параіце?» І водгуках чытачоў на гэтае пісьмо («Маладосць» № 2, 3, 4, 5, 6).**

**Праўду пішуць вельмі многія юнакі і дзяўчаты, што тэма дружбы і кахання, тэма асабістага чалавечага шчасця, якія заўсёды цікавілі і цікавяць нашу савецкую моладзь, вельмі рэдка абмяркоўваюцца жыва і цікава. Часцей усё гэта зводзіцца да нудных і, як блізняты, падобных адна на другую публічных лекцый — «Аб маральным вобліку савецкага маладога чалавека», якія загадзя ўжо адпужваюць гэтага «маладога чалавека». Адпужваюць таму, што ён ужо «набіў аскоміну» на гэтых часцей за ўсё сухіх, бясстрасных лекцыях.**

**Неабходна коратка паўтарыць змест пісьма «Што вы параіце?»**

**М. Валошка (аўтар пісьма) на адным з магілёўскіх заводаў пазнаёміўся з інжынерам Віктарам. Віктар прапанаваў неўзабаве Валошку перасяліцца да яго на кватэру.**

**«Я ўжо ведаў, — піша М. Валошка, — што Віктар за два гады работы на заводзе заваяваў немалы аўтарытэт, што ён здольны і разумны кіраўнік... У нас з Віктарам многа агульнага — узрост, прафесія і нават погляды на многія жыццёвыя рэчы... Яго прапанова мяне проста ўсхвалявала, і я з удзячнасцю згадзіўся».**

**Праз некаторы час паводзіны Віктара пачалі здзіўляць яго новага суседа. «То ён радасна ўзбуджаны, хутка пераапранаецца і, не гаворачы ні слова, кудысьці ішоў, то лажыўся на канапу і цэлымі гадзінамі ляжаў з адкрытымі вачыма, адказваючы на маё пытанне толькі «не» ці «так», то раптам уставаў ноччу з пасцелі, уключаў настольную лямпу, штосьці пісаў, потым рваў на дробныя шматкі, а потым зноў пісаў»... Было відаць, што «ў душы юнака адбываецца нейкая барацьба»...**

**Аднойчы Віктар не вытрымаў, сам расказаў усё сябру. У яго ёсць дзяўчына. Ён яе кахае. Яна таксама не адмаўляецца ад сустрэч з ім. «Вечарам — яна, кіно, прагулкі на лодцы па Дняпры, бясконцыя гутаркі, спрэчкі»...**

**Аднак пасля першага яго прызнання, прызнання, навеянага тэатрам, цудоўным вечарам і такой ласкавай дзявочай просьбай не рваць, не губіць лісточак, Клаву быццам падмянілі. Пасля таго вечара Віктар пачаў заўважаць, як аддаляецца ад яго Клава, як пазбягае яна сустрэч з ім.**

**Яе хвароба таксама не зблізіла іх. Віктар кожны дзень наведваў Клаву, прыносіў ёй свежыя часопісы і газеты, пісаў ёй доўгія запіскі. Клава адказвала на іх удзячнасцю — і ўсё!**

**Няцяжка зразумець становішча Віктара; яго грызла трывога, надзея змянялася самым беспрасветным сумам (мусіць, у такія гадзіны нешта ён і «пісаў, потым рваў на дробныя шматкі, а потым зноў пісаў»...).**

**Пасля звароту з санаторыя Клава раптам пазваніла Віктару і запрасіла прыйсці да яе. Хто не ведае, што робіцца з сэрцам у такія моманты! Вядома, Віктар адразу-ж паімчаўся на крылях сваёй радасці да Клавы і зноў «павёў яе па старых, знаёмых месцах»... Пацалунак загубіў усе надзеі... Клава адказала на яго толькі зніш-чальна-зняважлівым поглядам. Праз некалькі дзён вынікам чарговай «сур'ёзнай размовы» з'явілася клавіна згода толькі... сябраваць.**

**Віктар адмовіўся ад гэтай прапановы... Ён сказаў, што «з сённяшняга дня мы толькі знаёмыя — не больш. І пайшоў!»**

**Аднак сардэчны боль так хутка не знікае ў закаханага хлопца.**

**«Ты скажы, што мне рабіць?.. Я яе кахаю, яна мяне — не. Забыць мне Клаву ці працягваць змагацца за яе каханне? І як змагацца?»**

**Вось усе гэтыя віктаравы пытанні і прымусілі яго сябра М. Валошку звярнуцца за парадай у рэдакцыю. Рэдакцыя-ж прапанавала даць адказ на іх сваім чытачам.**

**Адказаў-парад прыйшло вельмі многа. Усе яны, у асноўным, падзяляюцца на дзве групы. Першая: асуджэнне Віктара за яго нежаданне працягваць сяброўства з Клавай, незалежна ад тых адносін, якія склаліся пасля таго, калі Клава адмовілася адказаць каханнем на каханне Віктара.**

**Другая група пісем горача падтрымлівае Віктара ў яго намеры і, наадварот, асуджае Клаву.**

**Разгледзець усе пісьмы немагчыма. Спынімся толькі на некаторых. Пісьмы гэтыя самі па сабе вельмі дакладныя і каментарыі да іх патрабуюцца самыя нязначныя.**

**П. Несцяровіч — старшы піонерважаты — піша («Маладосць» № 3): «Я лічу, што Віктар памыляецца, сцвярджаючы, што калі паміж людзьмі няма ўзаемнага кахання, то паміж імі не можа быць поўнай шчырасці, давер'я, без чаго няма сяброўства. Гэта памылка».**

**П. Несцяровіч прыводзіць прыклад з асабістых назіранняў. Расказваючы пра свайго сябра Валодзю і яго сяброўку Надзю, ён вельмі слушна заўважае, што «...у аснове сапраўднага кахання павінна ляжаць шчырае сяброўства, што без сяброўства, без узаемнай павагі не можа быць сапраўднага кахання. А што атрымалася ў Віктара з Клавай? Віктар бачыў у Клаве перш за ўсё дзяўчыну, а не чалавека з гонарам за сваю чалавечую вартасць. Ён не цікавіўся, чым яна жыве, што думае, які яе ўнутраны свет... Не, калі-б Віктар паважаў Клаву, ён так-бы хутка не адмовіўся ад яе»...**

**Усё гэта, зразумела, так — «тэарэтычна». Але ўважліва перачытаўшы яшчэ раз пісьмо М. Валошкі, нельга згадзіцца са сцвярджэннем П. Несцяровіча, што Віктар не паважаў Клаву, што ў адносінах да Клавы ён быў кепскім сябрам. Зусім не. Што, як не пачуццё шчырага сяброўства (пасля таго ўжо, калі на яго прызнанне Клава адказала халоднай замкнутасцю і пасталася спыніць далейшыя сустрэчы), што, як не гэта пачуццё прыводзіла Віктара штодня да яе ў бальніцу? Каханне, скажуць тыя, хто бачыць у віктаравым пачуцці чамусьці толькі нейкія «ўласніцкія» «эгаістычныя» намеры. Што-ж, няхай сабе каханне. У цяжкія часы яно ўзнімае на ногі, выратоўвае чалавека, а значыць, і вельмі многага варта.**

**Мусіць, не будзе пераўвелічэннем сказаць, што дапамагло яно і Клаве выйсці хутчэй з бальніцы.**

**І тут калі ўжо каго вінаваціць, дык гэта не за яе халоднасць і няўдзячнасць.**

**Праўда, вінаваціць за тое, што адзін чалавек не кахае, гэтак-жа цяжка і несправядліва, як і за тое, што другі кахае. Іншая справа, што паводзіны Клавы наогул незразумелыя. Сустракацца з Віктарам кожны дзень яна сустракаецца, у кіно і ў тэатр з ім ходзіць, на лодцы катаецца. Усё гэта змахвае усё-такі на нешта куды большае, чым звычайнае сяброўства. І нічога дзіўнага ў гэтым не было-б: абое маладыя, слаўныя. Чаму і сапраўды не можа быць паміж імі кахання? Аднак выходзіць зусім іначай: за віктарава прызнанне — адчужэнне, за пацалунак — яшчэ горш...**

**За што-ж тут дакараць Віктара, так як гэта робіць П. Несцяровіч: «Віктар не разабраўся ў сваіх пачуццях адразу і лёгка адштурхнуў ад сябе добрую дзяўчыну. Ён зрабіў паспешлівыя вывады, неабдуманыя, лёгкадумныя, памылковыя. Клава ў гэтым выпадку аказалася дзяўчынай цвёрдай, прынцыповай, маральна вытрыманай, сапраўднай дзяўчынай, выхаванай у духу камуністычнай маралі».**

**Дазвольце, аб якіх памылковых лёгкадумных вывадах ідзе размова? Што чалавек прызнаўся ў каханні? Дык на гэтым, як кажуць, свет стаіць. Калі-ж і кахаць, як не ў дваццаць гадоў? І за гэта караць чалавека? Каханне без узаемнасці — ужо і так дастатковая кара...**

**Мусіць, занадта будзе таксама надзяляць столькімі «ўрачыстымі» эпітэтамі і так узвялічваць «прынцыповасць» і «маральную вытрымку» Клавы. Іменна «духу камуністычнай маралі» не ўласціва такая «гульня ў каханне». Калі Клава пасля ўсіх праведзеных разам з Віктарам дзён і вечароў упэўнілася, што ён, як кажуць, ёй «не пара», што яны людзі розныя, што інтарэсы аднаго з іх чужыя інтарэсам другога, тады яна, як дзяўчына сапраўды сумленная, павінна была-б проста і адкрыта сказаць: «Віктар, даруй мне, я цябе не кахаю».**

**Гульня ў хованкі ніколі і ні ў чым, ні ў якім пытанні не была ўласціва «духу камуністычнай маралі».**

**Спрабуючы прааналізаваць і растлумачыць складанасць і ненатуральнасць адносін паміж Віктарам і Клавай, студэнт медінстытута І. Скарына («Маладосць» № 5) горача палемізуе з Несцяровічам, які, як гаварылася ўжо вышэй, вінаваціць Віктара за тое, што ён так «лёгка адмовіўся ад Клавы».**

**«Калі-б Несцяровіч кахаў, дык ён не сказаў-бы, што Віктар «лёгка адмовіўся» ад Клавы. Не! Віктар правільна паступіў, што стрымліваў сябе і стараўся не навязвацца, хоць гэта і давалася яму нялёгка.**

**Клава захварэла... Віктар ля яе пасцелі. Чаму хто-небудзь другі не прыносіць ёй часопісы, а іменна Віктар? Ён напісаў запіску. І вось адказ Клавы: «...Яна вельмі доўгая, і я не прачытала яе»... Ды хіба, калі закаханы, ты глядзіш на тое, што многа напісана?! Наадварот! Калі многа, значыць, лепш! З якой асалодай чытаем запіску любімай, гэта можа сказаць той, хто шчыра кахае!**

**А вось і такі факт: ці хаваў-бы хто-небудзь проста запіску сябра? Не, не хаваў-бы!**

**Хіба-ж не гаворыць усё гэта, што Віктар кахае, кахае шчыра, па-сапраўднаму... І што-ж, пацалунак — крэпасць, аб якую разбілася каханне. А ці не наадварот павінна быць?**

**...Сяброўства — гэта проста братэрскія адносіны паміж людзьмі. Каханне — гэта такія адносіны, калі сэрцы двух б'юцца, як адно, калі Клава — гэта Віктар, а Віктар — гэта Клава, калі без каханага жыццё не жыццё, а пануране існаванне».**

**Прыводзячы такую значную вытрымку з пісьма І. Скарыны, нельга таксама не прывесці яшчэ і вывадаў яго адносна пытання, узнятага ў пісьме М. Валошкі «Што вы параіце?»**

**«Мае вывады такія, — піша т. Скарына, — Віктар шчыры, сумленны юнак, які ўсім сэрцам кахае Клаву. Клава — дзяўчына, якая не здольна кахаць Віктара. І Віктар правільна зрабіў, што сябраваць з ёю не захацеў. Там, дзе ёсць шчырае, сапраўды чыстае, свежае каханне, дружбы быць не можа, калі яно не было прызнана з другога боку».**

**У катэгарычнасці такога вываду, бадай што, можна ўсумніцца. Магчыма, як кажуць, «не ўсё яшчэ згублена». Магчыма (і гэта часта здараецца), Клава яшчэ «адумаецца» — і ўсё стане на сваё месца. Таму, можа, і няварта станавіцца Віктару ў позу «толькі знаёмага». «У позу» — таму, што гэта будзе не сапраўднае яго адчуванне. Ён-жа кахае Клаву, а кахаць і ў той-жа час рабіць выгляд «толькі знаёмага» не так проста.**

**Аднак правільна тое, што лічыць сябе «загінуўшым, прапашчым» чалавекам, хадзіць па пятах за Клавай і лічыць сваё жыццё «загубленым» у Віктара няма падстаў. Няхай сабе нават Клава і не вернецца да яго — ну што-ж, не заўсёды каханне бывае ўзаемным. Віктар сустрэнецца яшчэ з дзяўчынай, якая ўсім сэрцам адклікнецца на яго пачуццё».**

**«Я не веру, каб разумны, валявы хлопец не мог узяць сябе ў рукі... Ён-жа стаў патрэбным грамадству чалавекам, не пайшоў па крывой дарозе... Ён павінен забыць Клаву. Вядома, будзе цяжка, горка, але ён перасіліць. Не развакаў і хлюпікаў выхоўвае з нас камсамол, усё наша грамадства, і кожны малады чалавек павінен супрацьпаставіць сваю волю жыццёвым нягодам і няўдачам».**

**Так піша ў рэдакцыю інжынер Маргарыта Сяргеева ў сваім пісьме «Людзі свабодныя ў сваіх пачуццях».**

**Тое-ж самае раіць Віктару і студэнт Міклуша: «Віктару, вядома, не трэба кідаць завод, а трэба спыніць сустрэчы і дамаганні блізкіх адносін з Клавай. Яго воля, час і праца дапамогуць юнаку знайсці тое ўраўнаважанае становішча, якое ні ў якім разе нельга губляць у жыцці».**

**Спрачаючыся з П. Несцяровічам, які сцвярджае, што Віктар памыліўся, адмовіўшыся сябраваць з Клавай, і з Ів. Кірэенкам, на думку якога «ў адносінах Віктара было многа лёгкадумнага, разлічанага на лёгкі поспех», выпускнік Бабруйскага педвучылішча В. Багдановіч горача абараняе Віктара.**

**«Аб Віктару якраз нельга сказаць, што ён носіцца па гораду ў пошуках забаў. Каханне яго не лёгкадумнае яно ўзнімае яго, яно прыносіць яму «энергіі ўтрая больш». Віктар заваяваў аўтарытэт сярод калектыву завода, а гэта не проста даецца...»**

**Вось тыя паасобныя пісьмы чытачоў, іх погляды і заўвагі адносна ўзнятага пытання. У партфелі рэдакцыі ёсць яшчэ шмат пісем, якія не паспелі з'явіцца на старонках часопіса. Сутнасць іх прыблізна такая-ж самая.**

**На тэму аб каханні гаворыцца і пішацца наогул вельмі многа, аднак, мусіць, наўрад ці знойдзецца такі «смяльчак», «тэарэтык», які-б адважыўся нейкай поўнай формулай акрэсліць гэтае вялікае і ўдзячнае пачуццё. Бясспрэчна толькі тое, што шчырае каханне натхняе чалавека на подзвігі, робіць яго лепшым, як быццам надае яму сілы. Наўрад ці ёсць патрэба даказваць, што там, дзе няма шчырасці, там няма кахання.**

**У Клавы шчырасці не было ў адносінах да Віктара. Значыць, не было і кахання.**

**Што-ж тут больш карыснае параіць хлопцу? Мусіць адно (хоць парады, як вядома, заўсёды лягчэй даваць, чым імі карыстацца): ці варта вельмі ўжо шкадаваць аб тым, чаго не было?..**

**Хіба на шляху Віктара не стрэнецца яшчэ добрая дзяўчына, якая па-сапраўднаму яго пакахае? Вядома, будзе яшчэ і такая сустрэча.**

**Толькі заўсёды пры гэтым трэба памятаць (а вядучы размову пра каханне, цяжка абысціся без вершаў), што «любовь с хорошей песней схожа, а песню нелегко сложить».**

**Алена ВАСІЛЕВІЧ.**

**АД РЭДАКЦЫІ**

Артыкулам пісьменніцы Алены Васілевіч рэдакцыя мае намер закончыць абмеркаванне на старонках часопіса пісьма Мікалая Валошкі.

У наступным нумары «Маладосці» будзе змешчана другое дыскусійнае пісьмо на надзённую тэму.



Совецкі Саюз няўхільна праводзіць палітыку міру. Аб гэтым сведчыць рашэнне Совецкага ўрада скараціць колькасць Узброеных Сіл СССР на 1,2 мільёна чалавек. Дэмабілізаваныя з радоў Совецкай Арміі адразу-ж уліваюцца ў дружную працоўную сям'ю. Многія з былых воінаў паедуць на будоўлі шостай пяцігодкі ў Сібір і на Далёкі Усход.

Вось і гэтага маладога воіна, які ад'язджае з Брандэнбурга (Германская Дэмакратычная Рэспубліка), таксама чакаюць новабудоўлі Совецкага Саюза.

Праводзіць воінаў у Брандэнбургу прыйшло тры тысячы працоўных.

На здымку: совецкі воін цёпла развітваецца з маленькай жыхаркай Брандэнбурга.

Фото Цэнтральбільд.



# ДЭЛЕГАТЫ ВЛКСМ У РУМЫНІІ



На здымках: уверсе — **уручэнне пераходнага вымпела перадавой брыгадзе маладых будаўнікоў-добраахвотнікаў на будаўніцтве буйнейшай на поўдні Еўропы ГЭС імя В. І. Леніна ў Беказе, вобласць Бакеу;**

унізе злева — **дэлегацыя ВЛКСМ разам з актывістамі і работнікамі СПМ г. Сталін накіроўваецца на прагулку ў Карпаты;**

унізе справа — **адно са шматлікіх маляўнічых азёраў, якія ўпрыгожваюць румынскую сталіцу Бухарэст.**

Фото А. Аксёнава.

# 25 ДЗЁН У РУМЫНІІ




**А. АКСЁНАЎ,**

**сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі**

Няспынна расце цікавасць савецкай моладзі да жыцця моладзі народна-дэмакратычных краін, якая разам з усім народам будуе сацыялізм. Велізарную цікавасць да жыцця савецкай моладзі праяўляюць і юнакі і дзяўчаты краін народнай дэмакратыі. Усё часцей адбываецца абмен маладзёжнымі дэлегацыямі.

Нядаўна па запрашэнню ЦК Саюза Працоўнай Моладзі Румыніі дэлегацыя ВЛКСМ правяла 25 дзён у гасцях у румынскіх сяброў. У яе складзе давялося быць і мне. Вялікія, незабыўныя ўражанні і зараз хвалююць кожнага з нас, хто сустракаўся з румынскім народам, з моладдзю.

Моладзь Румыніі з'яўляецца актыўным удзельнікам будаўніцтва сацыялізма, пад кіраўніцтвам Румынскай рабочай партыі. Нашы незабыўныя сустрэчы з моладдзю гэтай краіны праходзілі заўсёды ў выключна цёплай і сяброўскай абстаноўцы. Яны выліліся ў дэманстрацыю мацнеючай непарушнай дружбы паміж моладдзю Румыніі і Савецкага Саюза.

Першыя дні праляцелі непрыкметна. Сустрэчы ў ЦК Саюза Працоўнай Моладзі, наведванне фабрыкі імя Георгіу Дэж у Бухарэсце, медыцынскага інстытута, сустрэчы і гутаркі з моладдзю і актывістамі СПМ, знаёмства з румынскай операй. А затым — паездкі па краіне. Румынскія таварышы зрабілі ўсё магчымае, каб члены нашай дэлегацыі добра азнаёміліся з краінай, пабывалі на заводах і фабрыках, у дзяржгасах і калектыўных гаспадарках, у інстытутах і школах. А галоўнае, імкнуліся наладзіць больш сустрэч і гутарак з моладдзю.

Мы пабывалі на заводзе «1-е Мая» ў горадзе Плаешці, на нафтапромысле Бэйкой, на будоўлі ГЭС імя В. І. Леніна у Беказе, на лесакамбінаце «Вадур», на трактарным заводзе імя Тэльмана ў горадзе Сталін, металургічным камбінаце імя Георгіу Дэж у Хунедаары, на вугальнай шахце ў Петрашанах, заводзе імя Іосіфа Рангеца ў горадзе Арадзе і іншых прадпрыемствах. Усюды нас цікавіла работа нізавых арганізацый Саюза моладзі, сустрэчы з маладымі актывістамі, перадавікамі і рацыяналізатарамі. Часта нашы сустрэчы і гутаркі зацягваліся да позняй ночы. Мы абмяркоўвалі рознастайныя пытанні, абменьваліся вопытам работы. Маладыя румыны расказвалі нам, як Саюз працоўнай моладзі ўцягвае юнакоў і дзяўчат у сацыялістычнае спаборніцтва за павышэнне прадукцыйнасці працы і барацьбу за ўмацаванне працоўнай дысцыпліны.

У Румыніі зараз налічваецца 15 тысяч маладзёжных брыгад, некалькі тысяч маладых наватараў вытворчасці. Толькі на прадпрыемствах Бухарэста ў спаборніцтве ўдзельнічае 60 тысяч маладых рабочых, 2.300 маладзёжных брыгад. Там працуе некалькі сот кантрольных пастоў. Маладыя нафтавікі рэдужны (вобласці) Плаешці ўзялі на сябе абавязацельства выкапаць сіламі моладзі 20 кілометраў труб. У гонар Другога з'езда РРП моладзь гэтай вобласці ўвяла ў дзеянне шаснаццаць нафтавых скважын, якія раней былі закінуты. Вось трактарны завод імя Эрнста Тэльмана. Тут створаны і працуюць 31 маладзёжная брыгада, якія спаборнічаюць паміж сабой. Ёсць маладзёжныя кавальскія прэсы, цэлыя рабочыя ўчасткі. Маладыя рабочыя сэканомілі метал, а потым зрабілі з яго тры трактары. Сакратар камітэта СПМ завода Іосіф Сас пазнаёміў нас з маладым свідравальшчыкам Іонам Стратуланам, які першы ў краіне прымяніў метад савецкага наватара Жырава.

Румынскія трактаразаводцы выпускаюць на сваім заводзе трактары па мадэлі трактара «Беларусь». З мінскімі трактаразаводцамі яны добрыя сябры, часта перапісваюцца, абменьваюцца тэхнічным вопытам. На памяць аб нашай сустрэчы трактаразаводцы падарылі нам па-майстэрску зробленую мадэль трактара.

Мы ў даліне Жыул—вугальным басейне Румыніі. Нас праводзяць у шахту, якая дзейнічае больш сотні год. За сто год на шахце амаль нічога не змянялася, а за гады, калі да ўлады прыйшоў народ, шахта зрабілася непазнавальнай. Зусім іначкшым стала і жыццё шахцёраў. Тут працуе больш 500 членаў СПМ, ёсць прафесіянальная школа, у якой навучаюцца маладыя рабочыя. Сярод моладзі нямала наватараў, перадавікоў. У Румыніі добра вядомы малады прахадчык Стэфан Міхай, які за змену робіць два з палавінай метры прахадкі. Ён працуе так, як і Герой Сацыялістычнай Працы Юліум. Для шахцёрскай моладзі арганізуюцца канферэнцыі чытачоў, маладзёжныя чацвяргі, сустрэчы са знатнымі людзьмі.

Другі з'езд Румынскай рабочай партыі паставіў перад Саюзам моладзі задачу — актыўна ўдзельнічаць на будоўлях сацыялізма, выхоўваць моладзь у працы. У сувязі з гэтым ЦК СПМ арганізаваў шэфства маладзёжных арганізацый над некаторымі будоўлямі. «Кожнай вобласці — маладзёжную будоўлю», — такое рашэнне ЦК СПМ. У сучасны момант моладзь краіны актыўна ўдзельнічае ў будаўніцтве ГЭС імя Леніна, у завяршэнні будаўніцтва дома «Скінтэі» ў Бухарэсце, у будаўніцтве кіностудыі «Буфцял» і ў многіх іншых будоўлях.

Мы з цікавасцю чакалі паездкі на адну з вядомых будоўляў Румыніі — на будаўніцтва гідраэлектрастанцыі імя Леніна. Магутны дызель паімчаў нас па рэйках чыгункі ў горы. Цёплая сустрэча на вакзале, і вось — перад намі цудоўная панарама. Тут, на быстраходнай рацэ Быстрыцы, у гарах, будуецца электрастанцыя, якая будзе буйнейшай на поўднёвым усходзе Еўропы і, вядома, самай буйной у Румыніі. Удзел у гэтай будоўлі лічыцца самай ганаровай справай для ўсёй румынскай моладзі. У шматлікім баявым калектыве будаўнікоў больш 70 працэнтаў моладзі.

Беказская гідраэлектрастанцыя імя Леніна павінна быць здана ў эксплуатацыю да 1960 года. У той час, калі мы наведалі будоўлю, заканчвалася абліцоўка тунэля даўжынёй каля 5 кілометраў і пачаліся падрыхтоўчыя работы па збудаванню плаціны. Маладзёжныя брыгады прахадчыкаў праклалі тунэль на 170 дзён раней тэрміну. На будоўлі рэгулярна праводзяцца чацвяргі маладога будаўніка, канферэнцыі чытачоў, спартыўныя спаборніцтвы, арганізуюцца выступленні калектываў мастацкай самадзейнасці.

Нам асабліва спадабалася арганізацыя спаборніцтва добраахвотнікаў на будоўлі. Іх тут называюць брыгадзірамі. Спачатку мы блыталіся: дзе-ж рабочыя, калі ўсе брыгадзіры, але затым разабраліся — дапамог перакладчык. На будоўлі працуе звыш 500 добраахвотнікаў—тых, хто прыехаў працаваць па пуцёўках ЦК СПМ. Усе добраахвотнікі-брыгадзіры разбіты на атрады. На чале кожнага атрада стаіць выбраны камандзір. Кожны атрад мае свой сцяг, з якім выходзіць на працу. Атрады ўзначальвае штаб, які працуе пад кіраўніцтвам камітэта СПМ будоўлі. Добраахвотнікі маюць сваю форму і значок. Кожны тыдзень, як правіла, у нядзелю падводзяцца вынікі спаборніцтва атрадаў. У гэты дзень ва ўрачыстай абстаноўцы атрады выстрайваюцца на лінейку. На чале іх стаяць сцяганосцы. Камандзіры атрадаў здаюць рапарт начальніку штаба, потым адкрываецца мітынг. Сакратар камітэта СПМ коратка гаворыць аб выніках спаборніцтва за тыдзень, пасля зачытваецца рашэнне камітэта і штаба добраахвотнікаў. Тут-жа ўручаецца пераходны чырвоны сцяг атраду, які заваяваў першынство ў спаборніцтве за тыдзень, а таксама пераходны чырвоны вымпел—лепшаму маладзёжнаму інтэрнату. Тут-жа рашэннем камітэта і штаба аб'яўляецца падзяка лепшым добраахвотнікам, уручаюцца каштоўныя падарункі лепшым будаўнікам; зачытваюцца тэксты пісем бацькам тых таварышаў, якія вызначыліся на будоўлі, а таксама пісьмы бацькам тых, хто працуе нядобрасумленна. Прынятае пісем галасуецца ўсімі атрадамі. Цікава, што пры ўручэнні сцяга, вымпела і каштоўных падарункаў некалькі чалавек падхопліваюць пераможцу і гушкаюць, а ўсе астатнія ў гэты час гучна скандыруюць: «Слава, слава, слава!»

На наступны дзень атрад, які заваяваў пераходны сцяг, ідзе з ім на працу. Такім чынам, увесь наступны тыдзень атрад-пераможца выносіць на будоўлю кожны дзень два чырвоныя сцягі — сцяг атрада і сцяг, заваяваны ў спаборніцтве. Калі глянеш на панараму будоўлі, адразу беспамылкова вызначыш па гэтых двух сцягах месца, дзе працуюць пераможцы.

Румынскія таварышы з вялікай увагай аднесліся да вопыту работы камсамольскіх арганізацый. Яны падрабязна распытвалі, як у нас пастаўлена прапаганда і ўкараненне ў вытворчасць перадавых метадаў працы, як камсамольскія арганізацыі ўдзельнічаюць у барацьбе за ўкараненне новай тэхнікі і тэхналогіі, у барацьбе за парадак і культуру на вытворчасці. Вялікую цікавасць у іх выклікалі плакаты, лістоўкі і брашуры, што выдаюцца камсамольскімі арганізацыямі ў нашай краіне.

Усе мы шчыра радаваліся таму, што румынская моладзь выхоўвае ў сабе правільныя адносіны да грамадскай працы. Многае ў гэтых адносінах робяць прафесійныя школы, накшталт нашых рамесных вучылішч. Яны добра абсталяваны і маюць усе магчымасці для навучання і выхавання маладога папаўнення рабочага класа.

Румынская моладзь актыўна ўдзельнічае ў сацыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі. Арганізацыі СПМ узначальваюць рух моладзі па аказанню дапамогі ў правядзенні сельскагаспадарчых работ старым, батракам, беднякам, а таксама сем'ям загінуўшых воінаў. У сучасны момант працуе 1.400 такіх маладзёжных брыгад. Добры прыклад моладзі прыхільна сустрэты ўсімі сельскімі працаўнікамі. Моладзь вёскі актыўна ўдзельнічае ў такіх работах, як выраб торфаперагнойных гаршчочкаў, у насаджэнні садоў і лесу. Усё шырэй разгортваецца спаборніцтва сярод механізатараў за атрыманне звання лепшага трактарыста, лепшай маладзёжнай трактарнай брыгады. У гэтым спаборніцтве ўдзельнічае 9.000 маладых трактарыстаў і 1.300 маладзёжных трактарных брыгад.

У мінулым годзе ў Румыніі быў вырашчаны небывалы ўраджай вінаграду. Натуральна, узніклі цяжкасці з яго ўборкай. І ў гэтай справе на дапамогу прыйшла моладзь. Цэнтральны Камітэт СПМ заклікаў моладзь гарадоў — дапамагчы сельскім працаўнікам хутчэй убраць ураджай. Быў уведзены пераходны чырвоны сцяг ЦК для пераможцаў у спаборніцтве. Яго заваявала моладзь вобласці Бырлад.

Нам давялося наведаць калектыўную гаспадарку імя Філімона Сырбу, якая была створана ў вёсцы Ваду Сепот Плаешцінскай вобласці ў 1950 годзе. Спачатку ў калгас уступіла 57 бядняцкіх гаспадарак. Члены арцелі мелі 13 гектараў вінаграднікаў, адну карову, сем коней, шэсць авечак. Старшыня арцелі Аляксандр Маня расказаў нам, што першымі падалі заявы члены Саюза працоўнай моладзі. Цяпер у калектыўнай гаспадарцы 152 сям'і. 16 сямей уступілі пасля Другога з'езда РРП, а зусім нядаўна арцель папаўнялася яшчэ на некалькі сямей. Зараз у гаспадарцы 63 гектары вінаграднікаў, 240 авечак, 25 коней, 12 свінаматак, 100 сямей пчол, 2 аўтамашыны; яна мае мільённы прыбытак.

Як і ўсюды, у гэтай арцелі старанная, працавітая моладзь. З ліку членаў СПМ створана некалькі маладзёжных звенняў. Іон Унгурану летась выпрацаваў 320 працадзён, на якія атрымаў 960 кілаграмаў пшаніцы, адну тону куку-

рузы, 450 літраў віна і 6.800 лей грашыма. Ад імя нашай дэлегацыі я ўручыў Іону і некаторым іншым таварышам значок ЦК ВЛКСМ «За асваенне цалінных зямель», як сімвал нашай павагі да іх доблеснай працы. Колькі радасці было ў вачах гэтых хлопцаў, калі мы ўручалі ім значкі!

Наша дэлегацыя агледзела вінаграднікі, калектыўную гаспадарку. Калгаснікі запрасілі нас на абед, падзяліліся з намі сваімі думкамі і пачуццямі. Мы ад усяго сэрца пажадалі гэтым людзям, якія ў ліку першых у Румыніі высока ўзнялі сцяг калектыўнай перабудовы вёскі, вялікіх поспехаў у іх пачэснай працы.

Члены дэлегацыі наведалі таксама калектыўныя гаспадаркі вёскі Батош Венгерскай аўтаномнай вобласці, імя 8-га сакавіка ў вобласці Цімішаара. Усюды тут кіпіць вольная стваральная праца, умацоўваецца і расце грамадская гаспадарка і на гэтай аснове павышаецца матэрыяльны добрабыт сялян. Зараз усё больш румынскіх сялян становяцца на шлях калектывізацыі—на новы і светлы шлях шчаслівага жыцця.

Нам прапанавалі пазнаёміцца з дзяржгасам імя Тудора Уладзімірэску. Гэты дзяржгас размешчан у маляўнічым і прыгожым месцы. Навокал, колькі хапае вока, прасціраюцца вінграднікі. Імі занята 1.700 гектараў, 1.200 гектараў — пад садамі і лявадамі. У дзяржгасе вырошчваецца 31 гатунак вінаграду. Тут працуе 130 членаў Саюза моладзі, створаны маладзёжныя брыгады і звенні, якія штогод перавыконваюць план атрымання вінаграду. У дзяржгасе ёсць прафесійныя трохгадовыя курсы па падрыхтоўцы ўласных кадраў.

Мы таксама знаёміліся з работай моладзі ў машынна-трактарных станцыях. З цікавасцю мы наведалі МТС у Біледзе. Яна створана ў кастрычніку 1947 года і цяпер мае 99 трактараў, галоўным чынам румынскай вытворчасці. Ёсць таксама і савецкія машыны — 12 камбайнаў «С-4», тры бурачныя сеялкі, дзве бульбасаджалкі «СКГ-4», тры машыны для раскідвання гною. Гэтая МТС абслугоўвае 11 калектыўных гаспадарак і тры таварыствы па сумеснай апрацоўцы зямлі.

У час нашага знаходжання ў Румыніі актывісты, работнікі СПМ і моладзь праяўлялі жывую цікавасць да вопыту работы камсамола ў перыяд калектывізацыі сельскай гаспадаркі, да работы камсамольскіх арганізацый нашых калгасаў, МТС і саўгасаў. Мы расказвалі румынскім сябрам аб гадах калектывізацыі, поўных энтузіязма і рэвалюцыйнай рамантыкі, аб той вялікай рабоце, якую праводзіць моладзь пад кіраўніцтвам партыі па ўздыму сельскай гаспадаркі ў пасляваенныя гады, пра нашых лепшых перадавікоў і наватараў сельскай гаспадаркі і г. д. З вялікім задавальненнем румынскія сябры даведаліся пра маладых перадавікоў нашай рэспублікі — Тамару Новік, Любу Бельскую, Люцыю Шымуль і многіх іншых. Вялікая цікавасць праяўлялася да дзейнасці камсамола па арганізацыі палітычнай, культурна-масавай работы сярод сельскай моладзі.

Нямала цікавага па арганізацыі выхаваўчай работы ёсць у румынскім Саюзе моладзі. Зараз у Румыніі праводзіцца конкурс «Любіце кнігу», арганізаваны Цэнтральным Камітэтам СПМ і Міністэрствам культуры. У ім удзельнічае 250 тысяч чалавек. Згодна ўмоў конкурса, яго ўдзельнікі павінны прачытаць 8 кніг у абавязковым парадку. Сярод іх кнігі—В. І. Леніна «Аб задачах Саюзаў моладзі», Н. Астроўскага «Як гартавалася сталь», Б. Палявога «Аповесць аб сапраўдным чалавеку», а таксама творы румынскіх класікаў і пяць кніг па выбару. Удзельнікі, якія выканалі ўмовы конкурса, узнагароджваюцца спецыяльным значком. Неабходна адзначыць, што конкурс добра прапагандуецца. Як у самім Бухарэсце, такі і ў тых гарадах, дзе мы былі, вывешаны велізарныя плакаты з малюнкам значка конкурса і з напамінкам аб неабходнасці прыняць у ім удзел. Аб конкурсе пішуць у газетах, гавораць па радыё.

З вялікай цікавасцю румынскія сябры слухалі нашы расказы аб мерапрыемствах камсамола па арганізацыі здаровага быту моладзі, аб цікавых вечарах, гуляннях і сустрэчах, аб сатырычных газетах «БОКС», «Кракадзіл» і г. д.

У Румыніі вялікай папулярнасцю карыстаюцца калектывы мастацкай самадзейнасці. Перш за ўсё трэба адзначыць высокі ўзровень іх выканання. Мы захапляліся выступленнямі румынскіх віртуозаў-скрыпачоў, выдатных спевакоў, танцораў і іншых выканаўцаў.

Зараз у Румыніі 42 ВНУ, у якіх навучаецца звыш 70 тысяч студэнтаў. Праслойка членаў СПМ сярод студэнтаў складае, прыкладна, 60—70 працэнтаў. Многія арганізацыі СПМ вышэйшых навучальных устаноў шырока практыкуюць такія мерапрыемствы, як сустрэчы з выдатнікамі, студэнцкія кастры. Шырокае распаўсюджанне ў іх атрымалі дошкі выдатнікаў, выстаўкі лепшых канспектаў. У ВНУ працуе 500 навуковых гурткоў, праводзяцца навуковыя студэнцкія канферэнцыі, выдаюцца зборнікі лепшых студэнцкіх работ. Студэнты ўдзельнічаюць у народных будоўлях, дапамагаюць інстытутам у стварэнні і абсталяванні лабараторый, вучэбных кабінетаў. У радзе ВНУ створэны і працуюць літаратурныя аб'яднанні.

У сучасны момант у краіне налічваецца 15.709 пачатковых, сямігадовых і сярэдніх школ. Гэта намнога больш, чым у даваеннай Румыніі. Створана шырокая сетка палацаў і дамоў піянераў. У многіх школах добра прапагандуецца вопыт лепшых вучняў, ёсць прыгожа аформленыя дошкі-вітрыны выдатнікаў вучобы, арганізуюцца выстаўкі лепшых вучнёўскіх работ. Многія школы арганізуюць фотастэнды сваіх выпускнікоў, дзе ўказваецца дата іх сустрэчы ў роднай школе — звычайна праз 5—10 год пасля яе заканчэння. Пры многіх гарадскіх школах для дзяцей з вёсак створаны інтэрнаты. Усюды, дзе мы знаходзіліся, адчувалася велізарная цікавасць настаўнікаў і вучняў да жыцця савецкай школы. Мы былі жывымі сведкамі гарачага жадання маладых румынскіх сяброў авалодаць рускай мовай.

Вялікай любоўю ў румынскіх дзяцей карыстаюцца пазашкольныя ўстановы. Бухарэсцкі Палац піянераў, напрыклад, кожны тыдзень наведвае 8 тысяч гурткоўцаў. У такіх гарадах, як Плаешці, Арад і іншых, у дамах піянераў на тыдні бывае па 2—2,5 тысячы дзяцей. Мы звярнулі ўвагу таксама на тое, што ў палацах і дамах піянераў нядрэнна пастаўлена мастацкае выхаванне дзяцей. Народная ўлада стварыла ўсе ўмовы для арганізацыі адпачынку і выхавання падрастаючага пакалення ў пазашкольных установах.

Цяпер, калі ўспамінаеш аб днях, што праведзены ў гэтай цікавай краіне, аб сустрэчах і гутарках, поўных узаемнай цікавасці і сардэчнасці, перад вачыма паўстае Народная Румынія — краіна новых заводаў і фабрык, гарадоў і будоўляў, калектыўных гаспадарак і дзяржгасаў, краіна радаснага сёння і яшчэ больш цудоўнага заўтра. З пачуццём шчырай дружбы і павагі ўспамінаеш яе людзей, слаўную румынскую моладзь, якая поўная энтузіязма і веры ў тыя велічныя справы, для ажыццяўлення якіх яна аддае ўсе свае сілы і запал.

Па просьбе румынскіх сяброў перадаю іх шчырае і гарачае прывітанне беларускім камсамольцам і камсамолкам, моладзі нашай Савецкай Беларусі.

---

# Дружба не ведае граніц

На здымку: **Анатоль Ніканораў атрымаў пісьмо ад жыхара Парыжа Жана Клода Дэсёра.** Злева — **вучань Георгій Ціханаў**, справа — **піонерважатая Іна Розенталь.**

Фото В. Кунава. (Фотахроніка ТАСС).





**На гэтым здымку, прысланым у школу № 2 вучнямі ліцэя імя Пастэра, паказаны заняткі французскіх школьнікаў па рускай мове.**

(Фотахроніка ТАСС).

**Нам хочацца расказаць пра нашу школу. Яна адрозніваецца ад іншых тым, што ў ёй больш шырока вывучаецца замежная мова — французская. Займаемся мы французскай мовай пачынаючы з першага класа кожны дзень. З VIII класа шэраг прадметаў — анатомія, гісторыя, геаграфія і французская літаратура — выкладаюцца толькі на французскай мове. На ўроках па гэтых прадметах мы часта робім даклады.**

**Цяпер мы раскажам пра дружбу нашай школы з французскімі дзецьмі.**

**Яшчэ ў 1948 годзе завязалася перапіска савецкіх школьнікаў з дзіцячай калоніяй «Таржок» у Францыі. Гэтая калонія заснавана настаўнікамі-комуністамі для дзяцей, бацькі якіх загінулі ў час вайны 1936—1939 гг. у Іспаніі.**

**Цікавае паходжанне назвы калоніі. Усім вядома, што Таржок — гэта невялікі горад у Калінінскай вобласці. Якім-жа чынам трапіла яго назва на схілы французскіх Альп? Справа ў тым, што бацька аднаго з членаў дзіцячай калоніі быў у Савецкім Саюзе і расказаў рабятам аб адным цудоўным піонерскім лагеры, які ён наведаў. Але ён ніяк не мог успомніць назву лагера і сказаў толькі, што яна канчаецца ці на «ок», ці на «ек». Дзеці кінуліся да карты і знайшлі горад Таржок, імем якога і была названа калонія. Потым, праўда, высветлілася, што савецкі лагер меў назву «Артэк», але калонія была ўжо шырока вядома як у Францыі, так і за мяжой пад назвай «Таржок» і змяняць назву яе не сталі. Цяпер гэтая цудоўная калонія налічвае каля сотні чалавек. Дзеці ў «Таржку» ўсё робяць самі: самі будуюць, шыюць, прыбіраюць.**

**Нядаўна з калоніі атрымана пісьмо. Мы з радасцю адправілі пісьмы ў адказ. Разам з пісьмамі мы паслалі падарункі, магнітафонны запіс выступленняў самадзейнасці і «гаворачыя» пісьмы.**

**Мы перапісваемся таксама з ліцэем імя Пастэра ў Парыжы. Ліцэй гэты — закрытая навучальная ўстанова. Вялікае значэнне ў ім надаецца вывучэнню гуманітарных навук, асабліва моваў. Там працуе гурток рускай мовы. Вучні ліцэя прыслалі нам у падарунак шмат карт і даведнікаў па Францыі і Парыжу, цікавыя дапаможнікі па гісторыі Францыі, французскай мове і літаратуры і самаробны альбом аб ліцэі. Гэтыя падарункі дапамагаюць нам пры вывучэнні літаратуры, геаграфіі і гісторыі Францыі. У сваю чаргу, мы таксама паслалі ў ліцэй паштоўкі з відамі Масквы і Ленінграда, рэпрадукцыі карцін Трэцякоўскай галерэі, Эрмітажа, падручнікі рускай мовы, мастацкую літаратуру.**

**Некаторыя нашы вучні самі перапісваюцца са школьнікамі Францыі і іншых краін.**

**Мы часта бываем на сустрэчах з французскімі дэлегацыямі. Так, у красавіку ў клубе завода «Станкаліт» адбыўся інтэрнацыянальны вечар, прысвечаны падрыхтоўцы да Сусветнага фестываля моладзі. На вечар былі запрошаны госці з Францыі: прэзідэнт таварыства Францыя — СССР пан Пеці, віцэпрэзідэнт пан П'ерар і іншыя. Там быў дадзены канцэрт на французскай мове, у якім удзельнічалі і нашы вучні.**

**Валя СВЯЧАРНІК, Саша ІГНАТАЎ, Юра МАЛАЖАТАЎ, вучні Маскоўскай сярэдняй школы № 2.**

# ЖЫЦЦЁ КРОЧЫЦЬ

**Алесь АСІПЕНКА**

За шмат гадоў работы такое заданне было першым. Тэма, канешне, не новая — работа райкома камсамола і яго першага сакратара. Цяжкасць і надзвычайнасць тут заключалася ў тым, што намечаны раён даўно набыў у рэспубліцы славу цяжкага, калі не сказаць прасцей — адстаючага.

Што робяць там камсамольскія работнікі і камсамольскі актыў? I ці ёсць там актыў наогул? Можа, згас камсамольскі агеньчык? Ці, можа, распальваюць яго няўмелыя людзі? Тады пра што пісаць? I ці варта ехаць туды наогул?

У рэдакцыі лічылі, што варта. Нават неабходна. Мы прывыклі сачыць за жыццём, якое крочыць сямімільнымі крокамі. А чаму не расказаць пра тых, хто не крочыць, а ледзь прыкметна рухаецца? Чаму не падагнаць іх хлёсткім, але праўдзівым словам. Трэба пабыць на месцы. Журналіст павінен быць усюды: і там, дзе жыццё вірліць, як вясновыя рэкі, і там, дзе яно стаіць, быццам вада ў сажалцы. Трэба ехаць. I вось куплены білеты, застаўся ў баку зіхатлівы Мінск, а на душы ўсё яшчэ неспакойна. Мы яшчэ вельмі мала зрабілі для таго, каб уславіць гераізм нашых людзей, а тут, напэўна, сустрэнуцца больш чым будзённыя справы.

Можа, прыйдзецца каго-небудзь добра пакрытыкаваць за тое, што на фермах дасюль не створаны камсамольскія групы, а ў асобных камсамольскіх арганізацыях не вядуцца пратаколы сходаў. Можа, давядзецца каго-небудзь дакараць, што слаба пастаўлена фізкультурная работа, а нагляднай агітацыі не надаецца належнай увагі. Ці мала пра гэта пісалася, і што тут скажаш новага?

А поезд імчаў і імчаў, развяваючы сумненні. Амаль неўпрыкметку праляцела ноч. Веснавое сонца іскрыцца ў чысцюткіх водах Нёмана. За Нёманам на ўзгорку—аўтобусная станцыя. Цяпер тут не дужа людна. У калгасах гарачы час—веснавая сяўба. Толькі крайняя неабходнасць прымушае чалавека адарвацца ад работ.

На лавачцы дзве жанчыны: адна яшчэ зусім маладая, бадай што камсамольскага ўзросту, другая з выгляду намнога старэйшая. На маладзейшай цёмнасіняя спадніца, вязаны шарсцяны жакет, на нагах — модныя чаравікі. Каштанавыя валасы нядаўна падвіты. Па вопратцы і гаворцы яе можна палічыць за настаўніцу або ўрача. Толькі рукі, загарэлыя, мазолістыя, дужыя, красамоўна сведчаць, што гэта калгасніца, хутчэй за ўсё — звеннявая. Старэйшая апранута бядней—выгаралая і вылінялая сукенка, нейкі старамодныя, з чужога пляча пінжачок, на нагах стаптаныя туфлі. Жанчычы ажыўлена гавораць на той мове, якая так характэрна для поўночна-заходняй часткі Беларусі. Сярод самабытных беларускіх слоў чуюцца то польскія, то рускія, а то і літоўскія. Ледзь стрымліваю сябе, каб не выцягнуць блакнот і не заканспектаваць размову. Надта ўжо цікава гавораць жанчыны.

— Яно вядома так, горай не будзе. I ўсё-ж шкада. Некалі аж за акіян ехалі, каб гэты кавалачак зямлі прыдбаць, а цяпер аддай,— гаворыць старэйшая.

— Не адны-ж вы, усе аддаюць. На тое і калгас.

— Другім яна мо' лягчэй прышлася. Цо зробіш, вядома, пшыдзецца ўступіць.

— То і не цягніце, — упэўнена гаворыць маладая.

— Яно вядома так, цягнуць не варта, толькі ў калгасе і ў святы працуюць. Калі-ж да касцёла сходзіць. Охо-хо, грахі, грахі.

Здалося, быццам за гэтую ноч я перанёсся на дваццаць пяць гадоў назад, калі вось так і ва ўсходніх абласцях Беларусі апошнія аднаасобнікі ўсё ніяк не маглі расквітацца са старым, вельмі нязручным, але прывычным укладам. Цяпер нашай моладзі смешна: як гэта можна аднаму калупацца на абмежаваным кавалку зямлі. Але так некалі было. I тут відаць гэты этап яшчэ асобнымі людзьмі не пройдзены. I з гэтым трэба лічыцца. Няхай іх параўнаўча вельмі нямнога, гэтых аднаасобнікаў, але-ж яны ўсё-ж такі ёсць, пра што красамоўна сведчыць вось гэтая жанчына ў палінялай сукенцы.

У аўтобусе нам давялося сядзець поруч з маладзейшай. Гэта, відаць, была жанчына з тых, якія пяці хвілін не праседзяць моўчкі. Як толькі аўтобус выехаў на Сапоцкінскае шасэ, суседка запыталася, паказваючы на мой «Зоркі».

— Умееце фатаграфаваць ці толькі так для форсу павесілі?

— Вучуся.

—А вы да нас, у Сапоцкіна?

Я разумеў, што жанчына ўсё роўна распытае і хто я, і чаму еду, таму я адразу-ж сказаў усё, што на маю думку магло цікавіць яе.

— Да нас рэдка ездзяць. Што вы, раён адстаючы, цяжкі. Ён падобны на старажытны музей. Тут яшчэ і аднаасобнікаў убачыш,— яна паказала вачыма на жанчыну ў сукенцы, — вось бачыце, яна з тых апошніх, што старога шляху трымаюцца. I касцёлаў у раёне напэўна больш, чым ва ўсёй вобласці разам.

— А вы не ходзіце часам у іх?

— Раней хадзіла. Потым убачыла, што манюкі яны, ксяндзы гэтыя. Кажуць, што вялікі грэх, калі чалавек не любіць свайго бліжняга. А ў нас быў такі выпадак: самы што ні на ёсць веруючы бацька выгнаў свайго сына з хаты ў люты мароз, і ксяндзы ні слова, наадварот, яны яшчэ бацьку спачувалі, што сын з дарогі збіўся. Ён, бачыце, у камсамол паступіў. А што-ж у тым дрэннага? Камсамольцы вечарынкі робяць—культурныя, ціхія. А вось на рэлігійныя святы заўсёды бойкі бываюць, нават забойствы здараюцца. Дык скажыце, чаго-ж тады ксяндзы супраць добрага выступаюць?

Гэта ўжо была тэма. Прыгадаліся колішнія дні дзяцінства, калі і ў нас ішла вось такая барацьба старога з новым. Новае перамагло. Значыць, ёсць і ў Сапоцкінскім раёне камсамольцы. Значыць, і там крочыць жыццё, а не стаіць на месцы.

Дзе-ж ён цяпер, гэты Сцяпан Барута нашых дзён? Як склаўся яго лёс? I я пытаюся ў жанчыны:

— А дзе-ж ён цяпер, гэты хлопец?

— Цяпер ён на цалінных землях.

Я не пытаўся ў жанчыны, як прозвішча хлопца, з якой ён вёскі. Думаў, у райкоме адразу-ж па прыкметах назавуць яго. Сакратар райкома камсамола Адам Магільніцкі на маё пытанне, якога гэта камсамольца выгнаў бацька з дому, запытаўся:

— А каго вы маеце на ўвазе: Віктара Алешчука, Станіслава Врублеўскага ці, можа, Ірыну Лісоўскую, ці, можа...

Не, тут, у Сапоцкіне, жыццё не стаіць на месцы. Яно крочыць вельмі шпарка, і дарэмна нам здавалася, што ў раёне камсамольцы вядуць малапрыкметную работу.

У тую нядзелю ў раённым цэнтры меўся адбыцца першы піянерскі раённы злёт. Справа гэтая для другіх раёнаў звычайная, але для Сапоцкіна гэта была падзея найвялікшай важнасці. I не толькі для работнікаў райкома камсамола, але для ўсіх настаўнікаў, вучняў, іх бацькоў.

З самай раніцы абедзве перакрыжныя вуліцы абудзіліся песнямі, барабаннай дроб'ю і заліхвацкімі гукамі горна. Крыху пазней да сярэдняй школы пачалі прыязджаць аўтамашыны з піянерамі. Вось хлопчыкі і дзяўчынкі з самаробнымі чучаламі птушак, вось пухлатварая, бялявая піянерка, апранутая і загрыміраваная пад сноп пшаніцы, цэлая група школьнікаў са значкамі «Юны натураліст». Палымнеюць на сонцы сцягі, гараць піянерскія гальштукі.

Завіхаюцца камсамольскія работнікі і піянерважатыя. I вось ужо раўнюткі строй хлапчукоў і дзяўчынак крочыць да месца збору паўз вішнёвыя прысады. Побач бягуць дзеці, мурзатыя, басаногія. Некаторыя прыладжваюцца да строю або ідуць па тратуары, імкнучыся трапіць у нагу з піянерамі.

— Станавіся ў строй,— кажу я жвавам малому, які час-ад-часу смешна шморгае носам.

— Э-э-э,— кажа ён са старэчай разважлівасцю, — хітры, хочаш, каб маці дубцом адсцёбала. Яна забараняе нават знацца з піянерамі.



А. Магільніцкі ўручае комсамольскі білет Соф'і Радзевіч.

Піонеры накіроўваюцца на злёт.



— А табе хочацца прайсці вось так у страі, з барабанам?

— Вырасту, пайду,— упэўнена кажа малы і зноў шморгае носам.

Мне хочацца паглядзець на такую маці, якая з-за рэлігійных забабонаў пазбаўляе сваё дзіця радасці, весялосці. Можа, яна дзенебудзь сярод вось гэтых сустрэчных жанчын, якія, нацягнуўшы на лоб хусткі, спяшаюцца ў касцёл? Каторая-ж з іх да крыві збівае дзіця, а потым просіць для сябе ў бога «літасці»? І я раптам бачу такую маці.

Жанчына з ліку тых, што ідуць у касцёл, раптам кідаецца да піонерскага строю, хапае за руку блакітнавокую дзяўчынку і цягне яе на тратуар. У дзяўчынкі сыплюцца, як гарох, буйныя слёзы крыўды. А маці крычыць:

— А-а-а, у касцёл не хочаш, а тут блытаешся!

У натоўпе, які сабраўся на тратуары, самыя розныя адносіны. Адны абураюцца, крычаць жанчыне:

— Табе ніхто не перашкаджае маліцца, а ты чаму перашкаджаеш?

Затое багамольцы шыпяць:

— Грахі, пойдзе дзіця супраць бацькоў...

А дзіця плача і ніяк не можа вырвацца з учэпістых рук маці. Раптам жанчыну за плячо бярэ мужчына, немалады, у саматканым старамодным пінжаку.

— Чаго ты прычапілася да дзяўчынкі? У іх свая дарога, і не перашкаджай.

Жанчына адпускае дзяўчынку, і тая стрымгалоў бяжыць, каб заняць месца ў страі.

Нехта з натоўпу кажа:

— Бач, якім актывістам стаў, а ці даўно сам сына выганяў з дому за тое, што ў комсамол уступіў?

— Ого, цяпер сын яго корміць.

Мне хочацца пагаварыць з гэтым чалавекам, але ён ідзе ў другі бок, яўна — да касцёла.

Не ведаю, пра яго ці, можа, яшчэ пра другога, але вось што мне расказалі ў райкоме комсамола.

...Гэта было больш чым два гады назад. Адам Магільніцкі тады толькі пачынаў сваю работу ў Сапоцкінскім раёне. Як ураджэнцу Лідскага раёна, яму добра былі вядомы мясцовыя ўмовы. Аднак першы прыезд у вёску Доргунь рашуча змяніў настрой сакратара: Магільніцкі зразумеў — тут з наскоку нічога не зробіш, спатрэбіцца карпатлівая, настойлівая работа.

У памяшканне школы, дзе меўся адбыцца сход моладзі, набілася людзей поўна. Зацята танцавалі пад адзіны на акругу гармонік. Потым, калі сакратар пачаў чытаць даклад, у зале ўсталявалася мёртвая цішыня. Здавалася, усе слухаюць уважліва, але праз колькі хвілін на сакратарскім ілбе выступіў пот, а словы вярталіся да прамоўцы глухім рэхам. Што гэта? І Магільніцкі зразумеў: яго слухаюць толькі з пачцівасці. Гэта было выразнае ігнараванне. Але чаму? Ён-жа гаворыць праўду. Прыпаміналася, як слухалі ўважліва яго ў Лідскім і Свіслацкім раёнах, калі ён ездзіў туды як работнік абкома комсамола. Выходзіць, у адной вобласці розныя ўмовы, і іх трэба ўлічваць.

Магільніцкі бездапаможна аглядваў кожнага, але, апрача жаласлівай спагады ды бяздумнасці, ён не мог нічога прачытаць у вачах прысутных. Нечакана яго позірк напаткаў другі — жывы і цікаўны. На сакратара глядзелі праніклівыя, дапытлівыя вочы хлапчука гадоў пятнаццаці. Выходзіць, ён, Адам Магільніцкі, гаворыць не дарэмна. Пасля сходу ён запытаўся ў Ніны Цугаевай, сакратара комсамольскай арганізацыі:

— Хто вунь той невысокі хлопчык?

— Гэта Віктар Аляшчук, сын вельмі набожнага селяніна.

— Вы з ім гаварылі пра комсамол?

— Залішняя праца.

У цемрадзі сенцаў Магільніцкі пачуў, калі выходзіў на вуліцу: «Ладна гаворыць. Малады, а разумны». У адказ хрыплы голас: «Затыкай, сусед, вушы ад нечасцівых прамоў, бо яны сеюць бязбожжа і грахі цяжкія». Сакратар райкома падумаў: «Сёння затыкаеце вушы, заўтра — будзеце слухаць. Трэба часцей з вамі гаварыць ды праводзіць індывідуальныя гутаркі».

Цяпер ледзь не кожны дзень прыязджаў сюды Адам Магільніцкі. Заходзіў у хаты, гутарыў, спрачаўся, даказваў. І дзіўна: сам-насам з ім згаджаліся многія, былі смелыя і разважлівыя, а на людзях трымаліся з баязлівасцю і паказным недавер'ем. Мела ўплыў, вядома, вайна і пасляваеннае неўладкаванне, калі па навакольных лясах туляліся банды. Цяпер ціха, але, відаць, яшчэ захаваўся страх, які падтрымлівалі нейкія сілы. А можа, і няма тых сіл. Са старэйшага пакалення ў вёсцы амаль няма чалавека з закончанай пачатковай адукацыяй. Старой Польшчы было выгадна невуцтва і цемра.



Яшчэ адзін юнак уступіў у комсамол. Загадчык учоту Геня Завіноўская выпісала комсамольскі білет. Зараз Адам Магільніцкі падпіша яго і ўручыць новаму члену ВЛКСМ.

Фото аўтара.

Неяк Ніне Цугаевай сказаў Віктар Аляшчук:

— Вось каб уступіць у комсамол і каб бацькі не ведалі пра гэта. Я з дарагой-бы душой.

— Комсамолец не павінен баяцца,— адказала Ніна.

Дні чатыры Віктар думаў над словамі комсамольскага сакратара. Потым прыйшоў, запоўніў анкету.

І ўсё-ж ён схаваў ад бацькоў, што стаў комсамольцам. Думаў, уладзіцца, перацерпіцца. Але бацькі даведаліся і ў люты мароз выгналі сына з дому, нават не далі яму апрануць паліто.

Райком комсамола дапамог Віктару набыць спецыяльнасць камбайнера. Віктар паехаў на цаліну. Адтуль на другі год прыехаў у адпачынак. У новым гарнітуры, здаровы, прыгожы. Чутка аб гэтым разнеслася па ўсім раёне. На вачах ва ўсіх абвяргалася плётка, пушчаная нядобразычлівымі людзьмі, быццам Віктар пакараны богам за яго грахі. А калі сам бацька, чалавек рэлігійны, папрасіў сына дараваць яму памылку, усе аднавяскоўцы былі вельмі ўзрушаны.

Выпадак з Віктарам прарваў тую плаціну безуважлівасці, якую спрабавалі ўстанавіць між моладдзю і комсамолам людзі, якім выгадна трымаць юнакоў і дзяўчат у баку ад жыцця.

Вядома, і па сённяшні дзень яшчэ ёсць рэлігійныя людзі, якія не дазваляюць дзецям уступаць у комсамол, але яны не могуць спыніць жыцця, імкнення моладзі да новага.

І тут вялікая заслуга райкома комсамола і яго сакратара Адама Магільніцкага. Тут, у Сапоцкіне, кожнае мерапрыемства — піонерскі збор, велапрабег, выезд агітбрыгады, простая гутарка — не звычайнае мерапрыемства, а падзея вялікай важнасці.

У клубе ў той дзень піонерскага злёту са сцэны дэкламавала верш «Комсамольскі білет» А. Куляшова Ірына Лісоўская. Пранікнёна гучалі яе словы пра юнака, які палічыў за лепшае загінуць ад рук фашысцкіх пачвар, чым зганьбіць імя комсамольца. Мне здавалася, што і гэтая дзяўчынка паступіць гэтак-жа, як і той юнак, калі жыццё паставіць перад ёю задачу выбіраць найпрыгажэйшы шлях. І я не памыліўся. Зусім нядаўна Іру выганялі з дому за тое, што яна стала піонеркай, а потым уступіла ў комсамол. Але цяпер не тыя гады. Моладзь не хоча заставацца ў цемры, у баку ад жыцця. Яна бачыць, што яе лёс неаддзялімы ад лёсу ўсёй совецкай моладзі, ад лёсу комсамола.

---

# ПЕРШЫЯ Ў РЭСПУБЛІЦЫ

**Над Нёманам, непадалёк ад раённага цэнтра Любча, размясціласе некалькі вёсак: Купіск, Вялікі Купіск, Сенна і іншыя. Гэта — калгас «Вялікі Кастрычнік», перадавы на Гродзеншчыне. Моладзь калгаса некалькі год назад арганізавала калектыў добраахвотнага спартыўнага таварыства «Калгаснік». Цяпер у ім налічваецца 320 чалавек. Дзяўчаты і юнакі, якія працуюць у паляводчых брыгадах, на жывёлагадоўчых фермах, у калгасным гаражы, з вялікім захапленнем займаюцца спортам. Працуюць секцыі лёгкай і цяжкай атлетыкі, вольнай барацьбы, валейбола, шахматаў і шашак, бокса, веласіпедная, футбольная. Футбольных каманд у калгасе дзве: «Нёман» і «Колас».**

**Многім маладым калгаснікам прысвоены спартыўныя разрады. «Трафеі» калектыву складаюць шматлікія дыпломы, некалькі кубкаў і спецыяльных прызаў. Калектыў займае адно з вядучых месц у рэспубліцы: ён занесены на рэспубліканскую дошку гонару і зацверджаны ўдзельнікам Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі. Удзельнікамі Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі сталі сямёра найбольш актыўных спартсменаў, на чале са старшынёй совета калектыву І. С. Місніковічам.**

**Здымкі, змешчаныя на другой старонцы вокладкі нашага часопіса, паказваюць некалькі эпізодаў з жыцця калгасных спартсменаў. На агнявым рубяжы — актывісты стралковай секцыі Серафім Сідо і Віктар Карбавец. Каманда стралкоў калгаса «Вялікі Кастрычнік» займае ў Любчанскім раёне другое месца.**

**З гонарам трымае завяваныя калектывам прызы Сяргей Аляшкевіч. У калгаснай брыгадзе ён заняты на палявых работах, але адначасова ён — намеснік старшыні совета калектыву ДСТ. Як спартсмен, Сяргей Аляшкевіч — лёгкаатлет-другаразраднік і капітан футбольнай каманды «Нёман».**

**Веласіпедысты складаюць адну з самых шматлікіх секцый. Каманды іх ёсць у кожнай з сямі калгасных брыгад. На здымку — група веласіпедыстаў на чале са старшынёй совета калектыву І. Місніковічам** (крайні злева) **рыхтуе машыны да раённага кроса.**

**Поўнаводны Нёман — месца пастаянных трэніровак плыўцоў. Вось трое з іх падыходзяць да фінішу. Наперадзе — Міхаіл Воўнік і Васіль Талака.**

Тэкст і фото А. Дзітлава.

# ЦАНА ІМГНЕННЯ

Імгненне, адзін міг... Гаворачы так, людзі звычайна маюць на ўвазе нейкі вельмі малы, нават няўлоўны адрэзак часу. Адна дзесятая доля секунды! Гэта ўсяго толькі міг, за які міргне вока. Але што такое дзесятая доля секунды, чалавек, аказваецца, можа адчуць таксама, як ён адчувае працягласць секунды і мінуты.

Добра ведаюць цану імгнення спартсмены. Калі адпаведную дыстанцыю патрэбна пераадолець як мага хутчэй, час нібы ўшчыльняецца, кожная секунда, нават кожная яе дзесятая доля становіцца адчувальнай.

Ліза Ермалаева прыйшла ў спорт тым-жа шляхам, як і многія іншыя спартсмены.

Калі студэнтка Ліза Ермалаева выйшла на першае месца на абласных лыжных спаборніцтвах, апярэдзіўшы нават майстроў спорту, аб ёй загаварылі, як аб новым таленце.

— Прыроджаная лыжніца, — гаварылі пра Лізу сябры.

Знаходзячыся на перадды̆пломнай практыцы ў Маскве, дзяўчына трапіла на стадыён «Дынамо», дзе праходзілі лёгкаатлетычныя спаборніцтвы, і з захапленнем назірала за хуткім і прыгожым бегам спартсменак.

— Вось гэта спорт! Абабяк̆ова і я паспрабую, — вырашыла Ліза.

Дыплом абаронен выдатна. Цяпер можна адпачыць, больш часу ёсць і для заняткаў любімым спортам.

Першае выступленне ў лёгкаатлетычных спаборніцтвах прайшло паспяхова. Заваяваны абласны рэкорд у бегу на 800 метраў. У першынстве рэспублікі на 400 метраў Ліза адстала ад чэмпіёнкі ўсяго на дзве дзесятых секунды! Упершыню тады дзяўчына адчула цану долям секунды, зразумела, што такое імгненне. Прамарудзіла крыху на старце, і ўжо каштоўныя долі секунды страчаны.

Тым-жа летам Л. Ермалаева ўдзельнічала ў складзе каманды Расійскай Федэрацыі ў першынстве краіны па лёгкай атлетыцы. Тут ёй парэкамендавалі паступіць у Беларускі дзяржаўны інстытут фізкультуры.

Прысвяціць сябе спорту? Стаць сапраўдным спартсменам? Так, яна згодна!

На першых-жа занятках у інстытуце трэнер ёй заявіў:

— Бегаць вы пакуль не ўмееце, але навучыцца можаце!..

І дзяўчына пачала ўпарта працаваць, каб набыць неабходныя фізічныя якасці — сілу, вынослівасць. Упартая праца не прапала. На першынстве рэспублікі ў 1953 годзе Ермалаева заняла першае месца, устанавіўшы новы рэкорд. Норма першаразрадніка была значна перавышана.

Улетку 1954 года маладая спартсменка ўдзельнічала ў міжнародных спаборніцтвах у Варшаве, дзе сустракаліся лёгкаатлеты 11 краін Еўропы.

Зноў старт. Ліза моцна хвалюецца. І не дзіўна: яна побач з вядомымі ўсяму свету бегунамі Нінай Аткаленка і Нінай Чарнашчок. Беларуская спартсменка закончыла дыстанцыю з вынікам 2 мінуты і 13 секунд. Трэцяе месца — за ёю.

Ужо скончыўшы інстытут, Ліза ў наступным годзе ўдзельнічае ва Усесаюзнай спартакіядзе таварыства «Дынамо».

— Жаночы рэкорд «Дынамо» ў бегу на васемсот метраў — 2 мінуты і 10,5 секунды, — сказаў трэнер. — Яго можна пабіць!

— Буду старацца, — сціпла адказала Ліза.

Суддзя ўзняў стартавы пісталет. Стрэл — і дванаццаць лёгкаатлетак кінуліся ўперад. Хутка гледачы заўважылі, што ад групы аддзяліліся дзве фігуры. Гэта Ніна Чарнашчок і беларуская спартсменка Ліза Ермалаева. Дзяўчаты бягуць побач, плячо к плячу. Хочацца паскорыць бег, рэзкім штуршком адарвацца ад суперніцы. Але ў памяці ўзнікаюць словы трэнера: «Трэба валодаць сабой на дыстанцыі. Галоўнае — роўнамерны тэмп...»

Да фініша застаецца трыста метраў. Цяпер — як мага хутчэй. Рывок! Дыханне суперніцы чуецца ўжо ззаду. Ліза датыкаецца грудзьмі стужкі і, крыху прабегшы, каб супакоіць дыханне, ідзе да сяброў. Яе цяперашні вынік 2 мінуты і 0,1 секунды. Добры вынік, але спартсменку ён не задавальняе. Да нормы майстра спорту не хапіла адной дзесятай секунды. Вось што азначае адно імгненне!

Трэнер разумее засмучэнне вучаніцы.

— Не хвалюйся, — заспакойвае ён Лізу. — Сапраўдныя трэніроўкі наперадзе. Мы падпарадкуем непакорныя імгненні.

І сапраўды. Уперадзе яшчэ шмат працы, трэніроўкі. Уперадзе спартакіяда народаў краіны, барацьба за званне майстра спорту. Няма сумнення, што Ліза Ермалаева пакажа новыя свае дасягненні.

Д. МІЛЯУСКІ.

# Чалавек з няўрымслівым сэрцам

Камсамолец Мікалай Мацвееў пачаў свой працоўны шлях на Златаустаўскім металургічным заводзе. За кароткі час ён сваёй працай заваяваў славу. Старанны рабочы, дапытлівы рацыяналізатар, Мацвееў ніколі не заспакойваўся на дасягнутым, ён заўсёды шукаў, як удасканаліць той ці іншы працэс. І гэта яму ўдавалася. Нормы выпрацоўкі ён перавыконваў у тры разы.

Але нечакана на яго звалілася бяда — у час работы здарылася аварыя, і хлопец застаўся без ног.

У родным калгасе імя Молатава, на Магілёўшчыне, Мікалай Мацвееў не сеў на пенсію, хоць яна ў яго была такая, што можна было пражыць не працуючы. Ён, чалавек з маладой душой, не мог жыць без працы. І неяк пад восень ён прыйшоў у Слаўгарадскую МТС і сказаў:

— Не магу сядзець рукі склаўшы... Хачу працаваць механізатарам.

Мацвееў быў прыняты ў МТС слесарам. І праз некаторы час усе ў МТС пераканаліся, што моцная воля юнака перамагла яго калецтва. На рамонце машын Мікалай выконваў норму на 200—250 працэнтаў.

Здарылася так, што ў тую зіму МТС не прыслалі поршняў пускавога рухавіка і паплаўковых камер карбюратара. Дырэктар бедаваў: як быць, што рабіць? Без гэтых дэталей МТС не абыйдзецца. Неяк у майстэрні Мацвееў сказаў дырэктару:

— А вы не бядуйце, паспрабуем самі зрабіць.

Той падазрона зірнуў на Мікалая, нічога не сказаў, а сам падумаў: «Куды табе, хлопча!»

Але слоў на вецер Мікалай ніколі не кідаў. З таго дня ён не ведаў упынку — працаваў і ўдзень, і ўвечары, пакуль не дамогся свайго — поршні і паплаўковыя камеры, якія ён зрабіў, аказаліся не горшыя за заводскія.

Неспакойнае, няўрымслівае сэрца ў камсамольца Мацвеева. За зіму, якую прабыў ён у майстэрнях, юнак добра вывучыў камбайн і адзін з іх адрамантаваў і прыстасаваў так, каб можна было працаваць без ног. Калі Мацвееў выказаў жаданне пайсці на камбайн, дырэктар ужо не сумняваўся: ён ведаў настойлівасць і кемлівасць камсамольца. Прыехаў Мікалай на камбайне і ў свой родны калгас імя Молатава.

За жніво ён убраў збажыну з 350 гектараў пры плане ў 220 гектараў. Пад восень Мікалай навучыўся працаваць і на бульбаўборачным камбайне і дапамог сваім землякам хутчэй убраць бульбу.

Мікалай Мацвееў знайшоў сваё месца ў вялікім страі будаўнікоў комунізма. Зараз ён рыхтуе свой стэпавы карабель, каб павесці яго на шырокі прастор калгасных палёў.

— Каб узняць сельскую гаспадарку, датэрмінова выканаць пяцігодку ў сельскай гаспадарцы, нам трэба ўсім працаваць яшчэ лепш, — гаворыць Мікалай Мацвееў.

І ён выканае тое, што задумаў.

Магілёўская вобласць,
Слаўгарадскі раён.

І. БАДАЕУ.

# ТАЙНА ПАД ХВАЛЯМІ БАЛТЫКІ

7 верасня 1893 года пры загадкавых абставінах загінуў браненосец «Русалка».

Яшчэ летам гэты браненосец уваходзіў у склад вучэбна-артылерыйскага атрада, якім камандаваў контрадмірал Бурачок. У верасні курс артылерыйскіх стрэльб быў закончан, і атраду належала перайсці з Рэвеля, з пастаяннага месца сваёй стаянкі, у Кранштадт на зімоўку.

Бурачок загадаў камандзірам браненосца «Русалка» і кананерскай лодкі «Туча» зняцца з якара 7 верасня і пры спрыяльным надвор'і ісці разам у Гельсінгфорс, а адтуль шкерамі ў Біорке.

Калі караблі здымаліся з якара, было воблачна, вецер даходзіў да трох балаў. Першай знялася з якара «Туча» пад камандай Лушкова і пайшла наперад, а «Русалка», якая мела большы ход, ішла ззаду пад камандай Іеніша.

З раніцы вецер узмацняўся, пайшлі вялікія хвалі, каля 12 гадзін ён дайшоў да 9-ці балаў. Пачаўся дождж, і «Туча» згубіла з вачэй «Русалку», якая пачала ад яе адставаць пры выхадзе з Рэвельскага рэйда. Камандзір «Тучы» Лушкоў лічыў небяспечным зменшыць ход, баючыся вялікай спадарожнай хвалі, і, наважыўшы не чакаць браненосца, працягваў плаванне асобна. У 3 гадзіны дня «Туча» стала на якар на Гельсінгфорскім рэйдзе.

«Русалка» да Гельсінгфорса не дайшла. 9 верасня на востраў Крэмарэ хвалі выкідвалі разбітыя шлюпкі і іншыя рэчы, якія належалі браненосцу «Русалка». 10 верасня з розных партоў было выслана каля 15 ваенных суднаў для пошукаў загінуўшага карабля, але пошукі не далі ніякіх вынікаў. На «Русалцы» загінула 12 афіцэраў і 165 матросаў — увесь экіпаж карабля.

На пошукі «Русалкі» арганізоўваліся цэлыя экспедыцыі. Але яны нічога не знайшлі.

Толькі ў 1932 г. пры пошуках затанулай у Фінскім заліве падводнай лодкі вадалазы знайшлі на дне заліва браненосец «Русалку».

У Таліне на беразе мора быў пастаўлены помнік гераічнай камандзе «Русалкі».

М. ГАМАНЧУК.

# Жартоўны рэпартаж




Спартыўны суддзя Уладзімір Іванавіч Сімакоў прыслаў у рэдакцыю некалькі сваіх малюнкаў — своеасаблівы рэпартаж аб адной з сустрэч цяжкаатлетаў.

Вось першы малюнак. Тут паказаны вядомы беларускі цяжкавагавік Яўгені Новікаў і атлет лягчэйшай вагі Владзімір Стогаў. Жарт выкліканы яўнай неадпаведнасцю паміж уласнай вагой спартсмена і вагой, якую ён падымае. Суадносіны — зусім не ў карысць цяжкавагавікоў, якія, відаць, не ў поўнай меры выкарыстоўваюць свае «запасы магутнасці».




Другі малюнак парадыруе спартсменаў, якія, у запале спаборніцтваў, карыстаюцца няправільным прыёмам работы са штангай. Нажаль, гэта здараецца даволі часта.




Апошні жарт адрасаваны да тых, хто без сур'ёзных падстаў запальчыва ідзе на пабіццё рэкордаў. У такіх выпадках за ўрачыстым пачаткам — няўдалыя спробы падняць пераўвялічаную вагу... пыхценне... сапенне... і, нарэшце, штанга са злосцю кінута на памост. Трашчаць ні ў чым невінаватыя дошкі. «Ні рэкорда, ні памоста!»





# Не з тае нагі

А. ШУРПАЧ

Мал. С. Раманава.

Здарылася так, што Косця Рубец, новы інструктар райкома комсамола, перад самым адыходам на першае заданне (трэба было правесці сход комсамольцаў і моладзі ў калгасе «Ніва») сустрэў свайго далёкага сваяка Аўдзея Піліпавіча Анучкіна.

— Хо! Кіруючая кадра! Чуў, братухна, чуў! Расцеце, пераганяеце! Малайцы! — паціскаючы косцікаву руку, рагатаў Аўдзей Анучкін. — Вельмі рады! Даўно хацеў убачыць цябе. Цяпер не выкруцішся, ідзем да мяне. Пасядзім, пагаворым.

Ва ўтульным пакоі, за сталом, на якім стаялі дзве шклянкі чаю, неўзабаве сядзелі Косця і Аўдзей.

— Ты, братухна, не зважай на тое, што мяне ў раёне завуць райутыльанучкіным. Гэта ад зайздрасці да майго аўтарытэту. Эх, братухна, чым і кім толькі я не кіраваў за сваё жыццё! Якіх устаноў і арганізацый я не ўзначальваў! І усюды ў першую чаргу аб сваім аўтарытэце клапаціўся, аўтарытэт начальніка — галоўнае, не будзь я Анучкін. Начальнік — хай ён вялікі ці малы — непарушны аўтарытэт для падначаленага. А ў мяне быў і ёсць аўтарытэт, — і Аўдзей Піліпавіч салідна падняў угару куцаценькі, як сардэлька, палец.

— Возьмем маё цяперашняе становішча. Хм... райутыльанучкін! Але хай паспрабуюць яны так паставіць справу. У мяне мае агенты без майго ўказання зламанай іголкі не прададуць, ніводнай заваляшчай косткі не нарыхтуюць!

Анучкін сціснуў куртатыя пальцы ў кулак і патрос ім перад носам Рубца.

— Але затое і парадак, і павага! — Аўдзей Піліпавіч выцягнуў з партфеля акуратна складзены ліст глянцавітай паперы.

— Гэта рапарт! Мая сістэма! Лепшы агент дакладвае, слухай: «Паважаны Аўдзей Піліпавіч! Выконваючы Вашы ўказанні, разгортваючы пад Вашым непасрэдным кіраўніцтвам работу, дакладваю, што...» Там далей нецікава, пра анучы, косткі, галошы, — скорагаворкай прабег Анучкін. — Вось на што звярні ўвагу, — усюды зварот да мяне з вялікай літары, на машынцы надрукавана!

— Так і запамятай, братухна, ні ў чым не давай поваду для заціску аўтарытэту, трымай сябе адпаведна і з вышэйшым начальствам. Ледзь дзе пранюхаў, што пад аўтарытэт падкопваюцца — пажарным парадкам самыя строгія меры, — закончыў павучэнне Аўдзей Піліпавіч.

Дружна, як заўсёды, сабраліся комсамольцы і моладзь калгаса «Ніва» на сход. Паколькі тут быў новы чалавек, Косцік, аўдыторыя трымала сябе стрымана, насцярожана.

Косця трымаўся асобна. Як толькі мог, нацягнуў найафіцыяльнейшую маску на твар, стан выцягнуў, быццам аршын праглынуў. Ажно ўспацеў бядак, так стараўся «трымаць аўтарытэт».

Віктар Пішчык, сакратар, адкрыў сход, абралі прэзідыум, нехта з паперкай падняўся на трыбуну і прапанаваў увесці ў склад прэзідыума і самога Рубца.

Усё як мае быць, ніякіх адступленняў ад анучкіных догмаў не заўважыў Рубец і ў дакладзе сакратара.

Пачаліся спрэчкі. Першай паднялася Кацюша Варанец. Косця насцярожыўся, бо ў спісе прамоўцаў, якія павінны выступаць, такога прозвішча не значылася. Ён глянуў запытальна на сакратара, але той глядзеў у стол і ціхенька толькі стукаў алоўкам.

Ох, і выступленне-ж было! Разносіла Каця сакратара, як кажуць, і справа, і злева, і зверху, і знізу. Прыпомніла яна трохдзённую гулянку і трыццаць працадзён за чатыры месяцы. І ўсё гэта так едка, так учэпіста.

Папала члену камітэта Пятру Калашыне за частыя хуліганствы ў клубе. Бы сапраўдная актрыса, паказала ў асобах, як Марыя Сцяпанчык, настаўніца, хадзіла да Каўтуніхі прываражваць Данілу Прахорчыка. Тут ужо смеху ніяк не стрымацца, і ён дружна выбухнуў.

Цярпець далей было немагчыма. Гэта-ж падкопванне пад аўтарытэты. Гэта ўжо звыш усякай меры!

— Загадваю спыніць блазенства! — ледзь помнячы сябе, грымнуў Рубец. — У што ператварылі такі важны сродак выхавання моладзі! Таварыш Пішчык! Куды глядзелі! Да чаго давялі арганізацыю! — прымаў пажарныя меры Рубец.

— У такі адказны момант, калі мы павінны напружыцца і натужыцца, падцягнуцца і напнуцца, тут поўны развал! Вы, таварыш Варанец, чым займаліся ў часе вайны?

— Пехатой пад стол падарожнічала, — крыкнуў хтосьці ў адказ. І адразу-ж зазвінелі ад выбуху смеху шыбы ў вокнах.

Косця аслупянеў, туман заслаў яму вочы, здрантвелі рукі, ногі, язык. А калі ён ужо ачуняў, дык перад ім бялелі толькі адшліфаваныя сядзенні крэслаў калгаснага клуба...

Аж рыпела і пырскала пяро, з такой злосцю на падрыўшчыкаў аўтарытэту пісаў Косця рапарт першаму сакратару райкома комсамола.

Сакратар, пасмейваючыся, чытаў сачыненне інструктара. Потым строгімі вачыма доўга глядзеў на Косцю і ўрэшце сказаў:

— Прабачце, Рубец, сядайце, вінават, што раней не запрасіў. Раскажыце, як было.

Расказаў. Не ўтаіў. Пра анучкінскія догмы, пра сход. Косця расказваў, а ў сакратара смяшок спачатку ледзь іскрыўся, затым рос і рос і выбухнуў.

— Ой! Замарыў! Не з тае нагі ты пачаў, брат, а вінаваты і мы, што даверваем іншы раз важную справу Анучкіным.

Аляксей ЗАРЫЦКІ

## ДОБРАЕ ІМЯ

Быў Іван,
Цяпер ён Жан,
Мінскі цень ён парыжан.

На Палессе вёрст за трыста
Я заехаў.
Справа горш,
Сустракаю трактарыста,
Падае руку ён:
— Жорж.

Выпіўшы, крычаў:
«Бі ў рыла!»
Дзед калісь на ўсю карчму.
І за гэты крык — Бірыла —
Далі прозвішча яму.

Іншым хоча ўнук зрабіцца:
Ён — Берылла праз два эль,
Чужаземец трошкі, быццам,
А не з нашых ён зямель.

Быццам з дальняй ён краіны,
Дзе ні бульбы, ні балот,
Дзе масліны, апельсіны
Самі падаюць у рот.

Паглядзіце вокам дбайным
У любы мяшчанскі кут.
Ходзіць з імем незвычайным
Там звычайны шалапут.

Вось Раберт,
А вунь Матыльда,
Ганну Жаннаю завуць:
Ім карціць увагу шыльдай
Незвычайнай прыцягнуць.

І балбочуць гаваркія
Аб капеечнай красе:
— Мы, вядома, не такія,
Не такія, як усе.

Неразумныя забавы.
Дзе-ж, таварыш, акрамя
Слаўнай справы,
Добрай справы,
Возьмеш добрае імя?

Край вялікі лёг шырока.
Спраў для усіх даволі ў ім.
Дакажы ты кожным крокам,
Кожным подыхам сваім,

Што гатоў за наша шчасце,
За працоўны наш народ
Сілы ўсе свае пакласці,
Не прасіць узнагарод.

І якой вялікай будзе
У цябе сяброў сям'я.
Назавуць з пашанай людзі
Тваё простае імя —
Тваё добрае імя.




пад рэдакцыяй майстра спорту
**А. СУЭЦІНА**

### ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

...першы міжнародны турнір, прысвечаны памяці М. І. Чыгорына, быў у Пецярбургу ў 1909 годзе. Пераможцамі былі чэмпіён свету Э. Ласкер і малады чэмпіён Расіі А. Рубінштэйн. Абодва першыя прызёры прайгралі свае партыі майстру Ф. Дуз-Хацімірскаму, у сучасны момант заслужанаму майстру спорту. У «турніры аматараў», які адбываўся адначасова, першае месца ўзяў будучы чэмпіён свету А. Алёхін.

... апошні раз М. І. Чыгорын прымаў удзел у міжнародным турніры ў верасні 1907 г., у Карлсбадзе. Цяжка хворы, Чыгорын сыграў няўдала, і першае месца атрымаў яго суайчыннік Рубінштэйн.

... міжнародны турнір у Н'ю-Йорку (1889 г.) працягваўся роўна два месяцы: 20 удзельнікаў ігралі кожны з усімі ўдзельнікамі па дзве партыі. Апрача таго, пераможцы турніра Чыгорын і Вейс сыгралі адзін з другім матч з чатырох партый. Такім чынам, ім трэба было сыграць усяго 42 партыі.

... на міжнародным турніры ў Вене (1903 г.) усе партыі былі сыграны каралеўскім гамбітам. Першае месца заняў М. І. Чыгорын, які, як вядома, быў непераўзыйдзеным майстрам у гамбітнай ігры. На гэтым турніры было 10 удзельнікаў, якія ігралі па дзве партыі з кожным удзельнікам турніра. Чыгорын набраў 13 ачкоў.

... першае міжнароднае выступленне Батвінніка адбылося, калі ён меў 15 год. У 1926 годзе ў матчы Ленінград — Стакгольм Батвіннік на 5-й дошцы выйграў 1,5 ачка ў Штольца, які цяпер лічыцца адным з мацнейшых шахматыстаў Швецыі. Ленінградцы выйгралі ў Стакгольма з вынікам 12,5 : 11,5.

... у Гранавітай палаце ў Крэмлі захоўваюцца шахматы, якія заўсёды браў з сабою ў паходы Пётр І.

... у інстытуце літаратуры Акадэміі навук СССР захаваўся экземпляр кнігі вядомага французскага шахматыста Франсуа Філідора, якая належала Пушкіну. На палях кнігі ёсць паметкі і заўвагі вялікага паэта.

... перагаворы аб арганізацыі матча паміж Ласкерам і Капабланкам працягваліся 10 год — з 1911 па 1921 год.

... найкарацейшая шахматная партыя, іграная ў турніры, мела ўсяго 4 ходы — гэта партыя Лазар — Кабо з чэмпіяната Францыі. Пасля ходаў: 1. d4 Kf6, 2. Kd2 e5, 3. de Kg4, 4. h3 Ke3! белыя здаліся, таму што пагражала або страта ферзя, або мат.

...у турнірах апошніх год найкарацейшай была партыя Батвіннік — Шпільман (Масква, 1935 г.), якая закончылася паражэннем Шпільмана ўжо на 11 ходзе. На адзін ход болей мела партыя Тайманаў — Кірылаў (поўфінал XVI чэмпіяната СССР у 1947 годзе), якая закончылася перамогай белых.

Пры знаёмстве з тэорыяй шахмат кожны шахматыст абавязаны перш за ўсё вывучыць гісторыю шахмат. Кожны новы кірунак, новая школа і яе паслядоўнікі, сутыкненне двух процілеглых думак, кожны матч або турнір уносілі нешта сваё, развівалі шахматную думку, уздымалі шахматнае майстэрства на больш высокую ступень развіцця.

**Праверце сябе, ці ведаеце вы:**

1. Хто быў першы рускі майстар (папярэднік М. І. Чыгорына)?
2. Хто першы выступіў у якасці прадстаўніка Расіі на міжнародных турнірах?
3. Хто быў першы рускі шахматыст-журналіст?
4. Калі і дзе выдадзены быў першы на рускай мове дапаможнік па шахматах і хто яго аўтар?
5. У якім годзе афіцыяльна ўстаноўлена званне чэмпіёна свету?
6. Хто быў першы чэмпіён свету па шахматах?
7. Калі і дзе ўпершыню быў выкарыстаны падвойны шахматны гадзіннік?
8. Колькі матчаў на першынство свету адбылося ў Маскве?
9. Які матч на першынство свету быў самы працяглы (колькі партый, дзе і калі адбываўся, хто былі праціўнікі)?
10. Які матч на першынство свету быў найкарацейшы?

---

## ШАШКІ

Вучань трэцяга класа другой сярэдняй школы г. Маладзечна Анатоль Шабалін праслаў у рэдакцыю тры задачы. Прапануем чытачам знайсці рашэнне.

**Задача 1**



**Белыя:** д. c7, e1, пр. b2, c1, d4, e3, g1 (7).
**Чорныя:** д. f8, пр. a7, h2 (3).
Заперці дамку і простую.

**Задача 2**



**Белыя:** д. c3, d8, пр. b4, b6, f4, h2 (6).
**Чорныя:** д. e1, пр. f8 (2).
Заперці простую.

**Задача 3**



**Белыя:** д. a5, a7, f4, g3, пр. c5, f6, g7 (7).
**Чорныя:** д. h2, пр. a3, h8 (3).
Заперці дамку і простую.

# Для адпачынку



## КРАСВОРД

**Склаў Н. КУРЫЛЬЧЫК.**

**Па гарызанталі:** 7. Заснавальнік друкарскай справы на Беларусі. 9. Газ, хімічны элемент. 10. Сталіца дэмакратычнай рэспублікі. 11. Шкляная трубка для набірання малых частак вадкасці. 12. Гатунак цукру. 13. Сталіца АССР. 14. Складаная частка машыны. 19. Дакумент аб адукацыі. 22. Моцна пахучы поўкустарнік. 23. З'ява прыроды. 24. Першы кругасветны падарожнік. 25. Легендарны беларускі герой Айчыннай вайны. 26. Балкон, тэраса. 27. Неабходная, пастаянная прыкмета прадмета. 28. З'ява, здарэнне. 30. Музычны інструмент. 32. Сельскагаспадарчая машына. 37. Кароткае выразнае выслоўе. 38. Безлісцёвае сярэднеазіяцкае дрэва. 39. Засцерагальнае памяшканне на ваенных суднах ад пападання снарадаў і бомб. 40. Пустыня ў Амерыцы. 41. Судна для перавозкі лесу. 42. Частка кветкі.

**Па вертыкалі:** 1. Атрад аховы. 2. Назіральная вышка. 3. Палажэнне, прымаемае без доказу. 4. Група музыкантаў. 5. Рабочы пакой. 6. Хімічны элемент. 8. Памяшканне перад галоўнай залай. 9. Горад у Комі АССР. 15. Афіцыйны дакумент. 16. Злучэнне баявых караблёў. 17. Раённы цэнтр у Віцебскай вобласці. 18. Від вязу. 19. Абаронца на судзе. 20. Спартыўнае таварыства. 21. Частка свету. 28. Падводнік. 29. Вялікая птушка. 30. Магазін. 31. Прыбор для рэгулявання сілы току. 33. Сукупнасць усіх снасцей судна. 34. Тлумачэнне аўтара да тэксту п'есы. 35. Возера ў Венгрыі. 36. Палёт над вуглом насля ўдару.

---

### АДКАЗЫ

**на красворд, змешчаны ў № 6 часопіса**

**Па гарызанталі:** 5. Гімнасцёрка. 8. Гарнізон. 9. Вяндліна. 11. Згода. 13. Цялятніца. 14. Ханка. 18. Клінкер. 21. Фартуна. 22. Карагод. 23. Пралог. 24. Паўлаў. 28. Асфальт. 29. Амбіцыя. 30. Алма-Ата. 33. Талаш. 34. Гібралтар. 35. Цытра. 38. Анархізм. 39. Нікалаеў. 40. Грамадзянін.

**Па вертыкалі:** 1. Агонь. 2. Хмызняк. 3. Крыніца. 4. Каслі. 6. Пак Дэн Ай. 7. Індастан. 10. Атаман. 12. Галаваломка. 15. Канструктар. 16. Федэрацыя. 17. Сартавала. 19. Лагойск. 20. Кобальт. 25. Світанне. 26. Калгас. 27. Абарыген. 31. Сілікат. 32. Ташкент. 36. Араго. 37. Алень.

### ПАПРАЎКА

У мінулым нумары ў задачы № 3 на a3 павінна стаяць простая чорная.

### ЗАГАДКАВАЕ ФОТО

Адгадайце, што на ім паказана.



# Догляд скуры

Правільны догляд скуры захоўвае яе ад захворванняў і заўчаснага завядання. У залежнасці ад агульнага стану арганізма, ад пары году, атмасферных уплываў, умоў працы і быту скура функцыяніруе па-рознаму і таму патрабуе рознага догляду.

Асабліва неабходна старанна даглядаць сваю скуру людзям, якія працуюць у гарачых цэхах. Для захавання ад паражэнняў скуры на вытворчасці неабходна насіць ахоўныя маскі, акуляры, змазваць скуру рознымі ахоўнымі пастамі, напрыклад мыльна-ланалінавай пастай Сяліскага або пастай Рахманава. Пасля работы вымывацца пад душам з мылам. Скуру твару і рук трэба змазваць борным вазелінам або іншым тлустым крэмам.

Людзям, якія працуюць на вытворчасці ў пыле, трэба пасля работы старанна прамыць твар губкай ці мяккай анучкай і працерці вадкім крэмам («Міндальнае малако», «Бархатны крэм») або $1/_2$-працэнтным растворам нашатырнага спірту.

Тым, хто працуе на адкрытым паветры, пры пастаянным уздзеянні сонца і ветру, неабходна надзяваць капелюшы з вялікімі палямі, закрываць твар светлай хусткай, насіць дымчатыя акуляры, якія засхоўваюць вочы ад сонечных праменняў і пылу. Перад выхадам на вуліцу скуру неабходна змазваць так званымі «ахоўнымі» крэмамі, напрыклад «Крэмам ад загару» або «Вясеннім», і прыпудрываць. Акрамя іх, можна карыстацца крэмам «Чыстацел» і «Метамарфоза». Гэтыя крэмы таксама адбельваюць скуру. Аднак гэтыя крэмы супрацьпаказаны людзям, якія хвараюць на ныркі.

Вялікае значэнне мае дамашні догляд твару і рук. Сухую скуру не рэкамендуецца мыць вадою штодзённа, лепш ачышчаць яе два разы ў дзень ватай, змочанай «Бархатным крэмам», «Міндальным малаком» або падагрэтым раслінным маслам. Калі ўсё-такі трэба памывацца вадой, дык перад гэтым твар змазваюць любым тлустым крэмам або добра расцёртай сумессю, якая складаецца з 1 жаўтка, 1 чайнай лыжкі раслiннага масла і 1 чайнай лыжкі вады. І толькі праз 10—15 хвілін твар мыюць вадой пакаёвай тэмпературы. Для змякчэння вады дадаюць 1 чайную лыжку пітной соды на 1 літр вады або 0,5 чайнай лыжкі буры на літр вады. Калі скура вельмі сухая і лушчыцца, рэкамендуецца 2—3 разы ў тыдзень (можна часцей) накладваць змякчальныя маскі (1 жаўток, 1 чайная лыжка мёду) і гусцей змазваць твар тлустым крэмам.

Тлустую скуру лепш мыць з мылам (дзіцячае, вазелінавае, гліцарынавае, борнацімолавае). Для абястлушчвання, ачышчэння, сцягвання пор твар праціраюць 1—2 разы ў дзень туалетнай вадой «Рамашка» або 0,5-працэнтным растворам нашатырнага спірту ці растворам настойкі календулы [1] (1 сталовая лыжка на шклянку вады). Добра ачышчае скуру і сцягвае поры састаў, які можна лёгка прыгатаваць у дамашніх умовах: квасцоў — 1 чайную лыжку, гарэлкі — 0,5 шклянкі або адэкалону — 0,5 шклянкі, гліцарыны — 0,5 чайнай лыжкі.

У выпадку ўзнікнення сонечнага апёку або апёку ад промневага цяпла прымяняюць прымочкі з ахаладжваючых вадкасцей — свінцовай ці борнай вады, бураўскай вадкасці, вадкай пудры, якая складаецца з цынку, тальку, гліцарыны і вады ў роўных частках.

У вытворчых умовах, дзе скура рук хутка забруджваецца, прапітваецца машыннымі маслам і ахаладжваючымі эмульсіямі, рукі трэба даглядаць асабліва старанна. Мыць рукі лепш за ўсё цёплай вадой і тлустым мылам — туалетным. Пасля мыцця рукі неабходна выцiраць насуха мяккім ручніком і змазваць вазелінам або любым тлустым крэмам, уціраць у вільготныя рукі гліцарыну, велюр або сумесь, якая складаецца з гліцарыны — 2 сталовыя лыжкі, нашатырнага спірту — 0,5 чайнай лыжкі, ліманнага соку — 1 сталовая лыжка.

Не менш важны догляд скуры для тых, хто працуе ў халодных цэхах і ў асенне-зімовы час на адкрытым паветры.

Каб пазбегнуць шкоднага дзеяння холаду на скуру, неабходна прымяняць своечасова прафілактычныя мерапрыемствы: умацаванне агульнага стану арганізма, ужываць у страву больш вітамінаў, займацца фізкультурай, перад выхадам на вуліцу змазваць адкрытыя часткі скуры любым тлушчам: вазелінам, тлустым крэмам, свіным салам і да т. п. Рэкамендуецца насіць цёплую прылягаючую вопратку, але каб яна не перашкаджала рухам. Нельга насіць тугія рызінкі, паясы, якія выклікаюць застой крыві і ўзмацняюць дзеянне холаду. Больш увагі ўдзяляць таксама і дамашняму догляду твару і рук. Ён праводзіцца таксама, як і пры рабоце ў гарачых цэхах, з той толькі розніцай, што для таго, каб пазбегнуць застою крыві, рэкамендуецца мыццё вадой кантраснай тэмпературы: спачатку халоднай, затым гарачай, пераменна, і заканчваць мыццё халоднай вадой.

Для лячэння абмарожвання рэкамендуюцца ўмацоўваючыя сродкі: рыбіны тлушч, канцэнтрат вітаміну «А», «Е», жалеза, мыш'як, масаж абмарожаных частак цела, мясцовыя ванны кантраснай тэмпературы.

**Л. РОЗЕНТУЛ,**
урач-касметолаг.

[1] Календулу можна набыць у гамеапатычнай аптэцы, якія ёсць у Маскве і Ленінградзе.

# МОДЫ

1. Сарафан з кароткай кофтачкай з набіўнога паркалю. Ліф сарафана спераду заканчваецца двума закругленымі мысікамі. Брэтэлі цэльнакроеныя з перадам ліфа, злучаюцца ззаду на шыі. Спадніца з 12 клінoў, прысабраных у таліі, з настрочанай унізе фальбонкай. Кофтачка без рукавоў, з каўнерыкам з белага піке.

Ніжэй змешчаны ўмоўныя абазначэнні для выкрайкі і памяншаны чарцёж крою.

Перад раскроем матэрыялу трэба ўлічыць, што на выкрайцы перад ліфа, падборт з каўнерыкам і клінні спадніцы разрэзаны на часткі. Месцы іх злучэння абазначаны пунктірам з галачкамі. Толькі злучыўшы часткі па галачках на паперы, можна кроіць матэрыял. Клінні спадніцы чаргуюцца: два вузкія, адзін шырокі. Даўжыня фальбонкі — 4 м 60 см. Расход тканіны на мадэль — 7 м 50 см пры шырыні 0,61 м, на аддзелку кофтачкі — 0,65 м пры шырыні 0,75 м.

**Аўтар мадэлі — Е. ІСТОМІНА,**
**канструктар — А. ЛАПІДУС.**
**Аддзел мод ГУМа.**

2. Сукенка-касцюм з тканіны ў палоску. Кароткі жакет прылягаючай формы. Лінія бёдраў перакрэслена хлясцікамі. На каўнерыку і хлясціках тканіны падабраны ў елачку. Спадніца трохшоўная, спераду раскошная. Блузка з гладкай тканіны.

**Аўтар мадэлі — Е. ІСТОМІНА.**
**Аддзел мод ГУМа.**

3. Сукенка, шапачка, парасончык і сумка з белага палатна. Ліф сукенкі прылягаючай формы з кароткімі цэльнакроенымі рукавамі. Спадніца клёш. Сукенка і парасон аддзеланы шырокімі паласамі з паркалю ў вузкую палоску (сінюю і белую) і яркасіняй бейкай.

**Аўтар мадэлі — А. УСЕНІНА.**
**Атэлье № 40 «Мосінадзенне».**

4. Сукенка з набіўнога паркалю. Падоўжаны ліф прылягаючай формы, без рукавоў з вялікім каўняром. Да нізу ліфа прышыты пояс, які заканчваецца бантам.

Спадніца закладзена складкамі.

**Аўтар мадэлі — Л. АВЯР'ЯНАВА.**
**Аддзел мод ГУМа.**




На першай старонцы вокладкі: **На Гомельскім механізаваным шклозаводзе. Комсамолкі, газаўшчыца Галіна Усік** (злева) **і кантралёр Раіса Вайтэнка аглядаюць тэрматрывалыя шкляныя трубы. Гэтыя трубы выкарыстоўваюцца на прадпрыемствах хімічнай прамысловасці.**

Фота А. Дзітлава.

На чацвёртай старонцы вокладкі: **Летам у лесе.**

Фота М. Ананьіна.

**Рэдактар Аляксей КУЛАКОЎСКІ**

**Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА, Дзмітры БАЛЬШОЎ, Янка БРЫЛЬ, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК, Георгі ШЧАРБАТАЎ (намеснік рэдактара).**

**«Молодость».**
**Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал ЦК ЛКСМБ.**

**Афармленне В. Грамыкі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі.**
Карэктар І. Сакалоўскі.

**Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефон 93-854.**

**Фармат паперы 70 X 108 1/8. Друк. арк. 4. Вуч-выд. арк. 7.**
Здадзена ў набор 13.VI.56 г. Падпісана да друку 6.VII.56 г.

АТ 07640 Тыраж 20 000 экз. Цана 2 руб. Заказ 465.

**Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск, праспект імя Сталіна, 105.**

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

